Іларыён ІГНАЦЕНКА, Аляксей КАРОЛЬ

# Усевалад ІГНАТОЎСКІ І ЯГО ЧАС

Мінск, 1991

Акадэмік Іларыён Ігнаценка і кандыдат гістарычных навук Аляксей Кароль даследуюць дзейнасць і час Усевалада Ігнатоўскага — аднаго з буйных дзеячаў беларускай навукі і культуры, жыццё якога жорстка і трагічна абарвала сталінская палітыка рэпрэсій.

*«Узяўшы ў рукі ясны ліхтарык,
павінны мы крок за крокам
абысці мінулае нашай бацькаўшчыны».*

Напісаўшы гэтыя словы ў 1921 годзе ў прадмове да другога выдання свайго «Кароткага нарыса гісторыі Беларусі», Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі нават уявіць не мог, што вызначаная ім задача паўстане з новай актуальнасцю аж у сярэдзіне 80-х. І гісторыкам у кантэксце новай з'явы, якая атрымае назву перабудовы, зноўку прыйдзецца распальваць амаль патушаны ў змрочную пару сталіншчыны і застою ясны ліхтарык. Каб высвеціць дарогу да праўды гісторыі, ачысціць яе ад свядомых і несвядомых скажэнняў, ілжы, каб аднавіць на скрыжалях яе выкрасленыя, запэцканыя некалі імёны сумленных сыноў народа.

І зусім не думаў ён, не гадаў, што напісаныя ім словы прагучаць своеасаблівым запаветам будучым даследчыкам яго ўласнага жыцця і дзейнасці. Таму што заўсёды не аб славе — аб справе, аб людзях, роднай Беларусі дбаў. Таму што не мог прадбачыць трагічнага абрыву свайго жыцця, ясны ліхтарык якога ўсяго праз дзесяць год ён патушыць сам: каб не скарыцца сцюдзёным вятрам хлусні і зняваг, каб не здрадзіць сабе і свайму на-

роду. Таму што не ўяўляў свайго пакутлівага жыцця пасля смерці: за заслонай маўчання, з кляймом «нацдэм», «вораг народа».

Кляймо знята. Заслона падымаецца, і на авансцэне супярэчлівай і шматпакутнай, гаротнай і гераічнай гісторыі Беларусі сярод найбуйнейшых яе дзеячаў усё больш выразна паўстае магутная постаць Усевалада Ігнатоўскага — рэвалюцыйнага змагара, выдатнага палітыка, таленавітага вучонага-гісторыка. Аднаго з тых, хто ў тэорыі і на практыцы ўнёс вырашальны ўклад у справу дзяржаўнага самавызначэння беларускага народа, яго сацыяльна-эканамічнага і культурнага адраджэння, хто заклаў трывалы падмурак беларускай савецкай навукі, гістарычнай — у асаблівасці.

## ВЫБАР ШЛЯХУ

Пачнём ад вытокаў. Яны ў вёсцы Такары Брэсцкага павета Гродзенскай губерні. Тут 19 красавіка 1881 года ў сям'і настаўніка народнага вучылішча Макарыя Іванавіча Ігнатоўскага і яго жонкі Соф'і Вікенцьеўны (роджанай Смольскай) нарадзіўся першынец, якому пры хрышчэнні 6 мая далі імя Усевалад. Праз тры гады сям'я папоўнілася яшчэ адным сынам — Мікалаем, а яшчэ праз тры — дачкой Любай. У Такарах, гэтым глухім куточку Берасцейшчыны, і прайшло дзяцінства Усевалада. Можна з упэўненасцю сказаць — беднаватае: сям'я ж не маленькая, а народныя настаўнікі — вясковыя настаўнікі — былі самай нізкааплатнай катэгорыяй у сістэме Міністэрства асветы. Беднаватае, але ж на вольнай прыродзе, сярод сялян, у сямейнай атмасферы, адметнай, дзякуючы бацьку, духоўнасцю, спачуваннем гаротнаму жыццю сялянства.

Макарый Іванавіч быў першым з сялянскага роду Ігнатоўскіх, якому ўдалося атрымаць адукацыю. У 1871 годзе ён скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семіна-

рыю, працаваў настаўнікам у Матыкальскім, Палавецкім, а з 1878 у Такарскім народных вучылішчах. У кастрычніку 1890 года быў пераведзены ў Дубінскае вучылішча і адначасова зацверджаны псаломшчыкам Дубінскай Святаўспенскай царквы, у 1899 годзе пасвячоны ў сан дыякана, а ў 1901 — іерэя з назначэннем свяшчэннікам у Быценскую Петрапаўлаўскую царкву. Працаваў старанна і сумленна, аб чым сведчаць неаднаразовыя ўдзячнасці, грашовыя ўзнагароды ад Гродзенскай дырэкцыі народных вучылішч. «За труды по первой народной переписи населения в 1897 г.», як адзначана ў яго службовым фармуляры, быў узнагароджаны Цэнтральным Статыстычным камітэтам «темнобронзовой медалью с правом ношения на груди на ленте государственных цветов». З уладамі, як бачым, не канфліктаваў, ідэй сацыяльнага пратэсту ў сялянскія масы не нёс, нёс веды сялянскім дзеткам і маральнае суцяшэнне дарослым. Вясковы асветнік — бадай так можна вызначыць галоўную лінію яго жыцця, нягледзячы на пераход з адной прафесійнай каляіны ў другую.

Гэтай лініі, відаць, прытрымліваўся і ў сямейным выхаванні дзяцей, пазбягаючы бацькоўскага дыктату, рэлігійнай апантанасці, пакідаючы ім прастору для ўласнага выбару — як светапогляду, так і жыццёвай дарогі. Ва ўсякім разе ні Усевалад, ні Мікалай не абяруць рэлігійную дзейнасць, хаця ўсе і атрымаюць першапачатковую духоўную адукацыю *. Безумоўна, не забываў бацька і сваіх каранёў, беларускай мовы. Менавіта вясковая народная інтэлігенцыя, сялянская па паходжанню, больш за іншых захавала пачуццё любові да роднага краю, яго гісторыі і мовы. Жывая крынічная вада народнага жыцця, народнага быту беларускай вёскі, «мужыцкай» мовы, вада, у якой з маленства купаліся іх дзеці, праз гады з

* Мікалай пасля заканчэння Літоўскай духоўнай семінарыі паступіць на медыцынскі факультэт Пецярбургскага універсітэта. Люба скончыць Віленскае епархіяльнае марыінскае вучылішча. Аб далейшым іх лёсе нам пакуль што невядома.

новай сілай у дзецях жа, што стануць дарослымі, ажывіць нацыянальную свядомасць.

З другога боку, такое кантрастнае спалучэнне суровай рэчаіснасці з цягай да высокай духоўнасці — спрыяльная глеба для абуджэння ў дапытлівых душах вальналюбства і вальнадумства, нават насуперак пажаданням бацькоў.

Паспытаўшы асалоду ведаў, Макарый Іванавіч зрабіў усё магчымае, каб даць адукацыю дзецям. Ён уладкоўвае сына Усевалада ў Віленскае духоўнае вучылішча, пасля заканчэння якога той паступае ў Літоўскую духоўную семінарыю. Аднак пасля пятага класа быў звольнены, як сам адзначыць пазней, з-за дробязі. Прадоўжыць вучобу ўдалося ў Магілёўскай семінарыі, якую з поспехам, па першаму разраду, скончыў у 1902 годзе. Адразу паступіў у Імператарскі Санкт-Пецярбургскі гісторыка-філалагічны інстытут. Вучыўся натхнёна, лёгка і з добрымі вынікамі: адзнакі за другі курс, гэтак жа як і за сяместр трэцяга,— толькі добрыя і выдатныя.

Але ў верасні 1905 года, згодна ўласнаму прашэнню і з дазволу міністра народнай асветы, быў звольнены з інстытута. І ў той жа час падаў прашэнне аб залічэнні ў Юр'еўскі універсітэт на трэці курс гісторыка-філалагічнага факультэта (па аддзяленню гісторыя). У гэтай просьбе яго падтрымаў і дырэктар Пецярбургскага інстытута. Быў прыняты, паспяхова адвучыўся адзін курс і зноў звальняецца, матывуючы намерам прайсці выпрабаванні ў Санкт-Пецярбургскі універсітэт на гісторыка-філалагічны факультэт. Здае шэсць экзаменаў з дзевяці і нечакана ўвосень 1907 года ад'язджае ў г. Ладзейнае Поле Аланецкай губерні, дзе жыве і працуе настаўнікам да студзеня 1909 года, адтуль на паўгода вяртаецца на радзіму ў Гродзенскую губерню, ва ўрочышча Загрыдава Слонімскага павета. У жніўні аднаўляецца ў Юр'еўскім універсітэце, які з бляскам, на выдатна, і заканчвае ў 1911 годзе. Ва ўзросце 30 гадоў.

Такія асноўныя вехі яго жыццёвага шляху на гэтым прамежку часу, як яны праглядаюцца з афіцыйных дакументаў, што захаваліся ва ўласнай справе студэнта Юр'еўскага універсітэта У. М. Ігнатоўскага. У Пецярбургу, у асяроддзі разначыннага вальнадумнага студэнцтва, у прасякнутай рэвалюцыйнымі токамі атмасферы сталіцы, вызначаецца і палітычны выбар Усевалада Ігнатоўскага. Як сам адзначаў пазней у шэрагу анкет, аўтабіяграфіях, на гутарках у Партыйнай калегіі ЦКК КП(б)Б, ён далучаецца да студэнцкага гуртка партыі эсэраў і за ўдзел у антыўрадавых студэнцкіх хваляваннях, дэманстрацыях двойчы на кароткі тэрмін арыштоўваўся. Але да суда справа не даходзіла. Гэтым, відаць, і тлумачыцца яго паспешлівае звальненне з інстытута, перавод у Юр'еўскі універсітэт. Нечаканы ад'езд у гарадок з паэтычнай назвай Ладзейнае Поле — не што іншае, як адміністрацыйная высылка. Не выпадкова пры аднаўленні ў Юр'еўскім універсітэце пасведчанне аб палітычнай надзейнасці Ігнатоўскі высылае не адразу і не ад аланецкага губернатара, як абяцае ў заяве, а ад гродзенскага. Але, па ўсяму відаць, свой удзел у рэвалюцыйных падзеях ён крыху перабольшваў, што зразумела: рэвалюцыйная біяграфія шанавалася, арышты, турмы і ссылкі ўспрымаліся за ўзнагароды. Ну, а падчас цкавання як нацдэма — гэта ўжо было своеасаблівай мерай самавыратавання: яму наогул адмаўлялі ў рэвалюцыйнай дзейнасці, абвінавачвалі ў манархізме.

У Ладзейным Полі сустрэў Усевалад Арэф'еву Марыю Севасцьянаўну, таксама высланую за рэвалюцыйную дзейнасць, дачку вядомага па тым часе народніка. Пакахалі адзін аднаго, неўзабаве пажаніліся. 4 ліпеня 1909 года ўжо ў Загрыдаве нарадзіўся іх першынец — сын Міхаіл. Так што Юр'еўскі універсітэт ён заканчваў ужо жанатым сталым чалавекам, гадуючы адначасова сына. Трэба было мець вялікую ахвоту да ведаў, каб пры такіх няпростых абставінах завяршыць адукацыю. Пасля за-

канчэння універсітэта працуе выкладчыкам прыватнай гімназіі Вінаградавай у Вільні. У 1911 годзе сям'я Ігнатоўскіх папоўнілася яшчэ адным сынам, якога наракли Юрыем, а праз пяць гадоў і трэцім — Валянцінам. У ліпені 1914 года сям'я Ігнатоўскіх пераязджае ў Мінск, дзе ствараецца настаўніцкі інстытут, у які Усевалада Макаравіча прымаюць выкладчыкам гісторыі і эканамічнай геаграфіі. Аднак неўзабаве грымнула вайна, падкаціла да роднага парога, прымусіла паднімацца з абжытага месца, падняла, выцягнула ў бясконцыя бежанскія калоны, паставіла пад ружжо, апаліла непапраўнай бядой, звяла ў магілу мільёны жыхароў роднай Беларусі, можна сказаць, падарвала фізічныя і духоўныя сілы нацыі. Як аднавіць іх, узняць? На гэта пытанне прыйдзецца шукаць адказ і У. Ігнатоўскаму.

Ну, а пакуль яго таксама падхоплівае віхура ваеннага ліхалецця. Ён адпраўляе ў жніўні 1915 года сям'ю (жонку, сыноў, дзвюх сясцёр і маці) на радзіму жонкі — у сяло Боцманава Балашоўскага павета Саратаўскай губерні, а сам разам з інстытутам эвакуіруецца ў Яраслаўль.

У гэты складаны і бурны час палітычная пазіцыя У. Ігнатоўскага паступова схілялася да збліжэння з платформай беларускага нацыянальнага руху ў яго рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні. Яшчэ ў Юр'еўскім універсітэце, дзе панавалі радыкальныя настроі (як сярод студэнтаў, так і выкладчыкаў), ён, па ўласнаму сведчанню, упершыню задумаўся аб гістарычным мінулым беларускага народа, адчуў сапраўдны сэнс яго гісторыі. Інтарэс гэты паглыбляўся, але рэалізаваць яго ў якой-небудзь справе настаўнік гісторыі ў прыватнай гімназіі, вымушаны прытрымлівацца афіцыйнай версіі гісторыі Расійскай імперыі, не мог. Наадварот, вось парадокс: ён прымае ўдзел у выданні зборніка, прысвечанага 300-годдзю дынастыі Раманавых, а ў 1915-м атрымлівае ўзнагароду — ордэн Св. Станіслава трэцяй ступені пры адначасовым прысваенні чына калежскага асэсара.

Праз шмат гадоў гэтыя факты яго біяграфіі будуць кваліфікаваны «як яскрава контррэвалюцыйнае выступленне», паслужаць падставай для абвінавачвання яго ў манархічных поглядах, у адступніцтве ад рэвалюцыйных ідэалаў (хай сабе нават ідэалаў эсэраў, ужо адсунутых, згодна з сталінскай схемай гісторыі, з лагера саюзнікаў бальшавікоў у лагер праціўнікаў). Вульгарна-сацыялагічны падыход, неразборлівасць у сродках — відавочныя. Між тым зборнік уяўляў сабой усяго толькі апісанне юбілейных урачыстасцей у Віленскай акрузе, выдаваўся ён па распараджэнню папячыцеля акругі камісіяй выкладчыкаў гімназіі і вучылішч Вільні — усяго семнаццаць чалавек, у тым ліку Ігнатоўскі. Ці мог ён, малады педагог, які пільна хаваў сваё паднагляднае мінулае, адмовіцца ад удзелу ў падрыхтоўцы зборніка, рызыкуючы быць выкрытым, страціць працу, паставіць пад удар сям'ю? І ці быў у гэтым сэнс? Відаць — не. У іншым святле бачыцца і ўзнагарода, калі ўлічыць, што, па тагачасных парадках, настаўнікі гімназій перыядычна, пасля пэўнага тэрміну службы (нават не індывідуальна, а спісам), прадстаўляліся і да ордэна, і да чына. Калі аб чым і сведчаць гэтыя факты, дык аб высокім прафесійным майстэрстве У. Ігнатоўскага. Дададзім, што факты гэтыя ён і не ўтойваў.

Поўны абсурд — і з юрыдычнага, і з гістарычнага, і з чалавечага падыходу — судзіць, кляйміць чалавека на пачатку трыццатых за яго погляды пачатку стагоддзя, якімі б яны ні былі. Ды яшчэ пасля сацыяльнага разлому 1917 года, які адазваўся крутымі зменамі ў лёсах мільёнаў людзей. Але «жалезная» логіка сталіншчыны падпарадкоўвалася толькі законам уласнай мэтазгоднасці — самазахавання, самазацвярджэння любой цаной і таму ўзводзіла ў норму падаўленне іншадумства, знішчэнне маральнае, палітычнае, фізічнае сваіх праціўнікаў.

І ўсё ж ці не былі гэтыя гады ў жыцці У. Ігнатоўскага сапраўды гадамі адыходу ад рэвалюцыйна-дэмакра-

тычных ідэй, ад беларускай ідэі? Ці не былі яны гадамі, калі не згоды, то маўклівага кампрамісу з афіцыйнай версіяй гісторыі Расійскай імперыі, з афіцыйнай палітыкай, адпаведна якім Паўночна-Заходні край разглядаўся як «исконно русский», беларусы лічыліся часткай рускай нацыі, а мова іх — толькі «наречием» рускай. Знешнюю ж лаяльнасць Ігнатоўскага да рэжыму, яго адыход ад рэвалюцыйнай дзейнасці (эсэраўскай) адмаўляць не прыходзіцца. Адказ адназначны — не. У гэты час працягваецца праца розуму і душы па ўсведамленню гісторыі свайго народа, прычым у кантэксце гісторыі агульнарасійскай, больш таго — агульнаеўрапейскай. Таму асабліва спрыялі яго пераезд у Мінск, выкладчыцкая дзейнасць у настаўніцкім інстытуце. Відавочна, што без глыбокіх змяненняў у светапоглядзе, абуджэння патрыятычных пачуццяў зближэння Ігнатоўскага з беларускім нацыянальным рухам у 1915—1918 гадах не адбылося б. Не была б ажыццёўлена ім тая справа, якая адразу ж яго пазнавальны інтарэс да беларускага пытання перавяла ў плоскасць практычнай дзейнасці. Гаворка ідзе аб стварэнні ім у настаўніцкім інстытуце (ужо ў эвакуацыі ў Яраслаўлі) культурна-асветніцкай арганізацыі «Наш край». І без папярэдняга глыбокага вывучэння гісторыі беларускага народа ён не змог бы ў 1917—1918 гадах прачытаць для студэнтаў курс лекцый па гісторыі нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі. Без крыніц пад рукой, без, па яго выразу, «пільных падручных матэрыялаў». Прычым, лекцый, чытаных на цудоўнай беларускай мове. А ён жа яе нідзе, ні ў адной установе, што скончыў, пачынаючы з духоўнага вучылішча, не вывучаў (не значылася яна ў праграмах. Вывучаў рускую, нямецкую, грэчаскую, лацінскую, старажытнацаркоўнаславянскую — толькі не баларускую, і столькі год ёю не карыстаўся). Абудзілася, выходзіць, крыніца дзяцінства, ажывіла памяць.

Прапаганда ідэі «нацыянальнага адраджэння» — та-

кую мэту ставіла перад сабой і створаная Ігнатоўскім арганізацыя «Наш край». Паняцце «нацыянальнае адраджэнне» да таго часу ў асноўных сваіх пасылках атрымала ўжо даволі ясны змест: перш за ўсё нацыянальна-культурнае адраджэнне беларускага народа; абуджэнне яго нацыянальнай самасвядомасці, яго патрыятызму ў адносінах да роднага краю; ажыццяўленне ў наступным яго гістарычнага права (гэтак жа, як і любога іншага народа) на дзяржаўнае самавызначэнне, але не ў супрацьстаянні з іншымі нацыямі, не за іх кошт, а ў добрасуседстве, у супрацоўніцтве, у саюзе з імі. Аднадумцы ў адданасці гэтым асноватворным прынцыпам, удзельнікі беларускага нацыянальнага руху, аднак, разыходзіліся ў разуменні шляхоў, формаў і метадаў іх ажыццяўлення. Ужо абазначыліся між імі дзве асноўныя плыні — рэвалюцыйна-дэмакратычная і ліберальна-дэмакратычная, якія і разыдуцца канчаткова на вострым лязе Лютага — Кастрычніка 1917 года. Асноўнай лініяй водападзелу стане пытанне: дзяржаўнасць у форме савецкай рэспублікі ці дзяржаўнасць у форме буржуазна-дэмакратычнай.

Свой шлях пройдзе і У. Ігнатоўскі. Сапраўды свой, у многім своеасаблівы, адметны ад іншых. Да Лютаўскай рэвалюцыі ён аддаваў перавагу рэфармісцкім метадам, лічыў магчымым такім чынам дасягнуць мэты беларускай дзяржаўнасці ў форме дэмакратычнай рэспублікі. Аднак пасля рэвалюцыі, у абставінах нарастаючай сацыяльна-палітычнай барацьбы і пры выразна бачным нежаданні Часовага ўрада сур'ёзна аднесціся да беларускага пытання, погляды яго значна радыкалізуюцца. Ён займае пазіцыю на левым флангу нацыянальнага руху, зберагаючы, аднак, за сабой права на незалежнасць і свабоду выбару.

Лютаўская рэвалюцыя адчыніла магчымасці легальнай палітычнай дзейнасці, што і паспяшаўся выкарыстаць У. Ігнатоўскі. Думкі і намаганні яго пры гэтым набываюць ужо выразна акрэслены напрамак — паспрыяць як

мага больш нацыянальнаму, сацыяльна-эканамічнаму адраджэнню роднага краю. Шляхі дасягнення мэты ён шукае свае, хаця пакуль што і на ранейшай, у галоўным, выснове. У маі 1917 года арганізацыя «Наш край» пад кіраўніцтвам Ігнатоўскага была пераўтворана ў арганізацыю «Маладая Беларусь», праграма якой арыентавалася на Беларускую сацыялістычную грамаду — нацыянальную партыю леванародніцкага кірунку. Аднак па аграрнаму і нацыянальнаму пытаннях «Маладая Беларусь» займае больш радыкальную пазіцыю. Не парывае Ігнатоўскі і з левымі эсэрамі, з якімі супрацоўнічалі бальшавікі. На чэрвеньскай канферэнцыі БСГ выбіраецца ў склад яе ЦК, але да актыўнай ролі ў кіраўніцтве партыі не імкнецца. Кастрычніцкую рэвалюцыю прымае як гістарычную непазбежнасць, ідзе на супрацоўніцтва з Савецкай уладай.

У Яраслаўлі ён з трывогай ловіць кожную вестачку з палаючай у агні вайны, акупіраванай германскімі войскамі Беларусі. Але вось заключаны Брэсцкі мір, умовы якога даюць магчымасць вяртання з эвакуацыі ў Мінск і настаўніцкаму інстытуту. У. Ігнатоўскі, абраны ўжо старшынёй педагагічнага савета, г. зн. фактычна рэктарам, ад'язджае спачатку ў Мінск, а потым у Маскву, дзе наладжвае кантакты, абгаворвае пытанні вяртання настаўніцкага інстытута ў Мінск з Белнацкомам, з Цэнтральным бюро камуністычных секцый РКП(б). Але па-ранейшаму застаецца ў партыі эсэраў.

Цікава адзначыць, што з ініцыятывай вяртання інстытута выступіла Рада БНР (сфарміравана ў сакавіку 1918 года на тэрыторыі акупіраванай Беларусі прадстаўнікамі нацыянальных партый, якія стаялі ў апазіцыі да Савецкай улады і выступалі за стварэнне незалежнай Беларускай народнай рэспублікі), на якую адгукнуўся Савецкі ўрад.

У Маскве ён упершыню сустрэўся з З. Жылуновічам, у тую пару сакратаром Белнацкома, вядомым ужо бела-

рускім паэтам і аўтарытэтным лідэрам рэвалюцыйна-дэмакратычнага крыла беларускага нацыянальнага руху, якое ён разам з А. Чарвяковым прывёў пад сцягі бальшавікоў. Кароткая афіцыйная размова паклала пачатак іх будучым працяглым і няпростым адносінам: супрацоўніцтва, сяброўства, загадкава азмрочаным раптоўным адчужэннем. Аб гэтым яны самі скажуць, але калі — у канцы 20-х, абараняючыся ад смяротна небяспечных абвінавачванняў у нацыяналізме, і дзе — на допытах у АДПУ. Але ж пры тым ніводзін з іх а ні слова дрэннага, ні слова агавору аб другім. Не выпадкова Жылуновіч, нагадваючы аб гэтай першай сустрэчы ў адным са сваіх пакаянных пісьмаў у ЦК КП(б)Б у канцы 1930 года, адзначыць, што Ігнатоўскі аказаў на яго «добрае ўражанне добра падрыхтаванага ў гэтай галіне (гісторыі) чалавека». Але тут жа падкрэсліць, што сустрэча была кароткай, афіцыйнай і ў далейшым яны не бачыліся да снежня 1921 года. Вельмі падобна на тое, што непрыязнасць — міф, створаны імі свядома, каб адвесці абвінавачванні ў сумеснай нацыяналістычнай дзейнасці.

У той жа прыезд у Маскву Ігнатоўскі ўпершыню сустрэўся ў Наркамаце асветы і з А. Чарвяковым — камісарам па беларускіх справах. Вырашылі яны, па ўспамінах Чарвякова, пытанне аб выдзяленні сродкаў для вяртання інстытута ў Мінск. Гэтыя паездкі далі магчымасць Усеваладу Макаравічу завітаць да сям'і ў Боцманава.

У верасні 1918 года У. Ігнатоўскі разам з калектывам настаўніцкага інстытута вяртаецца ў яшчэ акупіраваны немцамі Мінск. І, зразумела, трапляе ў эпіцэнтр складана пераплеценых плыняў палітычнай барацьбы, але захоўвае ў нацыянальным руху сваю асобую пазіцыю. БСГ к гэтаму моманту ўжо, па сутнасці, раскалолася. Левае крыло партыі пайшло на арганізацыйны разрыў з «правым» і стварэнне разам з леваэсэраўскімі арганізацыямі партыі беларускіх эсэраў (БПС-Р). Ігнатоўскі ўвайшоў у склад ЦК партыі, але як прадстаўнік арганізацыі

«Маладая Беларусь», якая атрымала ў партыі статус аўтаноміі.

У ЦК БПС-Р Ігнатоўскі, займаючы крайне левыя пазіцыі, выступаў за наладжванне кантактаў з падпольнымі камуністычнымі арганізацыямі. Ад Рады БНР, арганізаванай 18 сакавіка 1918 года, трымаецца ў баку. Ён не прыняў яе прагерманскую арыентацыю, хай сабе нават з тактычных меркаванняў. Гэта, на яго погляд, не магло даць нічога станоўчага, акрамя як адштурхнуць масы, скампраметаваць беларускую ідэю. «Не маючы сувязі з працоўнымі масамі,— напіша ён пазней у артыкуле «Вялікі Кастрычнік на Беларусі»,— яна (Рада.— **І. І.** і **А. К.**) ускладае свае надзеі на каранаванага акупанта і канчаткова губіць усякую магчымасць калі-небудзь аперціся на гэтыя масы». Гісторык, палітык і патрыёт, ён добра ўсведамляў, што акупацыйная ўлада — улада заваёўніка і яна не можа даць волі зняважанаму народу. Аднак на разрыў з БПС-Р Ігнатоўскі ў той час яшчэ не адважыўся. Палітычнай актыўнасці не праяўляў, займаўся, галоўным чынам, адраджэннем Мінскага настаўніцкага інстытута, справядліва палічыўшы, што на той момант і ў тых абставінах гэта была найлепшая справа на карысць беларускага адраджэння. Ён быццам спыніўся на раздарожжы, калі ранейшыя сімвалы веры пабляклі ўжо, а новыя не набылі выразнасці.

Ці не гэтым і тлумачыцца яго пазіцыя пасля вызвалення тэрыторыі Беларусі: адышоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці, увесь аддаўся культурна-асветніцкай — вёў педагагічную работу, арганізоўваў курсы беларусазнаўства, садзейнічаў адкрыццю беларускіх школ, культурна-асветніцкіх устаноў. Хаця была таму і яшчэ адна прычына. Ён, несумненна, бачыў усе складанасці і цяжкасці працэсу дзяржаўнага самавызначэння беларускага народа. Прычым не толькі аб'ектыўныя, выкліканыя першапачатковым супраціўленнем кіраўніцтва Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б) стварэнню суверэннай

Беларускай Савецкай Рэспублікі. Але калі пад уздзеяннем беларускіх камуністычных секцый, Белнацкома, пры актыўнай падтрымцы ЦК РКП(б) гэта супраціўленне было пераадолена і БССР створана, паступова мяняецца і пазіцыя Ігнатоўскага.

І таму заканамерны наступны яго крок да бальшавікоў, зроблены ў перыяд польскай акупацыі. Не валодаючы поўнай інфармацыяй аб намерах урада Пілсудскага, не ведаючы яго сакрэтных рашэнняў, але аналізуючы развіццё яго практычнай палітыкі ў адносінах да Беларусі, Ігнатоўскі беспамылкова зразумеў, што абяцанні ўключыць Беларусь у склад Польскай дзяржавы на федэратыўных правах прыкрываюць анексіянісцкія планы кіруючых колаў Польшчы. Усё стала канчаткова зразумелым пасля таго, як Ю. Пілсудскі заявіў аб далучэнні беларускіх зямель да Польшчы і аб адраджэнні Рэчы Паспалітай у межах 1772 года (да Смаленска ўключна). Ён адвяргае прапольскую арыентацыю шэрагу беларускіх нацыянальных дзеячаў, якія спадзяваліся, што Польшча з прычыны ўнутранай слабасці і націску з боку заходніх апекуноў будзе вымушана пайсці на ўступкі і стварыць у той ці іншай форме блізкую ёй па палітычнаму духу беларускую дзяржаўнасць. Не палічыў рэальнымі і разлікі той групы нацыянальных дзеячаў, якія спадзяваліся, што ход сусветных падзей, саперніцтва краін Антанты падштурхнуць Англію, Францыю і ЗША стварыць беларускую дзяржаву «заходняга ўзору» як звяно ў санітарным кардоне паміж буржуазнай Еўропай і Савецкім Саюзам. Ён парывае сувязі з партыяй беларускіх эсэраў, як сам потым тлумачыў, «па прынцыповай прычыне», не падзяляючы яе тактыку барацьбы на два франты — супраць польскіх акупантаў і супраць Савецкай улады. У яго няма сумненняў, што прыйшла пара са зброяй у руках абараняць радзіму, ідэалы беларускага нацыянальнага адраджэння. Арганізацыя «Маладая Беларусь», якую ўзначальваў Ігнатоўскі, перамяшчаецца ў складзе БПС-Р на

крайні левы фланг, разгортвае ўзброеную барацьбу супраць інтэрвентаў.

У снежні 1919 года па яго ініцыятыве «Маладая Беларусь» рашуча парывае з БПС-Р. Відавочна, што такая акцыя Ігнатоўскага і іншых рэвалюцыйна настроеных членаў арганізацыі, у прыватнасці, І. Каранеўскага, А. Сташэўскага, С. Булата, Міхася Чарота (Кудзелькі) ішла далей. 1 студзеня яны стварылі ў Мінску арганізацыйны цэнтр Беларускай камуністычнай арганізацыі (БКА), які часова ўзяў на сябе абавязкі ЦК і заявіў аб прызнанні праграмы і тактыкі РКП(б). У праграмным дакуменце, напісаным У. Ігнатоўскім, указвалася, што БКА «дамагаецца ладу Савецкай Беларускай рэспублікі, спадзеючыся на дапамогу Савецкай Расіі, з якой Савецкая Беларусь знаходзіцца ў федэратыўнай сувязі».

У канцы лютага ў Мінску адбылася нарада прадстаўнікоў падпольных груп («пяцёрак»), дзе быў выбраны пастаянны ЦК БКА: У. Ігнатоўскі — старшыня, С. Булат і І. Каранеўскі — члены. У многіх паветах пад кантролем БКА дзейнічалі «сялянскія дружыны». Колькасць яе дасягнула ў хуткім часе 2 тысяч чалавек. Наладзіўшы сувязі з Рэўваенсаветам Заходняга фронта, з ЦК КП(б) Літвы і Беларусі і мясцовымі бальшавіцкімі арганізацыямі, БКА паслядоўна вяла барацьбу з польскімі інтэрвентамі, садзейнічала аднаўленню Савецкай улады. Пад кіраўніцтвам БКА дзейнічаў і Беларускі паўстанцкі камітэт, які ажыццяўляў аператыўную каардынацыю баявых дзеянняў партызанскіх атрадаў. У сваю чаргу БПК падтрымліваў сувязі са штабам Заходняга фронта і ў ажыццяўленні баявых аперацый кіраваўся ўказаннямі камандуючага фронтам М. Тухачэўскага. Партызан «Воўк», такая была падпольная мянушка Ігнатоўскага ў гэты перыяд, сваю справу рабіў добра.

Вывад некаторых аўтараў з ліку беларускай эміграцыі, што ў асобе БКА Ігнатоўскі імкнуўся стварыць самастойную, незалежную ад РКП(б) беларускую нацыя-

нальную камуністычную партыю *, дакументальна не пацвярджаецца, супярэчыць вядомым фактам. Меркаванне гэта, дарэчы, не новае, хвост яго цягнецца з 20-х гадоў. Каму б яно ні належала, сябрам ці ворагам Ігнатоўскага, з якой бы мэтай ні было напачатку выказана — узвысіць творцу БКА ці, наадварот, выклікаць да яго падазронасць,— у рэшце рэшт менавіта яно адыграла ў лёсе Усевалада Макаравіча злавесную ролю, стала ці не адным з асноўных пунктаў абвінавачванняў супраць яго, а затым і шэрагу іншых стваральнікаў БКА.

З вызваленнем Беларусі ад польскай акупацыі зноў паўстала пытанне аб яе дзяржаўным самавызначэнні. І зноў аднадушнасці не было. І зноў сутыкнуліся дзве палітычныя лініі: на аднаўленне беларускай савецкай дзяржаўнасці і на ўключэнне Заходняй вобласці (у рамках Мінскай губерні) у склад РСФСР з захаваннем за ёю правоў культурна-нацыянальнай аўтаноміі. Першую актыўна адстойвалі беларусы-камуністы, якія на той час апынуліся на Заходнім фронце (А. Чарвякоў, З. Жылуновіч, І. Клішэўскі, А. Гурло, З. Чарнушэвіч і інш.). Іх падтрымлівала большасць членаў ЦК РКП(б). Другую — былыя прыхільнікі пазіцыі А. Мяснікова (на той час члена Абласнога бюро ЦК РКП(б) на Беларусі і Літве) у ЦК КП(б) БіЛ — перш за ўсё Кнорын, Пікель, Рэйнгольд, Калмановіч. У. Ігнатоўскі быў сярод першых. Іх лінія і перамагла. Цэнтральнае бюро КП(б)Б выступіла з ініцыятывай аднаўлення Сацыялістычнай Савецкай Беларусі на прынцыпах, закладзеных 1 студзеня 1919 года. Яно ўступіла ў перагаворы з ЦК БКП, ЦК Бунда, ЦК БПС-Р і ЦБ прафсаюзаў. Іх вынікам і стала Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнай ССРБ, абнародаваная 31 ліпеня 1920 года. Кіраўніцтва БПС-Р, аднак, адмовілася падпісаць дэкларацыю. Ад ЦК БКА ў напісанні гэтага гістарычнага даку-

---

* Глядзі, напрыклад: Аўген Калубовіч. «Айцы» Беларусі і іхні лёс». Выданне 2-е. Клыўленд, 1985, с. 38, 43.

мента ўдзельнічаў У. Ігнатоўскі. Увайшоў ён і ў склад створанага 16 ліпеня 1920 года Часовага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта ССРБ (разам з А. Чарвяковым, Я. Адамовічам, А. Вайнштэйнам), якому напачатку належала ўся паўната ўлады на тэрыторыі рэспублікі. (Цікавая дэталь: загад па арміях Заходняга фронта ад 12 жніўня 1920 года, які зацвердзіў паўнамоцтвы і склад ВРК, быў падпісаны камандуючым фронта М. Тухачэўскім і членам рэвалюцыйнага ваеннага савета фронта І. Смілгай — будучымі «ворагамі народа»). Але сумненні яшчэ не пакінулі яго. Яны нават узмацніліся падчас мірных перагавораў з Польшчай. У. Ігнатоўскі адмовіўся ўвайсці ў склад дэлегацыі на Рыжскія мірныя перагаворы. Ведаў, што няма, бадай, шанцаў утрымаць Заходнюю Беларусь, але і не мог з тым згадзіцца. І адмовіўся. «Адмовіўся,— дасць ён тлумачэнне на пасяджэнні парткалегіі ў студзені 1931 года,— як жа гэта так, усё ж такі — рэзаць Беларусь». Учынак мужнага і сумленнага чалавека. Невядома, па якой прычыне, але ўскрыты ў ходзе партыйнага следства, учынак гэты ў канчатковы варыянт абвінавачвання ані ў якой інтэрпрэтацыі не ўвайшоў.

У снежні 1920 года адбыўся II Усебеларускі з'езд Саветаў, які ўхваліў работу ВРК і прызнаў яго функцыі вычарпанымі. Дэлегаты выбралі ЦВК і сфарміравалі СНК БССР. Пасаду старшыні абодвух органаў яны даручылі А. Чарвякову. Пасаду наркома земляробства заняў У. Ігнатоўскі.

У падпольнай барацьбе з акупантамі канчаткова вызначыўся і яго палітычны выбар, гэтак жа, як і створанай ім камуністычнай арганізацыі. Да моманту вызвалення Мінска ў кіраўніцтва і членаў БКА ўжо выспела ідэя аб'яднання з Кампартыяй Літвы і Беларусі, аб чым яны і заявілі ў сваім першым жа пасля вызвалення Беларусі дакладзе ў ЦК КП(б)БіЛ. У палітычнай справаздачы ЦК КП(б)Б III з'езду (20—25 лістапада 1920 года) чытаем: «Беларуская Камуністычная арганізацыя, якой кіруе тав.

Ігнатоўскі і якая мае некалькі дзесяткаў ячэек на месцах, заявіла, што яна цалкам стаіць на платформе РКП, прымае яе праграму, статут і тактыку і жадае як арганізаванае цэлае ўвайсці ў Камуністычную партыю Беларусі. ЦК КПБ прызнала, што БКА сапраўды зжыла свае ілюзіі і рэшткі нацыяналізму і пастанавіла прыняць яе членаў у рады партыі, паколькі супраць асобных з іх не будзе індывідуальных адводаў. Павятовым камітэтам КП(б)Б было дадзена адпаведнае ўказанне, і да 20 жніўня БКА спыніла сваё існаванне».

Прыём праводзіўся па спісах, складзеных кіруючымі органамі БКА. У архіве захавалася некалькі з іх, напісаных уласнаручна У. Ігнатоўскім. Сам ён быў прыняты ў члены РКП(б) 30 ліпеня 1920 года.

Больш за 15 гадоў заняў у яго гэты шлях: ад рэвалюцыйнага дэмакратызму леванародніцкага кірунку з ухілам у нацыянальны дэмакратызм — да бальшавізму. Ён прыйшоў да Савецкай улады, да бальшавікоў сваім асабістым шляхам, кіруючыся перш за ўсё ідэаламі беларускага нацыянальнага адраджэння, пошукамі найлепшых магчымасцей дзеля іх ажыццяўлення. І заўсёды заставаўся патрыётам свайго народа ў самым найлепшым сэнсе гэтага слова. І калі, на яго погляд, пазіцыя той ці іншай палітычнай сілы, улады не адпавядала гэтаму, займаў сваю асобую пазіцыю, падтрымліваў іх толькі тады і ў тым, у чым яны супадалі. Стварыўшы арганізацыю «Наш край», аўтаномную ў сваіх дзеяннях, рэарганізуючы яе на пэўных этапах у адпаведнасці з агульнай ідэяй і ў прыстасаванні да канкрэтнай сітуацыі, ён прайшоў сваёй дарогай праз дзве рэвалюцыі і дзве вайны. І, дарэчы, у грамадзянскай пазбег супрацьстаяння са сваімі суайчыннікамі. Са зброяй у руках ён змагаўся толькі супраць акупантаў.

У. Ігнатоўскі прыйшоў да бальшавізму праз супастаўленне праграм і тактык розных партый з рэальнымі вынікамі іх дзейнасці. Гэта быў галоўны крытэрый выбару.

З тэорыяй навуковага сацыялізму, палітычнай эканоміяй, з гісторыяй рабочага руху, гісторыяй бальшавіцкай партыі, як сам адзначаў у адной з анкет, знаёмы не быў. Згодна той жа анкеце, яго тэарэтычны багаж складалі веды асноў марксізму, у нейкай ступені гісторыі сацыялізму, гісторыі рэвалюцыйнага руху і глыбокія — агульнай гісторыі. Але паколькі перакананні, з жывога жыцця дабытыя, сумненнямі аплачаныя, уласным жыццём — учынкам, справай — правераныя, як правіла, цвёрдыя і надзейныя, пастолькі гэтай першаснай тэарэтычнай асновы, пры шырокай гістарычнай, агульнагуманітарнай адукацыі, было дастаткова, каб ісці далей, і ўжо ў працэсе работы прырошчваць як тэарэтычныя веды, так і практычны палітычны вопыт. Прычым творча. І таму ў далейшым яго магутны інтэлект гісторыка-прафесіянала і практыка-рэвалюцыянера, прывучанага да параўнальнага аналізу з'яў і ідэй, выключаў для яго ўспрыняцце палажэнняў марксізму ў іх спрошчана-лозунгавай форме, як ісцін у апошняй інстанцыі. У марксізме ён перш за ўсё бачыў метад пазнання і перабудовы і быў у ліку першых, хто яшчэ на зыходзе 20-х гадоў адчуў, як скажае, дагматызуе вучэнне Маркса, вучэнне Леніна той напрамак у палітыцы, які ў хуткім часе з гонарам назавуць сталінскім. І ў тым будзе яшчэ адна з падспудных, але сапраўдных прычын, па якіх ён апынецца ў ліку першых яе ахвяр. На пачатку ж 20-х давер партыі камуністаў Ігнатоўскаму быў поўным.

За гэтым даверам акрамя прызнання асабістых яго заслуг стаялі яшчэ і агульныя адносіны да непралетарскіх партый — эсэраўскай у першую чаргу — як да бліжэйшых саюзнікаў па рэвалюцыйнаму лагеру ў недалёкім мінулым. Хаця і з агаворкамі. Лічылася, што выхадцы з гэтых партый, уліўшыся ў склад РКП(б), неслі ў сабе і з сабой цяжар былых памылковых поглядаў, ілюзій, пазбавіцца ад якіх ім адразу было складана, што частка з іх толькі фармальна змяніла сцягі і была напагатове да

захаванай барацьбы супраць партыі ўнутры партыі. Пераканане, тлумачэнне — у барацьбе за першых, выкрыццё, выключэнне — у барацьбе з другімі — так вызначала на тую пару сваю лінію РКП(б) у адносінах да выхадцаў з іншых партый. Галоўнымі ворагамі як у мінулым — на этапе рэвалюцыйнай барацьбы з самаўладдзем, так і ў сучасным — на этапе барацьбы за пабудову асноў сацыялізму, гэтыя выхадцы будуць аб'яўлены значна пазней. Чаго не мог прадбачыць У. Ігнатоўскі, як і ніхто з іншых.

За гэтым даверам стаялі таксама добрыя адносіны бальшавікоў да беларускіх нацыянальна-вызваленчых сіл, адносіны, якія сфарміраваліся ў ходзе сумеснай барацьбы супраць акупантаў. І асабліва добрымі яны былі да членаў БКА, многія з якіх былі вылучаны ў партыйныя, дзяржаўныя і гаспадарчыя кіруючыя органы. С. Булат, напрыклад, заняў пасаду рэдактара газеты «Савецкая Беларусь», Я. Каранеўскі — намесніка наркома асветы, А. Сташэўскі — першага сакратара ЦВК і СНК БССР.

Такі падыход адпавядаў у галоўным і поглядам У. Ігнатоўскага. Ён лічыў абавязковым для Кампартыі Беларусі ўлічваць у сваёй палітыцы асаблівасці гістарычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця краю, усімі сіламі спрыяць нацыянальнаму адраджэнню. Зразумела, што для гэтага партыя павінна была ўвабраць у сябе прадстаўнікоў карэннай нацыі (вылучыўшы іх, у тым ліку, і ў кіраўніцтва), якія добра ведалі, адчувалі гэтыя асаблівасці, маглі гаварыць з народам на яго роднай мове. Павінна была аб'яднаць вакол сябе ўсе прагрэсіўныя, дэмакратычныя сілы.

# АДЗІН З ТВОРЦАЎ ПАЛІТЫКІ БЕЛАРУСІЗАЦЫІ

Ігнатоўскі зусім нядоўга працаваў наркомам земляробства. На другім Усебеларускім з'ездзе Саветаў, які адбыўся ў снежні 1920 года, яго выбіраюць наркомам асветы. Але калі ён прыступіў непасрэдна да выканання новых абавязкаў? Тут ёсць многа няяснага. Як вынікае з афіцыйных матэрыялаў, надрукаваных у першым за 1921 год нумары «Весьніка Народнага Камісарыята Асьветы СРРБ», вельмі падобна на тое, што ён наогул на гэтым з'ездзе не прысутнічаў. Даклад аб народнай асвеце рабіла намеснік наркома М. Фрумкіна, гэтак жа, як і на другой сесіі ЦВК на пачатку лютага 1921 года. Нарэшце ў інфармацыі аб персанальным складзе кіраўніцтва наркамата асветы чытаем: «Пасада намесніка камісара з ліпеня 1920 г. займаецца тав. М. Я. Фрумкінай, якая да гэтага часу і кіруе работай Камасветы». «Да гэтага часу», удакладнім, значыць, па крайняй меры, да сакавіка 1921 года — менавіта гэтым месяцам датуюцца ўсе апошнія статыстычныя і факталагічныя даныя, змешчаныя ў нумары, з друку часопіс выйшаў у красавіку.

А дзе ж увесь гэты час, і які па тэрміну час, быў Усевалад Макаравіч? Дакладна вядома, што ён ад'язджаў з Мінска ў Боцманава, каб забраць сям'ю. Пацвярджэнне таму дзве тэлеграмы — Я. Каранеўскага і А. Чарвякова,— накіраваныя па гэтаму адрасу, і сведчанне самога Ігнатоўскага ў ходзе размовы з ім на пасяджэнні партыйнай калегіі ЦКК КП(б)Б у студзені 1931 года. Гэта ж размова раскрывае нам адзін з найбольш драматычных эпізодаў у яго жыцці. Дакладней сказаць, прыадкрывае: адчуваецца, што адказваў на пытанні Усевалад Макаравіч насцярожана, не адкрываючыся да канца. І гэта зразумела, калі ўлічыць характар размовы — прадузята абвіна-

ваўчы, і мэты яе — знайсці, адшукаць у яго біяграфіі кампраметуючы матэрыял, пацвярджэнне яго нацдэмаўскіх, антыпартыйных, антысавецкіх настрояў і ўчынкаў. Дала аб сабе знаць і даўнасць падзей: многае забылася, сцерлася з памяці. На жаль, якіх-небудзь іншых дакументаў, дазваляючых удакладніць сказанае ў ходзе размовы, пакуль што знайсці не ўдалося. І таму ёсць сэнс прывесці адпаведны ўрывак (з невялікімі скарачэннямі паўтораў) са стэнаграмы размовы:

**Рыськин.** Когда Вы отъезжали в Тамбовскую губернию?

**Игнатовский.** Я будучи уже членом партии получил разрешение выехать за семьей в Саратовскую губернию, там была в то время антоновщина *. Я там застрял довольно сильно. Я писал сюда, чтобы мне разрешили остаться.

**Рыськин.** Так Вы изложили тогда, сейчас мы ставим вопрос с другой стороны. Вы тогда были членом партии. Ясно, что в период антоновщины там работали партийные организации, которые вели борьбу с антоновщиной. С какой организацией Вы были связаны и какое участие в этой борьбе принимали?

**Игнатовский.** Я был назначен сейчас же учителем. Я был в Турках, не охваченных антоновщиной. Мобилизовали часть коммунистов. Поскольку я никогда на военной службе не состоял, меня оставили в самих Турках, семья жила верстах в десяти от Турок. Я там высиживал это время, пока была антоновщина.

---

* Антысавецкае сялянскае паўстанне пад кіраўніцтвам эсэра А. Антонава ўспыхнула ў Тамбоўскай губерні ў жніўні 1920 года, ахапіла і частку сумежнай Саратаўскай губерні. Ваенныя сілы паўстаўшых былі арганізаваны па тыпу рэгулярных войск: усяго 14 «палкоў» і 5 кавалерыйскіх ад 400 да 100 чалавек кожны. На барацьбу з імі былі накіраваны вайсковыя часці Чырвонай Арміі. Найбольшага размаху паўстанне дасягнула вясною 1921 года. Пераход да нэпа, адмена харчовай развёрсткі змянілі настрой сялянства. А. Антонаў страціў масавую сацыяльную базу. Апошнія яго атрады былі ліквідаваны восенню 1921 года, а сам ён загінуў у перастрэлцы з атрадам ГПУ 24 ліпеня 1922 года.

**Рыськин.** Разве мобилизовывали только военных?

**Игнатовский.** Меня посылали на охрану Турков.

**Рыськин.** Сколько Вы там были?

**Игнатовский.** До мая месяца — 5 месяцев.

**Рыськин.** Не чувствуете ли Вы слабость в этом отношении с точки зрения партийца?

**Игнатовский.** Эта слабость выражается в том, что я застрял и не дал знать сюда, в Советскую Белоруссию, что со мной и т. д.

**Рыськин.** Это еще, конечно, не то, а в смысле участия в борьбе с антоновскими бандами.

**Игнатовский.** Нам давали охранять Турки. Попался я в плен к Антонову таким путем, что нас отправили по селам работать среди крестьян. В том числе пошел и я. И нас тогда захватили в плен.

**Рыськин.** Чем Вы можете доказать?

**Игнатовский.** Сейчас ничем, я был там учителем.

**Ревинский.** В какой-то мере можно сказать, что Вы поддерживали связь с Антоновым, раз Вы говорите, что ничем не можете доказать, что работали как партиец.

**Игнатовский.** Ничем не могу доказать. Я выступал 18 марта, чем я сейчас докажу?

**Рыськин.** Вам разрешили там оставаться?

**Игнатовский.** Я не получал никаких сведений, оторвался.

**Пасюкевич.** После того как Вы вернулись, Вас в Центральном правлении спрашивали?

**Игнатовский.** Нет.

Вас вызвали оттуда?

**Игнатовский.** Да, прислали туда вагон и забрали.

Што вынікае з гэтага дыялога? Выразна праглядае намер выкрыць Ігнатоўскага ў сувязях з антонаўцамі, тым больш, што спакусу такую давала яго эсэраўскае мінулае і эсэраўская падаплёка антонаўскага мяцяжу. Няясна і з палонам. Сапраўды трапіў ці зрабіў на сябе

нагавор? Калі так, дзеля чаго? І як, калі вызваліўся з палону? — пытанне, якое, здавалася б, напрошвалася, так і не прагучала. Ведалі аб тым? Выклікае сумненне і тэрмін знаходжання ў Турках — 5 месяцаў. Хаця б па той прычыне, што ў згаданым вышэй нумары «Весьніка Наркамата асьветы» змешчаны артыкул У. Ігнатоўскага «Наркамат Асьветы і беларуская культура», змест якога храналагічна ахоплівае і сакавік 1921 года. Ёсць таксама даныя, што і ў студзені Ігнатоўскі знаходзіўся ў Мінску, прымаў удзел у падрыхтоўцы дакладной запіскі ў ЦК КП(б)Б. Загадкава таксама, чаму такі, здавалася б, выйгрышны эпізод, як знаходжанне ў палоне ў антонаўцаў, што лёгка можна было абярнуць сувяззю з імі, у канчатковы варыянт абвінавачвання не ўвайшоў. Аднак з размовы выцякае і бясспрэчнае: Ігнатоўскага вельмі не хапала на Беларусі. А з тэлеграм, адрасаваных яму, становіцца зразумелым, і ў якой якасці. Вось тэксты тэлеграм. Першай (без даты): «Туркі, Саратаўская губ., Боцманава, камісару земляробства Ігнатоўскаму. Усебеларускім з'ездам Саветаў Вы абраны ў ЦВК і камісарам асветы. Хутчэй прыязджайце (для) выканання службовых абавязкаў. Неабходны адказ. Нам. камісара Каранеўскі». Другой: «5.IV.1921. Ст. Туркі, Боцманава Балашоўскага павета Саратаўскай губерні, Ігнатоўскаму. Фрумкіна пайшла. Наркамасветы перажывае крызіс. Магчыма выпадковая кандыдатура. **Адказнасць (за) далейшы напрамак (і) ход беларускай работы кладзецца на Вас. Выязджайце неадкладна».**

Падкрэсленыя намі ў тэлеграме старшыні ЦВК словы сведчаць, што менавіта з Ігнатоўскім, з яго прызначэннем на пасаду наркома асветы звязваліся вялікія надзеі на паспяховы ход беларускага адраджэння. І на яго ўскладвалася вялікая адказнасць. Спраўдзіліся і надзеі, і адказнасць спагналі. Толькі не так, не тыя і не за тое.

Так, нягледзячы на некаторыя акалічнасці, шматабяцальна пачалося апошняе дзесяцігоддзе жыцця У. Ігна-

тоўскага, якое і паставіла яго імя ў шэраг буйных палітыкаў, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, выдатных вучоных Беларусі. І якое так трагічна — і для яго, і для краіны — скончылася.

У 1926 годзе У. Ігнатоўскі ўзначаліў Інстытут беларускай культуры, а ў 1929 з пераўтварэннем апошняга ў Беларускую акадэмію навук быў абраны яе першым прэзідэнтам і першым у яе структуры дырэктарам Інстытута гісторыі. Адначасова ўсё гэта дзесяцігоддзе ён праводзіў значную партыйную работу як член ЦК Кампартыі Беларусі, а з 1924 года як член Бюро ЦК, як загадчык аддзела агітацыі і прапаганды ЦК (да 1926 года). Уваходзіў разам з А. Чарвяковым, В. Багуцкім, А. Асаткіным, А. Крыніцкім, А. Славінскім у Бюро замежнай дапамогі (Кампартыі Заходняй Беларусі), створанае па рашэнню V кангрэса Камінтэрна. Быў удзельнікам шэрагу з'ездаў Саветаў — Усебеларускіх (з V па IX) і Усесаюзных (з I па V), уваходзіў у склад Прэзідыума ЦВК БССР і ЦВК СССР, выбіраўся ад рэспубліканскай партыйнай арганізацыі дэлегатам на пяты кангрэс Камінтэрна. Дадамо да гэтага, што ён быў прафесарам Белдзяржуніверсітэта, старшынёй таварыства гісторыкаў-марксістаў (1927—1928), членам камісіі па перакладу твораў У. І. Леніна на беларускую мову (1924—1930),— і атрымаем амаль што вычарпальны пералік афіцыйных і грамадскіх пасад У. Ігнатоўскага ў 20-я гады. Пасад не сімвалічных і не ганаровых. Праца на ўсю моц, да знямогі, але і ў асалоду, з натхненнем, таму што, хоць і не проста, прадзіраючыся праз частакол вастрэйшых супярэчнасцей, увасабляліся на практыцы тыя ідэі, служэнню якім ён прысвяціў сваё жыццё. Перш за ўсё ідэя нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння і нацыянальна-культурнага адраджэння беларускага народа. Адраджэнне, якое знайшло сваё ўвасабленне ў палітыцы беларусізацыі — нацыянальнай палітыцы Савецкай улады, што праводзілася ў БССР у 20-я гады ў прыстасаванні да яе этнаграфіч-

ных, сацыяльна-эканамічных умоў, гістарычных і культурных традыцый. Выразна акрэслены характар і змест, статус афіцыйнай дзяржаўнай палітыкі яна набыла ў 1924 годзе, аднак большасць з яе асноватворных ідэй і элементаў выспелі і пачалі ажыццяўляцца яшчэ ў гады грамадзянскай вайны. Адпаведна вытокі яе — у рэвалюцыйным, у тым ліку і нацыянальна-вызваленчым руху, у ленінскіх ідэях нацыянальнай палітыкі бальшавіцкай партыі і Савецкай улады, а таксама ў ідэях беларускага нацыянальнага адраджэння, выкрышталізаваных беларускай інтэлігенцыяй і сфармуляваных у праграмах беларускіх нацыянальных дэмакратычных партый.

Радыкальны пераход пасля грамадзянскай вайны ад палітыкі ваеннага камунізму да новай эканамічнай палітыкі, а затым стварэнне СССР патрабавалі такога ж радыкальнага ўсебаковага ўдакладнення і развіцця прынцыпаў, нормаў, формаў і метадаў палітыкі па нацыянальнаму пытанню. Зроблена гэта было на X і XII з'ездах РКП(б). Гэтыя рашэнні ўлічвалі і назапашаны ўжо вопыт нацыянальнага будаўніцтва ў савецкіх рэспубліках, пры іх выпрацоўцы ўлічвалі меркаванні нацыянальных дзеячаў, прычым не толькі камуністаў. Улічваць прыходзілася (як кажуць, ад адваротнага) і крытыку па нацыянальнаму пытанню, яна раздавалася з боку праціўнікаў Савецкай улады. Адсюль і вынік: узважаныя, рэальныя рашэнні, адпавядаючыя ў галоўным і інтарэсам рэспублік, і іх саюзу як цэламу.

Цікава адзначыць, што ўспрыняў як галоўнае ў рашэннях з'ездаў сам У. Ігнатоўскі. У сваім артыкуле «Наркамат асьветы Беларусі і беларуская культура» ён цытуе з рэзалюцыі X з'езда наступнае: «Партыя павінна дапамагчы прыгнечаным масам не велікарускіх народаў: а) разьвіць і ўзмацніць у сябе савецкую дзяржаўнасць у формах, адпавядаючых нацыянальна-бытавым умовам гэтых народаў; б) разьвінуць і ўзмацніць у сябе дзейныя ў роднай мове суд, адміністрацыю, установы, гаспадар-

чыя ўстановы ўлады, складзеныя з людзей мясцовых, ведаючых быт і псіхалогію мясцовага жыхарства; в) разьвіць у сябе прэсу, школу, тэатр, клубную справу і наогул культурна-асветныя ўстановы ў роднай мове; г) паставіць і разьвіць шырокую сець курсаў і школаў, як агульнаадукацыйнага, так і прафесіянальна-тэхнічнага напрамку ў роднай мове для хутчэйшай падгатоўкі мясцовых кадраў кваліфікаваных работнікаў па ўсім галінам кіравання і найраней ад усяго ў галіне асветы».

Канкрэтныя практычныя меры, вызначаныя XII з'ездам, прадугледжвалі: пабудову вышэйшых органаў улады такім чынам, каб яны цалкам адлюстроўвалі не толькі агульныя запатрабаванні ўсіх нацый, але і спецыяльныя; забеспячэнне роўнасці правоў ва ўзаемаадносінах рэспублік і цэнтральнай улады; раўнапраўнае прадстаўніцтва ў сістэме вышэйшых органаў улады; шырокія правы рэспубліканскім органам, якія б гарантавалі магчымасць праяўлення імі іх уласнай дзяржаўнасці і гаспадарчай ініцыятывы, фарміраванне нацыянальных рэспублік галоўным чынам з людзей мясцовых, якія валодаюць мовай, ведаюць быт, звычай народаў; выданне спецыяльных законаў, якія б забяспечвалі выкарыстанне роднай мовы ва ўсіх дзяржаўных органах і ўстановах; узмацненне выхаваўчай работы ў Чырвонай Арміі ў духу ідэй брацтва і салідарнасці народаў Саюза і правядзення практычных мерапрыемстваў па арганізацыі нацыянальных вайсковых часцей, з захаваннем усіх мер, неабходных для забеспячэння поўнай абараназдольнасці рэспублік.

Зыходзячы з рашэнняў з'ездаў і ўласнай практыкі нацыянальнага будаўніцтва, Кампартыя і ўрад Беларусі распрацавалі канкрэтную праграму нацыянальнай палітыкі — з улікам асаблівасцей у мінулым і становішча ў сучасным. І паколькі палітыка нельга аддзяліць ад яго справы, то, адказваючы на пытанні, як паступова выкрышталізоўваліся, у якую канкрэтную праграму афарміліся

ў 1923—1924 гадах і як развіваліся ў наступным прынцыпы палітыкі беларусізацыі, мы будзем знаходзіць адказы і на пытанні, як жыў, аб чым думаў, што рабіў Ігнатоўскі, хто яго сябры, а хто непрыяцелі, хто паплечнікі, а хто праціўнікі.

У. Ігнатоўскі належаў да ліку тых людзей — выхадцаў з рэвалюцыйна-дэмакратычнага крыла нацыянальнага руху — у вышэйшых органах партыйнага кіраўніцтва і Савецкай улады ў Беларусі, хто найбольш востра адчуваў нацыянальныя патрэбы беларускага народа. У коле гэтых людзей мы бачым А. Чарвякова, З. Жылуновіча, А. Бурбіса (намеснік камісара замежных спраў), А. Баліцкага (намесніка камісара асветы), П. Ільючанку (загадчык аддзела камісарыята асветы), а таксама маладых яго паплечнікаў па БКА, яго былых вучняў у Мінскім настаўніцкім інстытуце — М. Кудзельку (Чарот), Я. Каранеўскага, А. Сташэўскага. Яны і стварылі своеасаблівае ядро, вакол якога згрупавалася творчая беларуская інтэлігенцыя і якое стала генератарам ідэй, якія і ўвасобіліся ў палітыку беларусізацыі.

Несумненна таксама, што іх ініцыятывы не атрымалі б належнага развіцця, калі б не былі актыўна падтрыманы кіраўніцтвам рэспубліканскай партыйнай арганізацыі. Многія з ветэранаў-бальшавікоў у сумеснай з усімі нацыянальна-патрыятычнымі сіламі барацьбе супраць германскай і польскай акупацыі змаглі шмат у чым зразумець памылковасць сваіх былых поглядаў па нацыянальнаму пытанню, усвядоміць як правамоцтва дзяржаўнага самавызначэння беларускага народа, так і неабходнасць спалучэння ў палітыцы не толькі агульных для ўсіх працоўных інтарэсаў, але і нацыянальна-адметных...

У. Ігнатоўскі і А. Чарвякоў, магчыма, як ніхто іншы, разумелі неабходнасць збліжэння пазіцый бакоў і, як ніхто іншы, дзякуючы свайму агромністаму аўтарытэту як сярод інтэлігенцыі, так і ў партыі, таму паспрыялі. Ну, а паколькі ідэйная блізкасць заўсёды, а ў часы крутых

сацыяльных ломак — асабліва, выступае галоўным матывам паводзін, іх адносіны, дапоўненыя яшчэ і чыста чалавечымі сімпатыямі, хутка перараслі ў моцнае сяброўства. Несумненна, што гэтыя два разумныя чалавекі, два буйныя палітычныя дзеячы Беларусі адыгралі рашаючую ролю ў збліжэнні пазіцый бакоў. Ад ружовых фарбаў, аднак, устрымаемся. Палітыка — рэч складаная, погляды людзей, асабліва абцяжараныя памяццю аб былых вострых сутыкненнях, даволі ўстойлівыя, кампраміс даецца нялёгка. Але ж кансенсус, які і забяспечыў даволі дакладны выбар форм і метадаў нацыянальнай палітыкі ў 20-я гады,— факт бясспрэчны.

Адным з найбольш значных вынікаў нацыянальнай палітыкі 20-х гадоў, якія рашаючым чынам паўплывалі на ўсю далейшую гісторыю БССР, было ўзбуйненне яе тэрыторыі. У. Ігнатоўскі належаў да той часткі партыйнага і савецкага кіраўніцтва (А. Чарвякоў, З. Жылуновіч, І. Адамовіч), якая стаяла ля вытокаў гэтай ідэі і настойліва дамагалася яе ажыццяўлення. Але чаму і калі ўзнікла гэта балючая праблема, чаму спатрэбілася столькі намаганняў і часу, каб яе вырашыць? Справа ў тым, што пры другім абвяшчэнні БССР тэрыторыя яе была вызначана ў межах шасці паветаў Мінскай губерні з насельніцтвам менш чым 1,5 мільёна чалавек. Галоўныя прычыны таго зводзяцца да тагачаснага няўстойлівага становішча на фронце, рэальнай небяспекі захопу Беларусі легіёнамі Пілсудскага. Але існавалі і прычыны суб'ектыўныя. Аднаўленню беларускай савецкай дзяржаўнасці, стварэнню нават такой «усечанай» рэспублікі ўсё яшчэ існавала «апазіцыя» з боку часткі партыйных дзеячаў (М. Калмановіча, Р. Пікеля, І. Рэйнгольда і інш.) — прыхільнікаў былой ідэі А. Мяснікова аб захаванні Заходняй вобласці як адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі ў складзе РСФСР. З той розніцай, што ў новых абставінах яна трансфармавалася ў ідэю прадастаўлення беларусам культурна-нацыянальнай аўтаноміі ў межах Мінскай гу-

берні. Ды і то як меры часовай, закліканай стварыць неабходныя перадумовы «да поўнага» зліцця ва ўсіх адносінах з Савецкай Расіяй.

Адарваная ад жыцця, прадыктаваная ўсё той жа ілюзорнай верай у сусветную рэвалюцыю, спрошчана ўспрынятым прынцыпам пралетарскага інтэрнацыяналізму, ідэя гэта ў сутыкненні з жывой рэчаіснасцю, з узрослай нацыянальнай самасвядомасцю зноў пацярпела крах. Большасць членаў партыйных арганізацый, ЦК КП(б)Б і Л, ЦК РКП(б) падтрымалі камуністаў-беларусаў, якія на шэрагу нарад у Смаленску ў маі 1920 года рашуча выступілі за аднаўленне суверэннай БССР, што і было замацавана дэкларацыяй ад 31 ліпеня.

Але ж тэрыторыя... Чарвякоў, Ігнатоўскі, Жылуновіч, Адамовіч, іх аднадумцы прынялі такое становішча як часовае, вымушанае абставінамі. Увосень 1920 года, пасля замірэння з Польшчай, у час Рыжскіх мірных перагавораў, на іх погляд, сітуацыя змянілася настолькі, што дазваляла, нават патрабавала зноў падняць пытанне аб пашырэнні тэрыторыі Беларусі за кошт выдзялення са складу РСФСР беларускіх губерняў і далучэння іх да БССР. Зноў вострыя спрэчкі з апанентамі, зноў непаразуменні, насцярожанасць і нават падазронасць у некаторым ухіле ў бок нацыяналізму. Такі папрок у адрас Чарвякова, у прыватнасці, выказаў член Рэўваенсавета фронта Уншліхт у тэлеграме ў Маскву. Пакінутая тады без вынікаў, яна ўсплыве ў 1937 годзе як «доказ» для абвінавачвання Чарвякова ў кіраўніцтве нацдэмаўскім рухам. Але не гэтыя пабочныя акалічнасці, а зноў жа жорсткія знешнепалітычныя абставіны, ультыматыўнае патрабаванне — пагроза з боку польскай дэлегацыі падзелу Беларусі, вымусілі адступіць. І ўсё ж намаганні беларусаў-камуністаў мелі важны станоўчы вынік. У лістападзе 1920 года ЦБ КП(б)Б, а ўслед і нарада ЦК РКП(б) (з удзелам Кнорына і Чарвякова), прызналі пашырэнне тэрыторыі хаця і заўчасным, але падлягаючым перагляду, як толькі сітуацыя зменіц-

ца. Гэта, аднак, удалося здзейсніць толькі праз чатыры гады. Па іншых, праўда, чым раней, прычынах.

У студзені 1921 года пытанне аб пашырэнні тэрыторыі Беларусі было ўзнята зноў у «рэзалюцыі 32-х», прынятай супрацоўнікамі беларускага аддзела Наркамата асветы. Яна заклікала беларусаў-камуністаў «выкарыстаць усе легальныя шляхі ў РКП(б)» для самавызначэння беларускай нацыі ў яе этнаграфічных межах. 14 студзеня 1921 года, зноў жа не без ведама Ігнатоўскага і Чарвякова, групай камуністаў-беларусаў была падрыхтавана і накіравана ў ЦК РКП(б) «Дакладная запіска», у якой абгрунтоўвалася тая ж ідэя. «Толькі такім шляхам,— сцвярджалі аўтары запіскі,— будуць зняты папрокі па адрасу Савецкай Расіі ў гвалтоўнай русіфікацыі Беларусі, а таксама інтрыгі беларускіх нацыяналістаў і сацыял-патрыётаў. У беларускіх жа народных масах узмоцніцца прывязанасць да Савецкай улады, як да сваёй улады. У асяроддзі ж беларусаў, што папалі пад уладу буржуазнай Польшчы, існаванне ўзорнай Беларускай Савецкай Рэспублікі павялічыць цягу да нас і яшчэ больш узмоцніць варожасць да буржуазнага ладу Польшчы».

Разам з тым У. Ігнатоўскі адмоўна аднёсся да варыянта вырашэння «беларускага пытання», прапанаванага дзеячамі Рады БНР, якія аказаліся ў эміграцыі: паступовага заваявання (праз паўстанне) для Заходняй Беларусі правоў аўтаноміі ў Польскай дзяржаве, а затым яе аб'яднання з БССР (праз рэферэндум) і стварэння на гэтай аснове беларускай дзяржавы па заходняму ўзору — буфернай паміж Савецкай Расіяй і буржуазнай Польшчай. З мэтай высветліць адносіны да гэтай ідэі Савецкага ўрада, праінструктаваны асабіста В. Ластоўскім, у Маскву вясной 1921 года прыбыў пасланец урада БНР А. Галавінскі. Сустракаўся ён з намеснікам старшыні СНК РСФСР Л. Каменевым, а на адваротным шляху ў Мінску вёў перагаворы з Чарвяковым, Кнорыным, Ігнатоўскім. Па сведчанню самога Галавінскага, сцвярджальнага ад-

казу на ідэю аб стварэнні буржуазнай дзяржавы ён не атрымаў.

Ігнатоўскі, як і большасць з кіраўніцтва рэспублікі, застаўся перакананым прыхільнікам пашырэння тэрыторыі рэспублікі. Аднак зыходзячы з рэальных абставін і не жадаючы абвастрэння міжнацыянальных адносін, яны адмовіліся ад нядаўняга свайго патрабавання неадкладнага, у заканадаўчым парадку вырашэння гэтага пытання.

У тым была мудрасць людзей, якія здолелі стрымаць сваю нецярплівасць, зразумець, што ў хісткім, не астыўшым яшчэ ад ваенных пажарышчаў міры, спроба хутка дэмакратычнымі сродкамі вырашыць складаную і балючую тэрытарыяльную праблему магла абярнуцца абвастрэннем міжнацыянальных адносін. Як бы то ні сталася, граніцы былі акрэслены, у беларускіх губернях былой Заходняй вобласці, што адышлі да РСФСР, склаліся пэўныя адміністрацыйныя і палітычныя структуры, узніклі новыя сувязі і далёка не ўсё тамашняе кіраўніцтва, ды і насельніцтва, з паразуменнем успрымала ідэю іх аддзялення ад РСФСР і перадачы БССР. Як гісторык, У. Ігнатоўскі добра ведаў, што міжнацыянальныя канфлікты ва ўсе часы, ніколі і нідзе не пайшлі на карысць ніводнаму народу. Нават тады, калі давалі (на час) тэрытарыяльны выйгрыш. Як палітык, прадбачыў, што ўзнікні такі канфлікт зараз, ён паставіць пад пагрозу працэс нацыянальнага прымірэння ў Беларусі, яе эканамічнага, палітычнага і культурнага адраджэння.

Пытанне аб межах рассялення таго ці іншага этнасу, няпростае само па сабе, у дачыненні да Заходняга краю было і таго складаней з прычыны шматвяковай, спачатку паланізатарскай палітыкі пануючых класаў Польшчы, а затым русіфікатарскай палітыкі царызму. Прычым, і тая, і другая грунтаваліся на адной ідэі — адмаўлення самога існавання беларускай нацыі. І настолькі вытанчана-агрэсіўна ўкаранялася, праводзілася гэта ідэя, што пранікла ў свядомасць даволі шырокіх слаёў насельніцтва (і не

толькі пануючых), закранула сваім чорным крылом светапогляд многіх рэвалюцыянераў, нават з ліку прадстаўнікоў малых нацый (Мяснікоў, Кнорын). Па той жа прычыне грашылі ці русафільскай, ці паланафільскай эпалогіяй і адпаведныя этнаграфічныя, гістарычныя даследаванні па Беларусі. Сапраўды аб'ектыўных, непрадузятых (падобных, напрыклад, працам акадэміка Карскага, які, дарэчы, склаў карту этнаграфічнай Беларусі) сярод іх налічвалася небагата. Вось тут, каб дасканала разабрацца ў заканамернасцях і асаблівасцях станаўлення і развіцця беларускага народа ў кантэксце яго гісторыі і сучаснасці, каб аддзяліць фактычнае ад сфальсіфікаванага і дакладна вызначыць межы беларускіх раёнаў, спатрэбілася шырокая гістарычная, гуманітарная эрудыцыя У. Ігнатоўскага, якая да таго ж так удала спалучалася з вопытам і чуццём палітыка-практыка. Яго аналітычны розум, вытрыманы, спакойны характар, прагнастычныя здольнасці, уменне даходліва фармуляваць сваю думку, пераканаўча-аргументавана адстойваць яе ў спрэчках з апанентамі нямала паспрыялі справе, выхаду з эмацыянальных дыскусій на ўзважаныя рашэнні.

Зыходзячы з сітуацыі, з ідэі добраахвотнага ўзаемаўзгодненага вырашэння тэрытарыяльных праблем, нават калі межы беларускіх раёнаў у складзе РСФСР былі больш-менш дакладна вызначаны, кіраўніцтва БССР не спяшалася з патрабаваннем неадкладнага іх далучэння ў заканадаўчым парадку, бо палічыла неабходным іх папярэдняе эканамічнае аб'яднанне вакол Мінскай губерні. Менавіта з такой прапановай ЦБ КП(б)Б і СНК БССР ужо ў верасні-лістападзе 1921 года выйшлі ў Савет Працы і Абароны РСФСР. Мера гэтая, адпавядаючы цалкам новай эканамічнай палітыцы, паслужыла ўмацаванню сувязей між раёнамі этнаграфічнай Беларусі, іх аднаўленню як эканамічнага цэлага, відавочна паказала неабходнасць іх дзяржаўнага аб'яднання, што і аргументаваў усебакова VII з'езд КП(б)Б, які адбыўся ў сакавіку 1923 года.

У. Ігнатоўскі — адзін з тых, хто рыхтаваў асноўныя праекты яго рашэнняў, хто потым прымаў непасрэдны ўдзел у распрацоўцы адпаведных урадавых пастаноў. У сакавіку 1924 года па ўзаемнай згодзе між РСФСР і БССР 15 паветаў і асобных валасцей Гомельскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў адышлі да БССР. У 1926 годзе да яе былі далучаны яшчэ два буйныя паветы — Рэчыцкі і Гомельскі. Насельніцтва рэспублікі павялічылася да 5 мільёнаў чалавек. Адна з асноватворных ідэй нацыянальнага самавызначэння беларускага народа атрымала такім чынам практычнае ўвасабленне.

Паралельна разгортваліся і працэсы нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў рэспубліцы. Заслугі ў тым Ігнатоўскага і тут бясспрэчныя. Па яго ініцыятыве ўжо ў канцы 1920 года пачало пераводзіцца на беларускую мову справаводства Наркамата земляробства, а затым і Наркамата асветы. Пры яго непасрэдным аўтарскім удзеле рыхтаваліся матэрыялы да даклада Наркамата асветы па пытаннях нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў рэспубліцы. У лютым ЦВК БССР прыняў па дакладу шэраг пастаноў, якія ў многім прадвызначылі ўвесь наступны ход беларусізацыі. У прыватнасці, пацвердзіў прыняты яшчэ ў 1919 годзе ўрадам Літоўска-Беларускай ССР дэкрэт аб раўнапраўі ў якасці дзяржаўных беларускай, рускай, яўрэйскай і польскай моў, вызначыў шэраг практычных мер па стварэнню сістэмы дашкольнага выхавання і школьнай адукацыі, прафесійна-тэхнічных вучылішч і тэхнікумаў (на роднай мове навучання), шырокай сеткі курсаў беларусазнаўства. Цяжар ажыццяўлення гэтага комплексу мер і лёг на плечы У. Ігнатоўскага, як наркома, пасля яго вяртання з Боцманава.

Вялікі ўклад Ігнатоўскага і ў ажыццяўленне даўняй мары беларускай інтэлігенцыі аб стварэнні ў рэспубліцы свайго універсітэта. Спробы рэалізаваць мару рабіліся яшчэ раней як Савецкай уладай, так і Радай БНР, але палітычныя ўмовы не дазволілі. І толькі пасля вызвалення

Беларусі ад польскіх акупантаў справа зрушылася з месца. Ужо 25 ліпеня ў Наркамаце асветы пад старшынствам А. Чарвякова адбылося пасяджэнне Мінскай універсітэцкай камісіі, на якім было вырашана паклапаціцца аб хутчэйшым адкрыцці універсітэта. У жніўні ў Маскву выехала дэлегацыя, якая сумесна з Маскоўскай універсітэцкай камісіяй вызначыла план далейшай работы. Аднак верасНёўскае наступленне польскіх войскаў спыніла яе. Пасля паўторнага вызвалення Мінска работа аднавілася. Адной з першых пастаноў (па прапанове А. Чарвякова) Ваенна-Рэвалюцыйнага Камітэта, у склад якога, напомнім, уваходзіў і У. Ігнатоўскі, ва ўласнасць універсітэта перадаваліся будынкі і зямля былой духоўнай семінарыі на Аляксандраўскай вуліцы і былога жаночага духоўнага вучылішча на рагу вуліц Шырокай і Міхайлаўскай. Яшчэ доўгі час універсітэт туліўся па розных памяшканнях, раскіданых па розных канцах горада. Першы універсітэцкі корпус быў узведзены толькі ў сярэдзіне 20-х гадоў.

Як сапраўдны асветнік, У. Ігнатоўскі добра разумеў, што нацыя без адукацыі, якую вянчае сістэма вышэйшай школы, не здольная да адраджэння, да ўзлёту да вышынь культуры. І таму не абмяжоўваўся толькі дапамогай рэктару універсітэта У. Пічэце ў забеспячэнні БДУ матэрыяльнай базай, арганізацыі навучальнага працэсу як нарком асветы. Ён увайшоў у праўленне БДУ, стаў на пэўны час намеснікам рэктара, першым дэканам факультэта грамадскіх навук, дэканам педагагічнага факультэта. «На універсітэце,— сказаў Ігнатоўскі ў прывітальнай прамове падчас яго адкрыцця — ляжыць вялікая задача даць магчымасць беларускаму работніку атрымаць вышэйшыя веды, каб аддаць іх роднаму краю».

Веды роднаму краю — гэтай ідэяй кіраваўся Усевалад Макаравіч і ствараючы пры Наркамаце асветы ў тым жа 1921 годзе Навукова-тэрміналагічную камісію, на базе якой у наступным годзе быў арганізаваны Інстытут беларускай культуры — папярэднік будучай Акадэміі навук.

Першым старшынёй камісіі, а потым і Інбелкульта стаў саратнік Ігнатоўскага, мовазнаўца Сцяпан Некрашэвіч. Праз два гады, калі ўжо выразна акрэслілася задача па пераўтварэнню Інбелкульта ў Акадэмію навук, яго замяніў на гэтай пасадзе Усевалад Макаравіч. Кадраў катастрафічна не хапала, і, каб забяспечыць сталае развіццё на прыярытэтных напрамках, прыходзілася імі манеўраваць, сумяшчаць пасады. Ну, а калі мець на ўвазе, што ў сферу дзеяння Наркамата асветы на той час уваходзілі не толькі пытанні адукацыі, але і культуры ў цэлым, то будзе відавочна і непасрэднае дачыненне У. Ігнатоўскага да стварэння дзяржаўнай і універсітэцкай бібліятэк, Дзяржаўнага музея, Цэнтральнага архіва, выдавецтва «Савецкая Беларусь». Унушальны вынік усяго толькі за нейкія два-тры гады і ва ўмовах жорсткай пасляваеннай разрухі, калі лічыць прыходзілася кожную капейку.

Гэта не парадокс, а закон жыцця, закон гісторыі, які добра разумеў яе знаўца Ігнатоўскі: каб аднавіць зруйнаваную краіну, наогул скіраваць яе на прагрэсіўны шлях развіцця — трэба адкрываць школы і універсітэты, рыхтаваць адукаваныя кадры. І не адштурхнуць, а прыцягнуць да стваральнай працы на карысць новаму ладу кадры ўжо падрыхтаваныя — старую інтэлігенцыю. У тым ліку і тую частку яе, якая на трагічным зломе грамадзянскай вайны ў разгубленасці затрымалася на нейтральнай паласе, і нават тую, якая апынулася па другі бок барыкад. Чалавек высокай гуманітарнай культуры, які сам прайшоў складаны шлях пошукаў свайго месца ў адкрытай сацыяльнай барацьбе, зведаў горыч цяжкіх сумненняў, добра разумеў драму інтэлігента з яго гуманнымі ідэаламі, раптам закінутага жорсткай рэчаіснасцю ў самы цэнтр крывавай братазабойчай завірухі, пастаўленага няўмольнай логікай барацьбы перад выбарам, на які бок стаць, бо трэцяга не было дадзена, разумеў, што інтэлігенцыя — гэта той духоўны, інтэлектуальны скарб нацыі, які назапашваецца, выхоўваецца стагоддзямі, і таму ім трэба да-

ражыць, берагчы, каб спаўна забяспечыць пераемнасць пакаленняў, наследаванне і прымнажэнне новай генерацыяй інтэлігенцыі назапашаных папярэднікамі духоўных здабыткаў.

Тым больш гэта адносілася да маладой, пераважна ў першым-другім пакаленні, беларускай інтэлігенцыі, танюткі слой якой толькі-толькі пачаў складвацца. Прычым, па сацыяльнаму складу і каранях сваіх інтэлігенцыі сапраўды народнай — амаль цалкам сялянскай. (У выніку розных гістарычных акалічнасцей, асаблівасцей развіцця капіталізму слой гандлёвай і прамысловай буржуазіі ў Беларусі па нацыянальнаму складу сфарміраваўся галоўным чынам з яўрэяў — больш чым на 60 працэнтаў, рускіх і палякаў; беларусы былі прадстаўлены ў ім літаральна адзінкамі). І тым больш інтэлігенцыі, станаўленне якой амаль цалкам супала з уздымам рэвалюцыйнага дэмакратычнага і рабочага руху ў краіне і якая ва ўмовах царскай палітыкі нацыянальнага прыгнёту стала выразнікам вольналюбівых імкненняў свайго народа, арганізатарам нацыянальна-вызваленчага руху. Так, рух гэты, згодна законам сацыяльна-класавай барацьбы, на вострым лязе Кастрычніка раскалоўся, і частка яго ўдзельнікаў, частка інтэлігенцыі апынулася ў супрацьлеглым Савецкай уладзе лагеры.

У. Ігнатоўскі, які значную частку свайго рэвалюцыйнага шляху прайшоў у рэчышчы нацыянальна-вызваленчага руху, як ніхто іншы разумеў усе гэтыя акалічнасці. Як разумеў і становішча тых, з кім некалі сябраваў, спрачаўся, з кім у свой час прынцыпова разышоўся. Безумоўна, яны сталі палітычнымі праціўнікамі Савецкай улады, але ніколі не былі ворагамі Беларусі, беларускаму народу. Наадварот, большасць з іх усё жыццё апантана служылі ідэі нацыянальнага адраджэння, стварэння што б там ні было незалежнай Беларусі. Менавіта гэта «што б там ні было» пры недаацэнцы першаснасці сацыяльных інтарэсаў народа і прывяло іх да страты масавай сацыяльнай базы,

і гэта ў сваю чаргу прымусіла шукаць знешняй падтрымкі (германская, польская арыентацыі) у дасягненні мэты. Але ў іх шчырым імкненні быць карыснымі свайму народу, паслужыць здзяйсненню яго нацыянальных і сацыяльных ідэалаў У. Ігнатоўскі не сумняваўся. І таму быў упэўнены, што калі даць ім такую магчымасць, калі ўбачаць яны, што на дасягненне тых жа мэтаў накіравана і палітыка Савецкай улады, то яны прымуць яе, спаўна аддадуць ёй і свае веды, і сваю працу.

У гэтым разуменні сітуацыі погляды У. Ігнатоўскага цалкам супадалі з поглядамі А. Чарвякова. Яны ж абодва ў сваю чаргу найбольш цэласна і сістэмна выказвалі адчуванні і думкі ўсяго рэвалюцыйна-дэмакратычнага крыла былога нацыянальна-вызваленчага руху, якое далучылася ў свой час да бальшавікоў. З другога боку, менавіта такому з агульначалавечых пазіцый падыходу да старой інтэлігенцыі адпавядаў і класавы падыход бальшавікоў, замацаваны нават у рэзалюцыях Х з'езда: залучаць яе на свой бок, прыцягваць да будаўніцтва новага ладу прадстаўнікоў старой інтэлігенцыі. У сваім канкрэтным змесце адносіны да інтэлігенцыі з'яўляліся вытворным з агульнага асэнсавання неабходнасці як мага хутчэй пераадолець тую лютасць між людзьмі, якая ўзнікла ў ходзе грамадзянскай вайны, паспрыяць нацыянальнаму прымірэнню, згуртаванню ўсіх творчых сіл народа.

Зразумела, што не ўсе з партыйна-савецкіх кіраўнікоў і не адразу пазбавіліся былога недаверу ў адносінах да старой інтэлігенцыі, як і наадварот. Былі і спрэчкі, былі і канфлікты. Але відавочна, што вынікам прынцыповага супадзення пазіцый і разам з тым станоўчага ўплыву гуманістычных поглядаў інтэлігенцыі, перш за ўсё У. Ігнатоўскага і А. Чарвякова, з'явілася сумесная пастанова ЦВК СССР і ЦВК БССР аб амністыі ўсім удзельнікам антысавецкіх нацыянальных фарміраванняў і арганізацый перыяду 1918—1920 гадоў: выхадцам з працоўных слаёў народа, беларускім палітычным і культурным дзеячам,

членам так званых беларускіх нацыянальных урадаў (Вялікай беларускай рады, Найвышэйшай рады, урада БНР, Беларускай рады і інш.), былым членам Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, якія не прымалі актыўнага ўдзелу ва ўзброенай барацьбе з Савецкай уладай і заявілі аб лаяльных адносінах да яе. Зроблена гэта было, як гаварылася ў пастанове, «з мэтай даць магчымасць усім сумленным людзям загладзіць сваё мінулае шчырым раскайваннем і самаадданай работай на карысць працоўных».

Маладая Савецкая ўлада добра разумела, што толькі кансалідацыя кожнай нацыі паасобку і ўсіх у супольнасці — адзіна магчымая аснова для паспяховага вырашэння стваральных задач будаўніцтва новага грамадства ў шматнацыянальнай краіне. На жаль, разам са многім іншым гэтыя ідэі і адпавядаючая ім практыка будуць да непазнавальнасці дэфармаваны ў гады сталінізму: кансалідацыя, адзінства на падставе звышцэнтралізму, ідэі збліжэння і поўнага зліцця нацый, неабходнасці адпору знешняму і ўнутраным ворагам, веры ў мудрага правадыра. Углядаючыся прасветленым зрокам у наша мінулае, будзем бачыць і тое, і другое; адмаўляючыся ад старых міфаў, засцеражомся ад спакусы (і небяспекі) новай міфатворчасці. І тады відавочна адкрыецца, што тая палітыка нацыянальнага прымірэння, развіцця кожнай нацыі і іх самабытных культур, іх суверэнітэту, якая сёння, хоць і з вялікімі цяжкасцямі, але набывае выразна акрэслены канцэптуальны змест і практычнае ўвасабленне, сваімі вытокамі ўсходзіць да нацыянальнай палітыкі маладой Савецкай дзяржавы. Як адкрыецца і тое, што свой першапачатковы гуманны змест у БССР яна набывала не ў апошнюю чаргу дзякуючы ініцыятывам, намаганням беларускай інтэлігенцыі, яе выдатным прадстаўнікам, дзеячам нацыянальнага адраджэння як з ліку тых, хто прыйшоў да бальшавікоў, уступіў у РКП(б), так і тых, хто не адразу і не ва ўсім прыняў Савецкую ўладу.

Такім чынам, да 1923—1924 гадоў выспелі і ўмацаваліся, прынеслі першыя вынікі ўсе асноватворныя элементы палітыкі беларусізацыі. Аднак ім не хапала канцэптуальнай і практычнай цэласнасці. Хада падзей, логіка развіцця сітуацыі, рашэнні XII з'езда РКП(б), рост нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, ініцыятывы інтэлігенцыі — усё патрабавала выпрацоўкі канкрэтнай праграмы дзеяння. Адпаведную задачу і ўскладаюць на сябе рэспубліканская партыйная арганізацыя, яе Цэнтральнае бюро, урад. Для У. Ігнатоўскага настае гарачая пара. Ён — адзін з асноўных ідэолагаў і творцаў гэтай праграмы, асабліва ў той яе частцы, якая непасрэдна тычылася праблем нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

Чэрвень-ліпень 1923 года ў яго жыцці — гэта чарада бясконцых пасяджэнняў у Наркамаце асветы, у Цэнтральным бюро Кампартыі Беларусі. Наведванне калектываў. Сустрэчы з пісьменнікамі, з навукоўцамі. Не так часта, як хацелася б — часу хранічна не хапае,— ён усё ж бывае і на знакамітых на тую пару вечарынках у хлебасольнага Янкі Купалы, дзе збіраюцца пісьменнікі сталыя і маладыя пачаткоўцы, куды заходзяць і кіраўнікі рэспублікі. Размовы, спрэчкі, дыскусіі, роздум. Паспешлівыя накіды ў блакнот: прапановы субяседнікаў, уласныя думкі. І больш спакойныя, позняй ноччу, дома — запісы ў дзённіку, які вядзе ўжо шмат год. (Ведаць бы, дзе гэты дзённік, арыштаваны органамі ДПУ пасля самагубства У. Ігнатоўскага. Існуе ён ці знішчаны? Багата што дапамаглі б выявіць тыя запісы). Ночы, галоўным чынам, застаюцца і для творчай працы вучонага-гісторыка. Яго погляды перасякаюцца і сутыкаюцца, супадаюць з меркаваннямі іншых і пярэчаць ім.

У гэты час ідзе напружаны пошук новага зместу нацыянальнай палітыкі, а ў яе рамках культурнага будаўніцтва ў рэспубліцы. У. Ігнатоўскі прымае непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы першага з такога роду праграмных дакументаў, які пад назвай «Канкрэтызацыя платформы

па нацыянальнаму пытанню *, прынятай за аснову Палітбюро ЦК РКП(б), ва ўмовах БСС Рэспублікі» зацвердзіць пашыраны ліпеньскі (1923 года) пленум ЦБ КП(б)Б. Яго меркаванні і прапановы знойдуць сваё ўвасабленне і ў рэзалюцыях па нацыянальнаму пытанню шэрагу наступных пленумаў ЦК КП(б)Б, у прыватнасці ліпеньскага (1924 года), студзеньскага і кастрычніцкага (1925 года), якія ў сваёй сукупнасці надалі палітыцы беларусізацыі цэласны характар, выразна акрэслілі яе галоўныя напрамкі і формы, вызначылі комплекс практычных мер яе правядзення. Гэтак жа, як і ў пастанове другой сесіі ЦВК (15 ліпеня 1924 года) «Аб практычных мерапрыемствах па правядзенню нацыянальнай палітыкі», з прыняццем якой беларусізацыя стала афіцыйнай дзяржаўнай палітыкай.

Можна без перабольшання сказаць, што беларусізацыя стала вызначальнай рысай усяго грамадскага развіцця Беларускай ССР другой паловы 20-х гадоў, якасна змяніла і палітычную, і маральна-псіхалагічную атмасферу ў рэспубліцы. У яе ажыццяўленні ўдзельнічалі дзесяткі тысяч людзей: партыйных, камсамольскіх, прафсаюзных актывістаў, настаўнікаў, студэнтаў, прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі. Яе падтрымалі — і словам, і справай — большасць не толькі радавых членаў, але і кіраўнікоў нацыянальных партый, у тым ліку і самай уплывовай з іх — Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р). Апошняя на сваім надзвычайным з'ездзе ў Мінску (ліпень 1924 года) аб'явіла аб самароспуску, заклікала сваіх членаў да супрацоўніцтва з Савецкай уладай, да актыўнага ўдзелу ў беларусізацыі. Канфрантацыя ўступала месца даверу і аб'яднанню.

З прывітаннем ад Камуністычнай партыі на з'ездзе

---

* «Практычныя мерапрыемствы па правядзенню ў жыццё рэзалюцый XII з'езда партыі па нацыянальнаму пытанню», вызначаныя на Чацвёртай нарадзе ЦК РКП(б) з адказнымі работнікамі нацыянальных рэспублік і абласцей, якая адбылася 9—12 чэрвеня 1923 года ў Маскве.

былых членаў БПС-Р выступіў былы член яе ЦК У. Ігнатоўскі. Выступленне ў многім цікавае — па сутнасці сцісалая, рэтраспектыўная ацэнка беларускага нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі, якая дае ўяўленне і аб матывах разрыву з БПС-Р самога Усевалада Макаравіча, і аб яго адносінах да сучаснай нацыянальнай палітыкі КП(б)Б. Прывядзём найбольш характэрныя ўрыўкі з яго прамовы: «Я хачу адзначыць галоўныя памылкі, якія былі зроблены БПС-Р. Гэта не ёсць жаданне паставіць зробленыя памылкі ў дакор каму-небудзь, але я аб'ектыўна, як прадстаўнік КП, хачу толькі іх падкрэсліць. Першая памылка, якую зрабіла БПС-Р, гэта ўтварэнне ў часы польскай акупацыі Рады Беларускай народнай рэспублікі, замест таго каб утварыць Рэвалюцыйны камітэт дзеля барацьбы з польскай шляхтай. Другая вялікая памылка — гэта адмова Беларускай партыі С-Р у 1920 годзе прыняць удзел разам з камуністамі ва ўтварэнні Рэўкома ССРБ. Але гэтыя памылкі выклікаліся аб'ектыўным становішчам, а не жаданнем асобных людзей...

Нашаніўцы паставілі барацьбу супраць нацыянальнага ўціску вышэй сацыяльнага руху. За імі пайшла і Беларуская сацыялістычная грамада. Партыя БС-Р перажыла шмат перыядаў, і колер кожнага з іх пакідаў пасля сябе след, які адзначаўся то перавагай сацыяльных, то нацыянальных матываў.

Сучасны момант вельмі яскравы, ён нам кажа, нават уласна дыктуе тыя крокі, якія вы павінны рабіць. Возьмем Беларускую Камуністычную арганізацыю: канец 19-га, пачатак 20-га году. Тое, што вы думаеце рабіць цяпер, яна зрабіла тады. Вось сучасны момант і ёсць канец таго, што пачалося ў 19—20-м годзе...

Не так ідзе праца ў Заходняй Беларусі. Тыя сябры партыі, якія былі сапраўднымі барацьбітамі, альбо апынуліся за кратамі, альбо вымушаны былі пакінуць Заходнюю Беларусь і перайсці ў БССР... Другая частка членаў партыі беларускіх С-Р, як Грыб, Мамонька, Бадунова і

шыла, адышлі ў правы бок і застануцца дагэтуль у стане, варожым да Савецкай Беларусі.

Партыя камуністаў мае свае памылкі і свае вартасці, і не дзеля хараства яе вы ідзеце разам з ёю працаваць, але гэта адпавядае гістарычнаму моманту».

Як бачым, Ігнатоўскі не выступае суддзёй, не папракае, ён разумее ўсю складанасць гістарычных абставін станаўлення і развіцця беларускага нацыянальнага руху, узнікнення, фарміравання і ўвасаблення ідэй нацыянальнага адраджэння. Крытычна ставіцца і да палітыкі Кампартыі. І рады, што зараз усе прагрэсіўныя сілы яднаюць свае намаганні.

У. Ігнатоўскі меў усе падставы быць задаволеным. І як палітык, і як чалавек. Яго меркаванні аб беларускай інтэлігенцыі, яго разуменне складана супярэчлівага зместу нацыянальнага руху, стваральных магчымасцей руху нацыянальнага адраджэння (які ў прынцыповай сваёй сутнасці адпавядаў савецкай нацыянальнай палітыцы) знаходзілі сваё пацвярджэнне. Не варагаваць, а супрацоўнічаць, зноў дружбаваць з тымі, з кім некалі разам крочыў у рэвалюцыі і разышоўся, здавалася, назаўсёды — у тым была вялікая маральная палёгка не толькі для яго, для ўсіх (за выключэннем крайне правых памешчыцка-буржуазных, сепаратысцкіх элементаў) удзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху.

Задаволены былі і ім. Кіраўніцтва рэспублікі аддало належнае яго ўкладу ў савецкае будаўніцтва, перш за ўсё нацыянальна-культурнае. У тагачаснай палітычнай сітуацыі шлях У. Ігнатоўскага, яго дзейнасць ацэньваліся як сведчанне прынцыповага служэння справе Камуністычнай партыі, як прыклад для тых, хто яшчэ вагаўся ў сваім выбары. Зыходзячы з гэтага, у лістападзе 1924 года ЦК КП(б)Б прыняў рашэнне адзначыць 20-гадовы юбілей «культурна-педагагічнай і рэвалюцыйнай дзейнасці У. Ігнатоўскага, прымеркаваўшы яго да гадавіны ўтварэння БССР і правёўшы пад лозунгам дасягненняў нацыяналь-

най палітыкі рабоча-сялянскай дзяржавы». Мэта была такая: паказаць, «як лепшыя найбольш рэвалюцыйныя элементы народніцкіх груп, падобна тав. Ігнатоўскаму, зразумелі, што сялянства павінна ісці за рабочым класам пад яго кіраўніцтвам». 20 снежня 1924 года пастановай ЦК КП(б)Б быў зацверджаны «Практычны план святкавання юбілею У. М. Ігнатоўскага»:

«1. Дзень 31-га снежня лічыць рабочым.

2. У навучальных установах БССР дзве апошнія гадзіны заняткаў удзяліць асвятленню пытанняў, звязаных з 6-годдзем самастойнага існавання БССР, і асвятленню рэвалюцыйнай дзейнасці т. Ігнатоўскага.

3. Асноўным матэрыялам для дакладаў лічыць дадатак да палітпісьма № 1, артыкулы і тэзісы, якія будуць змешчаны у «Звезде» ў развіццё дадаткаў да пісьма.

4. Спецыяльных сходаў, прысвечаных выключна юбілею т. Ігнатоўскага, не наладжваць. У Мінску і акруговых цэнтрах арганізаваць па аднаму сходу гарсаветаў сумесна з прафесійнымі і партыйнымі арганізацыямі, прысвечанаму 6-й гадавіне БССР, асвятліўшы ў садакладах і рэвалюцыйную работу т. Ігнатоўскага, і яго ролю ў стварэнні Савецкай Беларусі».

У шостым нумары часопіса «Маладняк» за 1925 год артыкулам «Будаванне Савецкай Беларусі і роля ў гэтым т. У. М. Ігнатоўскага» на юбілей адгукнуўся З. Жылуновіч, вершамі — паэты А. Александровіч, А. Якімовіч, А. Гурло. І артыкул, і вершы — шчырыя, без пафаснага звону. Будучыня бачылася такой светлай. І да таго былі ўсе падставы. Жыць яшчэ было вельмі цяжка, але ж і змены да лепшага — адчувальныя, нацыянальная культура на вачах адраджалася, палітыка беларусізацыі набывала выразна акрэслены сэнс і змест.

У гісторыі не раз бывала, што добрыя праграмы заставаліся на паперы, не падмацаваныя адпаведнай арганізатарскай працай. У даным выпадку гэтага ўдалося пазбегнуць. На кожным са сваіх напрамкаў палітыка бела-

русізацыі да канца 20-х гадоў дала свой плённы вынік. І на кожным з іх выразна прасочваецца асабісты ўклад У. Ігнатоўскага. Зразумела, не непасрэднага выканаўцы той ці іншай работы (хаця і так было), а кіраўніка і арганізатара. Прычым, не камандзіра-адміністратара, а, хутчэй, стратэга, рэжысёра, які разам з усімі ў дыскусіі, сілай аўтарытэту, аргумента мог з дакладнасцю вызначыць бліжэйшыя і перспектыўныя задачы, падабраць творчых, самастойных працаўнікоў, аб'яднаць іх у калектыве, размеркаваць па іх здольнасцях і прыхільнасцях, скіраваць намаганні. І адпаведна з гэтым на кожным з напрамкаў знайсці, вызначыць свайго лідэра — творчага, кампетэнтнага. Такім чалавекам, апорай для У. Ігнатоўскага ў Наркамаце асветы стане, напрыклад, Антон Баліцкі — яго намеснік. У Тэрміналагічнай камісіі, у Інбелкульце — Сцяпан Некрашэвіч.

Справа для кіраўніка, зразумела, галоўнае, але і не забыцца аб іх паўсядзённых жыццёвых, бытавых клопатах — не менш важна. Усевалад Макаравіч не забываў, клапаціўся, дапамагаў — не па разліку, а шчыра, ад душы. Спалучэнне добразычлівасці з патрабавальнасцю ў адносінах да людзей, дабрыні і мяккасці з воляй і цвёрдасцю так ці інакш адзначаць многія, хто яго добра ведаў. На жаль, адзначаць ужо на допытах у АДПУ. А некаторыя з іх, зламаныя, у жудасным кантэксце: Ігнатоўскі дапамагаў, да яго цягнуліся людзі, з іх у рэшце рэшт і складалася яго нацдэмаўская група. Але ўсё гэта будзе потым, пакуль жа — яны аднадумцы, саратнікі, разам з Усеваладам Макаравічам натхнёна робяць адну справу — справу беларусізацыі.

Вось найбольш значныя канкрэтныя вынікі яе. Перш за ўсё ў развіцці беларускай мовы. Яе колішняе становішча (дыялектная стракатасць, незавершанасць фарміравання ў якасці літаратурнай, нераспрацаванасць навуковай, палітычнай, юрыдычнай тэрміналогіі) патрабавала як навуковай распрацоўкі лексічных, граматычных нор-

маў, тэрміналогіі на аснове народнай мовы, так і выданне адпаведных слоўнікаў. На вырашэнне гэтых задач пад кіраўніцтвам У. Ігнатоўскага і скіравалі свае намаганні Інстытут беларускай культуры, адпаведныя кафедры БДУ. Тут збіраюцца лепшыя сілы мовазнаўцаў, літаратуразнаўцаў. За кароткі прамежак часу былі падрыхтаваны і выдадзены тэрміналагічныя слоўнікі па асноўных галінах навукі, распрацоўкі па лексіцы і граматыцы беларускай мовы, дапаможнікі для школ, тэхнікумаў, інстытутаў. Гэтак жа, як і шэраг прац па актуальных праблемах гісторыі, геаграфіі, грамадскай думкі і эканомікі Беларусі. Шырокае развіццё атрымала краязнаўства (больш за 10 тысяч удзельнікаў аб'ядноўвалі краязнаўчыя арганізацыі). Да 80 працэнтаў школ было пераведзена на беларускую мову навучання. Разам з тым адчыняліся школы з роднай мовай выкладання для прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей (за 1928 год выкладанне ў школах вялося на Беларусі на васьмі нацыянальных мовах, руская і беларуская ва ўсіх навучальных установах з'яўляліся абавязковымі для вывучэння). На беларускую мову была пераведзена і частка прафесіянальна-тэхнічных вучылішч, тэхнікумаў. Значна пашыралася выданне часопісаў, газет, кніг на беларускай мове (і адначасова — на рускай, польскай, яўрэйскай). На беларускую мову было пераведзена справаводства партыйных арганізацый, пачынаючы з ЦК КП(б), ЦВК і Саўнаркома.

Карэнізацыя — найбольш складанае пытанне беларусізацыі. Тут лягчэй за ўсё маглі ўзнікнуць узаемныя крыўды, непаразуменні на глебе супрацьпастаўлення інтарэсаў адной нацыянальнасці другой. У. Ігнатоўскі прыкладаў максімум намаганняў, каб прадухіліць тэндэнцыі як да перабольшвання, так і пераменшвання нацыянальных асаблівасцей. Згодна агульнай задуме не нацыянальнасць (беларус — не беларус) браў ён за крытэрый пры вылучэнні таго ці іншага чалавека на пасаду, а дзелавыя якасці, веданне і разуменне ўмоў і асаблівасцей Беларусі,

дасканалае валоданне беларускай і рускай мовамі. Улічваўся пры гэтым і крытэрый прапарцыянальнага прадстаўніцтва кожнай нацыі ў тых ці іншых органах улады і кіравання. У гэты час на сходах, нарадах, сустрэчах у калектывах у руках яго часта з'яўляецца запісная кніжка, куды ён заносіць то адно, то другое прозвішча людзей, якія нечым уразілі яго, вылучыліся сваімі ведамі, пастаноўкай пытання, справай. Гэта дапамагала яму трымаць руку на пульсе жыцця, ведаць настрой шырокіх колаў грамадскасці, не згубіць слушныя прапановы. Звяртаўся ён да запісаў і пры вырашэнні кадравых пытанняў. (Звычайная справа для кожнага кіраўніка, якая ні ў кога не выклікала ніякіх сумненняў, праз пэўны час абернецца для Ігнатоўскага дадатковым абвінавачваннем: выглядаў быццам і запісваў у тую кніжку прозвішчы сваіх людзей, нацдэмаў, якіх і расстаўляў на адказныя пасады). У выніку карэнізацыі да 1928 года доля беларусаў у групе кіраўнікоў губернскага і павятовага маштабу ў гарадскіх Саветах узрасла прыкладна з 20—30 да 50—60 працэнтаў, доля прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей адпаведна зменшылася.

Па роду сваіх службовых абавязкаў, як член Бюро замежнай дапамогі Кампартыі Заходняй Беларусі, У. Ігнатоўскі ўважліва сачыў за развіццём нацыянальна-вызваленчага руху па той бок граніцы, падтрымліваў сувязі з яго актыўнымі дзеячамі, у тым ліку з былымі сваімі саратнікамі па БСГ і БПС-Р. У Маладзечанскім архіве захавалася цікавае таму сведчанне — дасье «Беларускія замежныя дзеячы» (г. зн. БССР), складзенае другім аддзелам польскага генеральнага штаба. У характарыстыцы на У. Ігнатоўскага, якая і адкрывала дасье, чытаем: «У 1924 годзе прыязджаў у Вільню. Знаходзіцца ў блізкіх прыяцельскіх адносінах з дырэктарам бел. гімназіі Астроўскім, у вельмі добрых адносінах з паслом (дэпутатам сейма.— **І. І. і А. К.**) Ракам-Міхайлоўскім, Тарашкевічам, Уласавым і А. Луцкевічам». Безумоўна, Ігнатоўскі добра

ведаў, які велізарны ўплыў аказалі на беларускую палітычную эміграцыю, на настрой народных мас Заходняй Беларусі пашырэнне БССР, палітыка беларусізацыі. На фоне ўнушальных вынікаў нацыянальнага і культурнага будаўніцтва ў Савецкай Беларусі, на справе ператвараючага ў жыццё ідэалы нацыянальна-вызваленчага руху, абяцанні польскіх лібералаў аб аўтаноміі бляклі на вачах, гублялі рэшткі сваёй прывабнасці. Імкненне да аб'яднання з БССР стала вызначальнай рысай самасвядомасці працоўных, інтэлігенцыі Заходняй Беларусі. «Савецкая Беларусь ператварылась у недасягальны ідэал,— чытаем мы ў адным з дакументаў ЦК КП(б)Б канца 1924 года.— Кожная вестачка з Мінску перадаецца з вуснаў у вусны. Ніхто ўжо не спрабуе выступаць супраць Савецкай улады. Тыя інтэлігенцкія групоўкі, якія год-два назад спрабавалі яшчэ выступаць супраць Савецкай улады, зараз таксама замоўклі, баючыся канчаткова згубіць свой уплыў на працоўныя масы...

Што паслужыла прычынай гэтай перамены настрояў і што штурхнула працоўныя масы і інтэлігенцыю «Усходніх крэсаў» да прыняцця ідэі Савецкай улады? Тут спрацавала шмат прычын, але самая асноўная — гэта наша нацыянальная палітыка».

Ацэнкі аб'ектыўныя, без перабольшвання, канстатацыя рэальна існуючага выніку, дасягнутага, падкрэслім, выключна сілай прыкладу. Хаця, безумоўна, Савецкая Беларусь аказвала падтрымку нацыянальна-вызваленчаму рэвалюцыйнаму руху ў Заходняй Беларусі. Перш за ўсё маральную (праз друк, радыё, перапіску, у ходзе асабістых сустрэч савецкіх беларускіх дзеячаў культуры з заходнебеларускімі ў час рэдкіх іх візітаў за мяжу і нелегальных прыездаў удзельнікаў падпольнай барацьбы ў БССР), матэрыяльную (даволі абмежаваную з-за ўласнай беднасці), інфармацыйную (перасылка перыядычных савецкіх выданняў і літаратуры). Гэта дапамога была не чым іншым, як працягам усё той жа нацыянальнай палі-

тыкі, канцэпцыя якой разглядала эміграцыю не як ворага, а як сваіх суайчыннікаў, адарваных воляю лёсу і ўласных учынкаў ад родных берагоў.

Той канчатковы выбар, да якога схілялася ўжо частка беларускай палітычнай эміграцыі, быў зроблены ў многім дзякуючы гэтым сувязям. Змешчаная ў зборніку дакументаў «Идеологическая деятельность Компартии Белоруссии» (Часть 1, 1918—1928 гг., Мн., 1990) пастанова ЦК КП(б)Б «О Берлинской конференции» ад 14 жніўня 1925 года — таму пацвярджэнне. ЦК прызнаваў мэтазгодным правядзенне групай Цвікевіча ў Берліне беларускай канферэнцыі, але пры выкананні адпаведных умоў: прызнання Мінска ў якасці адзінага культурнага і палітычнага цэнтра, на які належала арыентавацца беларускаму руху Польшчы, Літвы, Латвіі і інш., папярэдняй, да канферэнцыі, перадачы паўнамоцтваў БНР ураду БССР у форме дэкларацыі; падтрымкі міжнароднага з'езда беларусазнаўцаў у Мінску; прызнання немэтазгодным стварэнне новага цэнтра беларускага руху за мяжой; згодзе групы Цвікевіча дзейнічаць у поўным кантакце з Беларускай сялянска-рабочай грамадой.

Берлінская канферэнцыя адбылася 12 кастрычніка 1925 года. Члены «ўрада і Рады БНР» прынялі рашэнне спыніць барацьбу супраць Савецкай улады, зыходзячы з факта, што БССР з'яўляецца адзіным цэнтрам кансалідацыі беларускага народа і адраджэння яго самабытнай культуры. Такое рашэнне, такі паварот меў і свае ўнутраныя, прычым, даўнія, перадумовы. Яшчэ ў 1919 годзе пасля абвяшчэння Савецкай Беларусі А. Смоліч у лісце да А. Луцкевіча пісаў: «...Калі ён (бальшавізм.— **І. І.** і **А. К.**) дае магчымасць шырокай культурнай працы, узнае і бароніць нашу дзяржаўнасць і **глаўнае**, калі ён давядзе яе да натуральных рубяжоў — створыць Беларусь аб'яднаную,.. дык мы мусім ухваціцца за гэтую ідэю, прызнаць яе нацыянальным заданнем часу і проста стаць у рады абаронцаў гэтага парадку і ваяваць у гэтых радах

хоць бы з усім светам»*. Не бачыць сугучнасці нацыянальнай палітыкі, якую праводзіла БССР, сваім імкненням, беларускія дзеячы ў эміграцыі безумоўна не маглі. Гэтак жа ёсць усе падставы меркаваць, што не апошнюю ролю ва ўсведамленні імі сэнсу і зместу такой палітыкі адыграў У. Ігнатоўскі. Яго словы, яго тлумачэнні, яго аўтарытэт дапамаглі многім паверыць у яе, пераадолець свае ваганні.

Рашэнні канферэнцыі ў Берліне слушна паспрыялі пашырэнню кантактаў. У канцы 1926 года са згоды ЦК КП(б)Б Інбелкульт правёў навуковую канферэнцыю з запрашэннем прадстаўнікоў беларускай эміграцыі і замежных вучоных. Ігнатоўскі ўвайшоў у створаную ЦК камісію па падрыхтоўцы канферэнцыі, выступаў на ёй з дакладам. Магчымасць на ўласныя вочы пераканацца ў рэальнасці палітыкі беларусізацыі, гутаркі з Чарвяковым, Ігнатоўскім, Жылуновічам, іншымі савецкімі палітычнымі і культурнымі дзеячамі дапамаглі многім з дзеячаў беларускай эміграцыі, у тым ліку членам былой Рады БНР, прыняць запрашэнне Савецкага ўрада пераехаць у БССР. Пераканаўчае пацвярджэнне таму — падарожны нарыс В. Ластоўскага «Уражанні з паездкі ў Беларускую Радавую Сацыялістычную Рэспубліку».

Не з усім, што рабілася тут, яны пагаджаліся, але не ў тэорыі, не ў марах — Беларусь на вачах адраджалася, сцвярджала сябе. З павагай піша В. Ластоўскі ў сваіх нататках аб рабоце Інбелкульта, на чале якога стаіць «агульна шанаваны беларускі дзеяч прафесар У. Ігнатоўскі».

Савецкія ўлады сустрэлі тых, хто прыехаў, а сярод іх былі і В. Ластоўскі з А. Цвікевічам, з увагай і прыязнасцю. У гонар Цвікевіча нават быў наладжаны неафіцыйны банкет, на якім прысутнічалі народныя камісары, прадстаўнікі розных ведамстваў, прафесура, члены Інбелкуль-

---

* Тэкст ліста прыведзены А. Сідарэвічам ва Ўступным артыкуле да публікацыі дзённіка А. Луцкевіча. (Полымя, 1991, № 4, стар. 213).

та. В. Ластоўскі, а таксама Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, якія не пакідалі межаў Беларусі і былі амнісціраваны яшчэ раней, у 1928 годзе сярод першых сталі акадэмікамі Беларускай акадэміі навук. В. Ластоўскі пасля вяртання працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея, неадменным (па сучаснай тэрміналогіі — вучоным) сакратаром акадэміі, узначаліў этнаграфічную навуку ў рэспубліцы. А. Цвікевіч — старшынёй камісіі па вывучэнню асветы на Беларусі Інстытута беларускай культуры (потым АН БССР). Гэтак жа і ўсе астатнія па прыездзе атрымалі работу ў адпаведнасці з іх адукацыяй і кваліфікацыяй, галоўным чынам у сферы культуры, асветы, навукі.

Бясспрэчна, што нямала таму паспрыяў У. Ігнатоўскі — па доўгу службы, па загаду душы. Як бясспрэчна і тое, што гэта адпавядала тагачаснай палітыцы: не напамінаць прадстаўнікам старой інтэлігенцыі аб былых «грахах», а даць ім магчымасць працаваць там, дзе іх веды і здольнасці будуць служыць на карысць Савецкай Беларусі. Гэта ўжо потым (і так хутка — праз нейкія тры гады) на крутым сталінскім павароце Ігнатоўскаму паставяць у віну, што ён нібыта расстаўляў былых арганізатараў легальнай антысавецкай барацьбы на адказныя пасады, каб умацаваць пазіцыі беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму.

Страшныя міфы развейваюцца. Сёння ўжо вядома (і рэабілітацыя гэта пацвярджае), што і Ластоўскі, і Лёсік, і Цвікевіч, і многія іншыя з так званых нацдэмаў, прызнаўшы Савецкую ўладу, ніякай контррэвалюцыйнай дзейнасці супраць яе не вялі. Не дзеля таго, рызыкуючы жыццём, адны з іх не пакінулі Радзіму, не пайшлі ў эміграцыю, а другія вярнуліся. У. Ігнатоўскаму, які добра ведаў і іх асабіста, і шлях іх у нацыянальна-вызваленчай барацьбе, гэта было ясна з самага пачатку. Ён дапамагаў знайсці сваё месца ў новым свеце і паслужыць свайму народу, людзям, якія перажывалі драму крушэння

многіх былых ілюзій, карэннага пералому свайго светапогляду, але не страцілі веру ў ідэалы нацыянальнага адраджэння беларускага народа і таму аказаліся здольнымі зразумець, што рэальны шлях ажыццяўлення гэтых ідэалаў гісторыя прадаставіла Савецкай Беларусі. Супярэчлівую сутнасць такога выбару, гэтага пераломнага моманту ў іх поглядах і лёсе, добра перадае выказванне А. Цвікевіча. «Пытанне аб Беларусі,— пісаў ён,— можа быць узята ці пад знакам стварэння буфернай дэмакратычнай дзяржавы, ці пад знакам дэмакратызацыі існуючай сёння Савецкай Беларусі... Дэмакратызацыя існуючай Савецкай Беларусі справа больш важная і больш лёгкая».

З такімі поглядамі і вярталася беларуская палітычная эміграцыя дадому. Яна не хавала ў сабе (як гэта неўзабаве ўбачыцца арганізатарам палявання за «ворагамі народа») ні пагрозы бальшавіцкаму светапогляду, ні тайных намераў змяніць паступова знутры грамадскі лад Савецкай Беларусі, пераўтварыць яе ў буржуазна-дэмакратычную рэспубліку, адарваць ад СССР. Самае большае, што можна, калі вельмі захацець, разумець за словамі аб дэмакратызацыі Савецкай Беларусі — гэта надзею на лібералізацыю Савецкай улады ўласнай логікай развіцця, логікай нэпа — у адпаведнасці са зменавехаўскім яе разуменнем. Але лепш не шукаць падвойнага сэнсу, прыхаванага падтэксту там, дзе ўсё напісана канкрэтна і ясна. Гэта якраз той выпадак, асабліва калі ўлічыць, што менавіта дэмакратызацыя ўяўляла сабой палітычную сутнасць нэпа, у тым ліку і ў сферы нацыянальнай палітыкі. Не выпадкова і былыя дзеячы беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, якія яшчэ напярэдадні Вялікага Кастрычніка абралі сацыялістычную арыентацыю (Бурбіс, Жылуновіч, Ігнатоўскі, Чарвякоў), у той жа час прыйшлі да вываду аб прынцыповым супадзенні асноўных мэт нацыянальна-вызваленчага руху (за выключэннем буржуазна-сепаратысцкай яго плыні — Скірмунта, генералаў Кандратовіча, Алексіеўскага, ксяндза Гад-

леўскага і інш.) і нацыянальнай палітыкі бальшавіцкай партыі.

Унутрана таксама неаднародная ў часы грамадзянскай вайны, дзвюх акупацый Беларусі, у эміграцыі яна прайшла сваю эвалюцыю, сваю дыферэнцыяцыю. Дэмакратызм нават левай часткі ліберальнай плыні і дэмакратызм рэвалюцыйнай плыні, якая злілася з бальшавізмам, ствараў рэальную падставу для іх новага спалучэння, на платформе Савецкай улады, для палітычнага саюза ў імя ажыццяўлення ідэалаў нацыянальна-дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага самавызначэння беларускага народа. Гэта разумеў У. Ігнатоўскі, аб чым сведчыць вышэйпрыведзеная яго прамова на сходзе былых членаў БПС-Р, які адбыўся ў Мінску ў чэрвені 1924 года. Не выпадкова сярод тых, хто адышоў у правы бок, ён не назваў ні В. Ластоўскага, ні А. Цвікевіча.

Больш таго, беларусы-камуністы Ігнатоўскі, Чарвякоў, Жылуновіч, іншыя выхадцы з рэвалюцыйна-дэмакратычнага крыла нацыянальнага руху, хаця і не зусім выразна, у многім спрошчана, хутчэй інтуітыўна, чым тэарэтычна дакладна, адчувалі гуманны сэнс сацыялізму як поўнай дэмакратыі глыбей многіх камуністаў, чый светапогляд яшчэ не вырваўся з палону ўяўленняў палітыкі «ваеннага камунізму». Гуманізм іх агульнай пазіцыі, у сваю чаргу, больш адэкватна адпавядаў і канкрэтным палітычным задачам моманту: аб'яднанню вакол Савецкай улады ўсіх творчых, усіх патрыятычных сіл народа. І трэба мець на ўвазе, які велізарны ўплыў аказала вяртанне шэрагу вядомых беларускіх дзеячаў з эміграцыі ў Савецкую Беларусь на светапогляд, настрой удзельнікаў нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі, на рост іх сімпатый да БССР. Межы дзяржаў не падзяляюць народ — да гэтай ісціны ў той час падышлі найбліжэй. З поўнай падставай адкідваючы былыя скажоныя ўяўленні аб гэтых асобах, пастараемся быць аб'ектыўнымі, пастараемся бачыць іх такімі, якімі яны былі — у пэўны час і ў пэўных абставі-

нах. Там пачынальнікамі рэвалюцыйнага нацыянальна-вызваленчага руху, тут палітычнымі працаўнікамі Савецкай улады, а тут — яе прыхільнікамі. Менавіта як значны ўклад у развіццё культуры, асветы, навукі Савецкай Беларусі, у развіццё палітыкі беларусізацыі можна ацаніць іх дзейнасць пасля вяртання з эміграцыі. Не ў віну, а ў заслугу трэба паставіць У. Ігнатоўскаму тое, што ён таму слушна паспрыяў, не спалохаўся вылучэння іх на адказныя пасады, дапамог у забеспячэнні ім добрых умоў жыцця і творчасці.

## ПРАДВЕСЦЕ НАВАЛЬНІЦЫ

20-я гады — складаныя і нялёгкія гады гісторыі Краіны Саветаў, гісторыі БССР. Ідэалізаваць іх не прыходзіцца. Эканамічныя і сацыяльна-палітычныя супярэчнасці гэтага перыяду аб'ектыўна былі даволі вострымі. Прагрэсіўнае развіццё краіны на выснове нэпа — гэта рэальнасць, як і пэўная дэмакратызацыя грамадска-палітычнага жыцця, стваральны энтузіязм народа, яго вера ў ідэалы Кастрычніка, сацыялізм. Але ж многія элементы і асаблівасці палітыкі ваеннага камунізму захоўваліся, аказваючы моцнае супраціўленне нэпу. Існавалі і апазіцыйныя Савецкай уладзе, сацыялістычнаму выбару класавыя і палітычныя сілы. Трэба ўлічваць і нізкі культурны ўзровень насельніцтва, даўнія традыцыі існавання ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму і разам з тым рэвалюцыйнае нецярпенне мас, нецярплівае ж імкненне авангарда самой партыі да доўгачаканай мэты, моцныя праявы левaрадыкальнага рэвалюцыяністскага настрою ў многіх кіраўнікоў і значнай часткі членаў партыі, асабістыя прэтэнзіі лідэраў на ўладу, барацьбу за яе. Можна ўявіць сабе, якія ўзрыўныя сацыяльныя токі праціналі савецкае грамадства ў 20-я гады, як і чаму паступова ў ім сталі ўмацоўвацца элементы і метады адміністрацыйна-каманднага стылю кіраўніцтва,

як і чаму свабодны, шырокі ў спрэчках і дыскусіях пошук новых форм і метадаў будаўніцтва новага грамадства ўсё больш набываў характар жорсткай ідэйна-палітычнай барацьбы, у якой аргументаў і альтэрнатыўных прапаноў станавілася ўсё менш, ярлыкоў і абвінавачванняў — усё больш.

Усё гэта так ці інакш адбівалася на ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі, на развіцці беларусізацыі. А значыць і на светапоглядзе, дзейнасці У. Ігнатоўскага, які знаходзіўся ў цэнтры сілавога поля сацыяльнай напружанасці. Па праблемах нацыянальнай палітыкі ў рэспубліцы ён неаднаразова выступаў на з'ездах Кампартыі Беларусі, у тым ліку і на XI з дакладам аб выніках нацыянальна-культурнага будаўніцтва і палітасветы, да дзесяцігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Стану народнай асветы былі прысвечаны яго даклады на IV (снежань 1922 года) і V (студзень 1926 года) Усебеларускіх з'ездах Саветаў. Аналіз выступленняў і дакладаў дазваляе зрабіць вывад аб прынцыповай адпаведнасці поглядаў і пазіцый У. Ігнатоўскага агульнапартыйнай лініі. Ён добра бачыў небяспеку тых адмоўных тэндэнцый, якія ў хуткім часе схліснуліся ў рэчышчы беларусізацыі: з аднаго боку, пераменшванне нацыянальных асаблівасцей, з другога,— іх перабольшванне. Калі большасць рускай інтэлігенцыі, у тым ліку і спецыялісты, якія прыехалі па запрашэнню ўрада БССР, добра ўспрынялі беларусізацыю, вывучалі беларускую мову, культуру, дык значная частка рускіх чыноўнікаў, якіх нямала захавалася ў гаспадарчым і дзяржаўным апараце, ставілася да беларусізацыі рэзка адмоўна, трактуючы яе як прымусовае абеларушчванне. Падобным чынам успрыняла яе і частка інтэлігенцыі нацыянальных меншасцей, напалоханая магчымым ігнараваннем іх культурных запатрабаванняў. Такі настрой найбольш моцна праяўляўся ў асяроддзі яўрэйскай інтэлігенцыі і часткі працоўных-яўрэяў. Апошняе было тым больш небяспечна, што стварала спрыяльную глебу для ажыўлення і ўма-

цавання пазіцый сіянізму. Уплыў апошняга ва ўмовах Беларусі, якая працяглы час уваходзіла ў «рысу яўрэйскай аселасці» і дзе дзейнічала сіяніcцкая «ўсясветная буржуазная і дробнабуржуазная арганізацыя», быў даволі значны. Аб гэтым казаў, напрыклад, адзін з кіраўнікоў ЦБ яўрэйскіх секцый Левін на кастрычніцкім (1925 года) пленуме ЦК КП(б)Б, рэкамендуючы камуністам добра азнаёміцца з тэорыяй і практыкай сіянізму, прапанаваў выдаць некалькі кніг па іх выкрыццю. Аб небяспецы сіянізму неаднаразова выказваліся У. Ігнатоўскі, А. Чарвякоў і іншыя савецкія і партыйныя кіраўнікі.

Наогул пытанні барацьбы з праявамі вялікадзяржаўнага шавінізму, мясцовага нацыяналізму — беларускага, яўрэйскага, польскага — неаднаразова абмяркоўваліся на з'ездах і пленумах ЦК. Ацэнкі, У. Ігнатоўскага ў тым ліку, былі часам і вострымі, і нават рэзкімі. Але пры гэтым Усевалад Макаравіч заўсёды выступаў за палітычныя, выхаваўчыя метады пераадольвання негатыўных праяў. Такой была і агульная партыйна-палітычная лінія ў рэспубліцы прыкладна да канца 20-х гадоў. Спробы дбайных прыхільнікаў адміністрацыйна-камандных метадаў, якіх таксама было даволі ў кіраўніцтве, падмяніць ідэалагічны ўплыў рэпрэсіўным, атаясаміць нацыянальнае з нацыяналістычным да пэўнага часу насілі даволі асцярожны характар, апраналіся ў іншасказальную форму, зберагалі магчымасць адступіць крок, другі назад.

Адна з найбольш красамоўных спроб такога роду — выключэнне з партыі ў чэрвені 1924 года З. Жылуновіча на адзін год «за адарванасць ад мас і абывацельскую псіхалогію». Па апеляцыі абвінавачанага ЦКК КП(б)Б спачатку скараціла тэрмін да шасці месяцаў, а потым і зусім адмяніла сваё рашэнне. Жылуновіч быў адноўлены ў партыі, хаця і са строгай вымовай з папярэджаннем «за невытрыманасць». Не менш выразна пры разглядзе справы на пасяджэнні партыйнай калегіі ЦКК праявілася і гатоўнасць часткі апарату да рэпрэсіўных мер. Адказваючы

на пытанні аб шляхах будаўніцтва сацыялізму, Жылуновіч падкрэсліў, што па сённяшні час гэта магчыма толькі «праз удасканаленне сваёй пралетарскай дыктатуры». У адказ прагучала рэпліка сакратара Партыйнай калегіі ЦКК А. Рыськіна: «Яна добра ўдасканалена: мы страляем каго трэба». Яшчэ адна асаблівасць першых такіх спроб— выбіральнасць, дакладны разлік: пад удар падводзіліся савецкія дзеячы, мінулае якіх было звязана з нацыянальным рухам, але не з першага кіраўнічага эшалона партыі і ўрада. Відаць, і па гэтай прычыне ні ў адрас У. Ігнатоўскага, ні тым больш А. Чарвякова аж да 1929 года не прагучала ні слова папроку. Гэтыя людзі былі яшчэ не па зубах дбайным прыхільнікам адміністрацыйна-каманднай сістэмы. Больш таго, разам са многімі іншымі бальшавікамі яны складалі тое здаровае ядро ў тагачасным кіраўніцтве рэспублікі, якое стаяла перашкодай на іх шляху.

І ўсё ж такія лакальныя ўдары то па адным, то па другім у спалучэнні з прысылкай у рэспубліку кадраў, рэкамендаваных Сталіным і яго паплечнікамі, тэарэтычна падмацаваныя вульгарнаінтэрнацыяналісцкай фразеалогіяй, не былі ні бяскрыўднымі, ні безвыніковымі: яны сеялі зерне страху ў душы людзей, паралізоўвалі волю, вымушалі лідэраў ці да залішняй асцярожнасці, ці да паспешлівых (і таму ў нечым памылковых) учынкаў і выказванняў, спакваля стваралі «вобраз ворага», рыхтавалі на месцах глебу для сталінскага — «зверху» — франтальнага павароту ў палітыцы, для самавольства і беззаконня.

Не прыходзіцца здзіўляцца, што ў такіх супярэчлівых абставінах шырокая і дэмакратычная палітыка беларусізацыі набыла ў нечым (парадокс часу) тыя ж адміністрацыйна-камандныя грахі. Асноўныя з іх: тэндэнцыя на фарсіраванне яе тэмпаў, залішні ўпор на адміністрацыйныя метады замест растлумачэння, пераканання, асветы, парушэнне прынцыпу добраахвотнасці ў карыстанні той ці іншай мовай. Так, па ўстановах нярэдка складаліся спі-

сы супрацоўнікаў, якія абавязваліся вывучыць беларускую мову ў сціслыя тэрміны. Тым, хто не паспеў, давалі дадатковы час, а затым, калі зноў не ўкладваліся, іх звальнялі. Здаралася, што па чыноўнаму сустрэчнаму плану тэрміны скарачаліся, у той час як належныя ўмовы не былі створаны (курсы нярэдка адкрываліся паспешліва, не хапала падручнікаў, падрыхтаваных выкладчыкаў і г. д.).

Гэтыя перакосы выклікалі незадаволенасць часткі рускамоўнага насельніцтва, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, якія жылі ў Беларусі. А галоўнае, спрыялі ажыўленню сапраўды вялікадзяржаўных, нацыяналістычных, сіянісцкіх элементаў, якія паспяшаліся выкарыстаць іх як падставу для кампраметацыі палітыкі беларусізацыі. Але пакуль стаялі трывала на нагах яе творцы, пакуль перавага была на баку здаровых сіл партыі і творчай інтэлігенцыі, працэс беларусізацыі ў цэлым развіваўся паспяхова, хібы і перакосы пераадольваліся. У 1928 годзе былі падведзены вынікі першага этапа беларусізацыі. Канстатавалася, што яна абудзіла палітычную і грамадскую актыўнасць інтэлігенцыі, што патрэба ў ёй прызнана шырокімі масамі, партыйным, савецкім і прафсаюзным актывам. Была сфармулявана задача новага этапу беларусізацыі: увесці беларускую мову ў быт, у культуру.

Зразумела, што, прымаючы непасрэдны ўдзел у выпрацоўцы і рэалізацыі палітыкі беларусізацыі, У. Ігнатоўскі нёс сваю долю адказнасці як за яе поспехі, так і за яе памылкі. Звычайная доля любога актыўнага дзеяча. Так гэта і расцэньвалася аж да канца 20-х гадоў.

# ПАД АГНЁМ «КРЫТЫКІ»

Дваццатыя гады былі для У. Ігнатоўскага надзвычай плённымі і ў творчым плане. Больш за 30 навуковых прац — такі іх вынік. Асноўныя з іх: «Кароткі нарыс на-

цыянальна-культурнага адраджэння Беларусі» (1921), «Матывы лірыкі беларускага песняра М. Чарота» (1922), «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» (пяць выданняў), «Беларусь» (чатыры выданні), «Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця» (тры выданні), «Каля магілы барацьбіта» (1927), «1863 год на Беларусі» (1930) і іншыя. Як навуковец-даследчык Усевалад Макаравіч вырастаў з выкладчыка. У аснову большасці яго кніг пакладзены курсы лекцый у Мінскім настаўніцкім інстытуце, у БДУ. Апошняя з іх, прысвечаная паўстанню 1863 года,— грунтоўная манаграфія, вяршыня яго творчасці. У сваёй сукупнасці працы Усевалада Макаравіча — ці не ўпершыню даволі сістэматызаваны выклад гісторыі Беларусі.

Падрабязны аналіз творчай спадчыны Ігнатоўскага — справа не аднаго даследавання і не аднаго даследчыка. У кантэксце нашай кніжкі абмяжуемся кароткім аглядам яго асноўных прац. У сваёй першай навуковай працы — «Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі» ён паспрабаваў высветліць вытокі нацыянальнага адраджэння і ахарактарызаваць працэсы яго развіцця да першай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Расіі. На думку Ігнатоўскага, нацыянальны рух пачаўся ў канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзяў. Гэты перыяд характарызаваўся вялікімі падзеямі: Французскай рэвалюцыяй 1789 года, уключэннем Беларусі ў склад Расіі, Айчыннай вайной 1812 года. У гэты перыяд ішоў працэс разлажэння феадалізму і фарміравання ў яго нетрах элементаў капіталістычнага ладу.

Ігнатоўскі адзначаў, што доўгатэрміновае знаходжанне ў Рэчы Паспалітай замарудзіла працэс фарміравання беларускай нацыі на першапачатковай стадыі. Мова беларуская аказалася забытай, інтэлігенцыя ў асноўнай масе злілася з інтэлігенцыяй Польшчы. Тым не менш у канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзяў у некаторай часткі інтэлігенцыі абуджаецца інтарэс да археалогіі, помнікаў старога пісьменства, народнай творчасці і народных звы-

чаяў Беларусі. Працы Шыдлоўскага, Лукашэвіча, Ярашэвіча і іншых, напісаныя на польскай мове, перакладаліся на рускую мову. У 30—40-я гады XIX стагоддзя ў польскай літаратуры сфарміравалася «беларуская школа» (Ян Чачот, Аляксандр Рыпінскі, Баршчэўскі і інш.).

У XIX стагоддзі рускія вучоныя Калайдовіч, Кіркор, Шпілеўскі, Мікуцкі, Юркевіч і інш. выдалі шэраг навуковых прац пра беларускую мову, этнаграфію, гісторыю і геаграфію Беларусі. У гэты ж час пачала адраджацца беларуская літаратура. В. Дунін-Марцінкевіч першы лічыў сябе песняром простага беларускага народа. У яго творах асвятлялася жыццё беларускай вёскі. Ён выступіў супраць прыгоннага права, за культурную асвету прыгнечаных сялян. Гэтыя ж ідэі прапагандаваліся ў вершах Уладзіслава Сыракомлі.

На рост беларускай нацыянальнай свядомасці станоўчы ўплыў аказала паўстанне 1863 года. У прагрэсіўнай грамадскасці Расіі ўсё больш узрастала цікавасць да беларускага пытання. Рускія вучоныя Бяссонаў, Шэін, Раманаў, Нікіфароўскі і інш. унеслі вялікі ўклад у распрацоўку этнаграфічных матэрыялаў, гісторыі Беларусі, беларускай мовы. Акадэмік Я. Карскі напісаў звыш 40 твораў, у ліку якіх вельмі важная ў навуковых адносінах шматтомная праца «Беларусы». У «Нарысах» грунтоўна асветлена роля Ф. Багушэвіча і Яна Неслухоўскага ў нацыянальным адраджэнні Беларусі.

Новай старонкай у гэтым працэсе Ігнатоўскі лічыць пачатак XX стагоддзя, калі ў Беларусі з'яўляецца інтэлігенцыя, якая выйшла з народных нізоў. Найбольш яркімі яе прадстаўнікамі былі Я. Колас, Я. Купала, Ц. Гартны, М. Багдановіч і інш.

Абагульняючы сваё даследаванне, Ігнатоўскі піша: «Цяпер у нас (беларусаў.— **І. І. і А. К.**) маецца навучнае становішча і для будучага культурна-нацыянальнага руху. Якая будзе далейшая доля, залежыць цалкам ад нас, беларусаў. Мы павінны ўрэшце ўзяць справу ў свае ўлас-

ныя рукі. Магчыма думаць, што штандар руху дэмакратычны, што рух апіраецца на земляроба і работніка нашай зямелькі.

Ужо прачынаецца гэты працоўны люд беларускі ад векавечнага сну. Настануць часы, калі ён працягне руку інтэлігенту, які падыйшоў да яго, выйшаў з яго, і пайдуць яны рука аб руку, крок у крок, шукаць «сваёй лепшай долі» і пэўна знойдуць яе...»

Курс лекцый Ігнатоўскага складаецца з трох частак. У першай разглядаюцца пытанні ўз'яднання Беларусі з Расіяй у канцы XVIII стагоддзя, сацыяльна-палітычная і эканамічная характарыстыка Беларусі ў пачатку XIX стагоддзя, удзел яе народа ў Айчыннай вайне 1812 года, паўстанне 1830—1831 гадоў і новая палітыка царызму ў галіне русіфікацыі Беларусі, беларускі рух у першай палове XIX стагоддзя. Завяршаецца гэтая частка асвятленнем сацыяльна-палітычнага становішча ў Беларусі напярэдадні рэформы 1861 года.

У другой частцы курса ў цэнтры ўвагі аўтара гісторыя ўступлення Беларусі на шлях капіталістычнага развіцця. Тут ён асвятляе сялянскую рэформу 1861 года, паўстанне 1863 года, паглыбленне палітыкі русіфікацыі Беларусі, беларускі рух у 50—90-я гады. Ён грунтоўна разглядае паўстанне 1863 года і ўзмацненне русіфікацыі Беларусі, што прыйшло за ім. Царызм спрабаваў зрабіць Беларусь «па-сапраўднаму рускай». «Беларус 60-х гадоў,— піша Ігнатоўскі,— лічыў сябе асобным ад велікаруса, трэба было сілком парадніць яго з ім у імя не яго «мужыцкіх» інтарэсаў, а ў імя інтарэсаў дваранска-царскай Расіі».

У. Ігнатоўскі выкрыў прычыны аграрнага крызісу ў Беларусі. Ён указвае, што ў выніку рэформы 1861 года 42,6 працэнта сялян атрымалі надзелы, недастатковыя для ўтрымання сям'і. У Мінскай губерні гэты працэнт складаў 57,3 працэнта. З цягам часу ў выніку росту колькасці сялянскага насельніцтва першапачатковы памер на-

дзелу скарачаўся. Калі пры ліквідацыі прыгоннага права душавы надзел складаў 4,8 дзесяціны, то ў 1880 годзе — 3,5, а ў 1900 — 2,6 дзесяціны.

Вельмі цікавая думка Ігнатоўскага аб характары народніцтва 80-х і 90-х гадоў у Беларусі. У адрозненне ад Расіі, дзе яно ў гэтыя гады было ліберальным, у Беларусі ён лічыць яго радыкальна-дэмакратычным, што з'явілася вынікам уплыву паўстання 1863 года і асабліва барацьба супраць царызму «чырвоных» на чале з К. Каліноўскім.

У трэцяй частцы асветлены рабочы рух у перыяд уступлення Расіі ў эпоху імперыялізму, першая і другая буржуазна-дэмакратычныя рэвалюцыі, Кастрычніцкая рэвалюцыя.

У навуковых адносінах найбольш цікавая праца Ігнатоўскага «1863 год на Беларусі». Даследуючы класавую сутнасць паўстання 1863 года, аўтар выявіў тыя сацыяльныя сілы, якія не былі задаволены палітыкай царызму. Да гэтых сіл ён адносіў буйных землеўладальнікаў, якія актыўна ўцягваліся ў капіталістычную сістэму гаспадарання, а таксама прамысловую і гандлёвую буржуазію, не задаволеных прыгонніцкай палітыкай царызму. У паўстанні ўдзельнічалі: а) дробная, збяднелая, пралетарызаваная шляхта, разначынная інтэлігенцыя, дробная буржуазія горада і вёскі; б) рамеснікі і рабочыя, як найбольш рэвалюцыйная частка дробнай буржуазіі; в) частка сялянства, не задаволеная рэформай 1861 года. Аўтар адзначае, што ў Беларусі значная частка сялян у адносінах да паўстання займала нейтральную пазіцыю, другая частка актыўна ўдзельнічала ў паўстанні, а трэцяя — выступіла супраць паўстання, лічачы яго «шляхецкай», «панскай» справай. Выступленне гэтай часткі сялян супраць паўстання 1863 года аўтар лічыць рэакцыйным рухам. Ігнатоўскі прыводзіць ацэнку У. І. Леніным селяніна, які адносіўся да трэцяй групы. Яго У. І. Ленін лічыў яшчэ такім дзікім, сонным, прыросшым да сваёй кучы гною, што «з-за за-

коннай нянавісці да польскага пана ён не мог зразумець значэння барацьбы гэтых паноў для ўсерасійскай дэмакратыі...». Ігнатоўскі падрабязна аналізуе склад удзельнікаў паўстання, барацьбу ў ім дзвюх асноўных груп, тых жа, што і ў паўстанні 1831 года — «белых» і «чырвоных». «Белых» узначальвалі польскія магнаты і багатая радавітая шляхта. Іх мэта — аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах да 1772 года. Галоўным сродкам яе дасягнення «ў тых самых формах, у якіх яна памёрла», яны лічылі дыпламатыю, а ўзброенае паўстанне — толькі мерай для падтрымкі дыпламатаў. У склад «чырвоных» уваходзілі дробная рэвалюцыйна настроеная буржуазія, інтэлігенцыя і студэнты. У адрозненне ад «белых», яны лічылі галоўным сродкам барацьбы не дыпламатыю, а рэвалюцыйныя дзеянні. Будучая Польшча, на думку «чырвоных», павінна будавацца не на старых асновах, а як дэмакратычная рэспубліка.

Як і ў Польшчы, аналізуе Ігнатоўскі, паўстанцы ў Літве і Беларусі распадаліся на «белых» і «чырвоных». Першыя складаліся з беларускіх магнатаў і паноў. Яны імкнуліся да адзінства з «белымі» Варшавы. У Беларусі ў іх не было апоры. Сялянскія масы да «белых» былі настроены варожа. «Чырвоныя» шукалі падтрымкі ў беларускага сялянства і ў гэтых мэтах прапаноўвалі даць яму зямлю і волю ў больш шырокіх памерах, чым дала рэформа 1861 года. «Чырвоныя» адмоўна ставіліся да падпарадкавання «белымі» Літвы і Беларусі Варшаве. Яны выступалі супраць шляхецкай Польшчы і царскай Расіі, змагаліся за перамогу «мужыцкай праўды» ў Беларусі, да абароны якой заклікалі і сялян.

Селянін у Беларусі прыгнятаўся як рускім царызмам, так і польскім панам. У сваёй праграме «чырвоныя» проціпаставілі не толькі сацыяльныя, але і нацыянальныя інтарэсы беларускага народа нацыянальным інтарэсам польскіх паноў і рускага самадзяржаўя. Разам з сацыяльным вызваленнем беларускага селяніна ад пана-паляка і

рускага цара яны выступілі таксама за палітычнае і культурнае вызваленне «мужыцкай» Беларусі ад Расіі і Польшчы. Рознагалоссі паміж «чырвонымі» і «белымі» ў Беларусі былі глыбейшыя, чым у Польшчы. У Беларусі яны ахоплівалі палітычныя і нацыянальныя пытанні, а ў Польшчы толькі сацыяльнае пытанне. «Чырвоныя» (дробная збяднелая шляхта, студэнты, навучэнцы, рамеснікі) уцягвалі ў свае рады больш свядомую частку сялянства. Узначальвала «чырвоных» рэвалюцыйная інтэлігенцыя. Ігнатоўскі падрабязна спыняецца на асобе і поглядах правадыра «чырвоных» К. Каліноўскага.

Пад уплывам прыбыўшага ў Вільню Серакоўскага «белыя» распрацавалі план паўстання ў Беларусі. Ён прадугледжваў захоп крэпасці Дзвінск, горада Горы-Горкі і Магілёўскага артылерыйскага парка. З дапамогай студэнтаў земляробчага інстытута паўстанцам удалося захапіць толькі Горы-Горкі. Мясцовае сялянства, убачыўшы сярод паўстанцаў прыгоннікаў-паноў, не падтрымала паўстанне. Сяляне разам з рускімі салдатамі акружылі паўстанцаў і ўзялі іх у палон.

Паражэнне «белых» вымусіла іх сысці са сцэны. Урад «чырвоных», што сфарміраваўся, прызначыў дыктатарам Каліноўскага. Але час быў страчаны. Сяляне, якія доўгі час бачылі на чале паўстання паноў, не змаглі зразумець Каліноўскага і пайсці за ім. Ігнатоўскі піша: «Былі прычыны, каторыя ня далі паўстанню ўрасці сваімі каранямі глыбока ў сялянскія працоўныя гушчы Беларусі. Паўстанцы-народнікі былі вядомы толькі ў некаторых мясцовасцях: больш свядомым колам сялянства і рамеснікаў. Ад шырокіх рабоча-сялянскіх гушч чырвоныя рэвалюцыянеры былі аддзелены тоўшчаю белых паўстанцаў, праз каторую ім трудна было прабівацца да чарназемнай багатай глебы, што магла карміць паўстанне. Паміж працоўнымі масамі і такімі рэвалюцыянерамі, як Каліноўскі, стаў прыгоншчык, абшарнік-пан, которы кінуў свой цень і зацямніў чырвоны твар паўстання. Пры такіх умовах

рускаму ўраду было лёгка справіцца з паўстаннем на Беларусі, тым больш, што белыя паўстанцы вельмі хутка перакінуліся на старану рускага ўраду».

У. Ігнатоўскі лічыў, што разнастайныя сацыяльныя групы, якія ўдзельнічалі ў паўстанні, не маглі мець адзінай цэльнай праграмы. «Белыя» доўгі час прытрымліваліся лініі на пагадненне з царызмам, паступова становячыся на шлях легальнай апазіцыі. Калі ж развіццё падзей вымусіла іх прымкнуць да паўстання, яны не верылі ў яго перамогу, былі праціўнікамі аграрнай рэформы і радыкальнага вырашэння сялянскага пытання, тым самым усямерна стрымлівалі развіццё паўстання. «Чырвоныя» змагаліся за дэмакратычную рэспубліку, за ліквідацыю прыгонніцтва, саслоўных абмежаванняў і прывілеяў, за надзяленне сялян зямлёй.

Аўтар паказвае неаднароднасць «чырвоных». Сярод іх ён адрозніваў «умераных» і «паслядоўна чырвоных». Першыя цягнуліся да «белых», былі праціўнікамі радыкальнага вырашэння сялянскага паўстання, вялі за сабой «паслядоўна чырвоных» (Я. Дамброўскага, В. Урублеўскага, К. Каліноўскага і інш.).

Паўстанне 1863 года па свайму характару Ігнатоўскі лічыць прагрэсіўным рухам, буржуазна-дэмакратычным. Калі народныя масы Расіі і большасці славянскіх краін яшчэ спалі, калі ў гэтых краінах, прыводзіць ён словы У. І. Леніна, «не было самастойных, масавых, дэмакратычных рухаў, шляхецкі вызваленчы рух у Польшчы набываў гіганцкае, першаступеннае значэнне з пункту гледжання дэмакратыі не толькі ўсерасійскай, не толькі ўсеславянскай, але і ўсееўрапейскай».

Вялікае значэнне польскага паўстання 1863 года для Расіі Герцэн бачыў у вызваленні Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны, што складала палавіну вызвалення ўсёй Расіі.

У. Ігнатоўскі высока цэніць пазіцыю К. Маркса і Ф. Энгельса, якія, прызнаючы прагрэсіўнае значэнне паў-

стання ў Польшчы, раскрылі яго класавую сутнасць. Такі падыход тлумачыць непазбежнасць наяўнасці ў асяроддзі паўстанцаў «белых» і «чырвоных», варожых узаемаадносін паміж імі. Работа «1863 год на Беларусі» захавала сваю актуальнасць і сёння.

Працы У. Ігнатоўскага заклалі краевугольныя камяні ў падмурак беларускай гістарычнай навукі, яны адкрылі беларусам іх багатую, гераічную і пакутную гісторыю, паказалі ім, што яны — народ глыбінных, з сівой даўніны каранёў, а не безназоўнае насельніцтва. На кнігах Усевалада Макаравіча выхоўвалася не адно пакаленне школьнікаў і студэнтаў. Безумоўна, небездакорныя, небеспамылковыя, але сапраўды творчыя, адметныя неардынарнасцю думак і вывадаў, напісаныя па-мастацку выразным стылем, сакавітай мовай, асноўныя з іх не страцілі свайго значэння і па сённяшні дзень. Прычым не толькі гістарыяграфічнае, але і адукацыйнае, асветніцкае. Гэта асабліва бачна цяпер, калі адкрылася, колькі скажэнняў перацярпела наша гісторыя ў цісках сталінскай апалагетыкі, колькі нагрувашчана на яе старонках ілжы, фальсіфікацый, колькі сцёрта падзей і імёнаў.

Аднак да самага канца 20-х гадоў ні погляды У. Ігнатоўскага, ні практычная дзейнасць яго пад сумненне не ставіліся. Ён паспяхова, без прынцыповых заўваг, прайшоў дзве партыйныя чысткі ў 1924 і ў 1929 гадах. Высока ацэньваліся і яго навуковыя працы. На пачатку таго ж 1929 года акадэмік С. Вальфсон у артыкуле, прысвечаным вынікам развіцця грамадска-палітычнай навукі ў рэспубліцы за дзесяць гадоў Савецкай улады, ахарактарызаваў працы У. Ігнатоўскага як «першы марксісцкі курс беларускай гісторыі».

І гэта ў той час, калі ў рэспубліцы ўжо распачалася кампанія па разгрому так званага нацыянал-дэмакратызму. Кампанія, якая вызначыла карэнны паварот у нацыянальнай палітыцы, стала прамым адмаўленнем беларусізацыі. Некаторы час заклікі, устаноўкі на праўдзен-

не палітыкі беларусізацыі гучалі з трыбун, запісваліся ў партыйныя рашэнні, але на практыцы якраз шчырыя прыхільнікі яе першымі пападалі ў разрад нацдэмаў. Пачыналі з кіраўнікоў, паступова пашыраючы зону абстрэлу. Ігнатоўскі яшчэ «чысты», але знішчальныя снарады-ярлыкі кладуцца ўсё бліжэй. Яшчэ моцны шчыт яго аўтарытэта і пасад, яшчэ не знаходзіцца смелага бамбардзіра, які б адважыўся паслаць смяротны снарад-абвінавачванне ў яго адрас.

Бамбардзірам па такой магутнай цэлі мог стаць толькі хто-небудзь з першых асоб — кіраўнікоў рэспублікі. Вядома, ім не мог быць старшыня ЦВК А. Чарвякоў, не захацеў узяць на сябе гэтую ролю і першы сакратар ЦК КП(б)Б Я. Гамарнік, які добра ставіўся да Ігнатоўскага і наогул без энтузіязму ўспрыняў змену курсу, пасіўна стрымліваў яго ажыццяўленне. Не выпадкова, што рашэнні вераснёўскага пленума 1929 года, якія, па сутнасці, абгрунтоўвалі «наяўнасць» і небяспеку ў Беларусі контррэвалюцыйнага нацдэмаўскага руху і вызначылі практычныя меры па яго ліквідацыі, не выконваліся, не ўвасабляліся ў дзеянне.

Далей публічных акцый ганьбавання нацдэмаўшчыны і нацдэмаў (да таго ж адносна лакальных, абмежаваных) справа не рухалася. Між тым па задуме рэжысёраў жудаснага спектакля такія акцыі планаваліся як пралог да галоўнай дзеі — выкрыцця (чытай — фабрыкацыі) нацыяналістычных антысавецкіх арганізацый з судом і прысудам у эпілогу на фоне пляскаючых у далоні, усхваляваных і ўхваляючых перамогу справядлівасці мас. Гэтаму намеру разам з Я. Гамарнікам супраціўляўся і старшыня АДПУ БССР Р. Піляр. Абодвух іх спешна (прычым Гамарнік і года не прабыў на пасадзе сакратара) адзываюць з Беларусі. Нават без замены, якая будзе знойдзена толькі праз два месяцы: 3 студзеня 1930 года першым сакратаром ЦК КП(б)Б стане непрыкметны раней апаратны работнік з Масквы К. Гей. Разам з ім (літаральна ра-

зам — у адным вагоне) прыбудзе ў Беларусь і ўзначаліць АДПУ рэспублікі І. Рапапорт.

Шэрыя асобы, яны аказаліся старыннымі, перакананымі і ў гэтых рамках ініцыятыўнымі выканаўцамі чужой волі, праваднікамі новага курсу. Але, як паказаў сталінізм пачатак кампаніі па выкрыццю нацдэмаўшчыны, на шырокую падтрымку яе, асабліва сярод інтэлігенцыі, разлічваць не прыходзілася, уласных даносчыкаў знайшлося небагата. На падмогу Гею і Рапапорту ў Мінск была накіравана цэлая група ідэалагічных і палітычных суддзяў тыпу Волкава, Гесена, Югава, Ленцнера, Рыўліна, Славіна, якія прама ў рукі следчых перадавалі «ворагаў пралетарскай рэвалюцыі», «нацдэмаў» і «нацыянал-ухілістаў». На іх і была ўскладзена задача разграміць «нацдэмаўскую арганізацыю» — «Саюз вызвалення Беларусі» (СВБ). Па слядах злачыннай фантазіі фабрыкатараў гэтай «справы» смерць прыйдзе і па Ігнатоўскага.

Аднак СВБ — гэта апагей кампаніі па разгрому нацыянал-дэмакратызму. Каб лепш зразумець, як узнімалася яна на гэтую «вяршыню», чаму ахвярай яе сталі лепшыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, шэраг партыйных і дзяржаўных дзеячаў, і менавіта У. Ігнатоўскі, трэба разабрацца, які змест укладваўся ў гэтае паняцце. Сам тэрмін мае яшчэ дакастрычніцкае паходжанне і адпаведна часу — цалкам пазітыўны змест. Нацыянал-дэмакратызм разумеўся як рэвалюцыйны дэмакратызм у злучэнні з мэтамі і задачамі барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за адраджэнне і развіццё мовы, культуры таго ці іншага народа, за права нацый на самавызначэнне. У такім станоўчым значэнні гэты тэрмін і ўжываўся на працягу першай паловы 20-х гадоў, у тым ліку і самімі прадстаўнікамі нацыянальна-вызваленчага руху. Для абазначэння адмоўных тэндэнцый у міжнародных зносінах выкарыстоўваўся тэрмін «нацыяналізм» («нацыяналістычныя элементы», «нацыяналістычныя ідэалы» і г. д.), сутнасць якога вызначалася імкненнем да

адраджэння буржуазна-дэмакратычнай дзяржаўнасці. У негатыўным кантэксце тэрмін «нацыянал-дэмакратычныя ідэалы» ўпершыню з'яўляецца ў рэзалюцыі кастрычніцкага (1926 года) пленума ЦК КП(б)Б «Аб нацыянальнай палітыцы ў БССР» у дачыненні да часткі беларускай інтэлігенцыі, якая скіравала свае намаганні на іх ажыццяўленне. Але фармулёўка гэта пэўны час не мела ні адпаведнага развіцця, ні якіх бы там ні было негатыўных вынікаў. Яна ўваходзіла ў блок яшчэ даволі аб'ектыўных ацэнак сітуацыі: поспех палітыкі беларусізацыі (галоўная ідэя) і адмоўная рэакцыя на яе з боку невялікай часткі інтэлігенцыі — прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей, частка работнікаў савецкага апарату. Перавага ў нацыянальнай палітыцы пакуль што заставалася за памяркоўнай лініяй, гэтак жа, як і ў метадах барацьбы з ухіламі адзіным сродкам іх выпраўлення дэкларавалася палітыка-выхаваўчая работа. Але ж непрыкметны на першы погляд зрух у трактоўцы пазіцый інтэлігенцыі, рэзкі падзел яе на лагеры даваў прыхільнікам аўтарытарна-бюракратычнай сістэмы магчымасць пры патрэбе атаясаміць сваіх праціўнікаў з праціўнікамі Савецкай улады.

Па ўсяму відаць, што здаровыя сілы ў рэспубліканскім партыйным і савецкім кіраўніцтве, у тым ліку і У. Ігнатоўскі, своечасова гэтага не распазналі. Сваю зласлівую ролю адыграла тут каварства тактыкі сталіністаў, калі пры захаванні звычных формаў і рэвалюцыйнай тэрміналогіі спакваля падмяняўся сэнс і змест палітыкі, метадаў яе ажыццяўлення, перамяшчаліся ў адмоўны бок ацэнкі асоб. Не насцярожыла іх у неабходнай ступені і ўдакладненая (у рэчышчы той жа тактыкі падмену) новая трактоўка нацыянал-дэмакратызму як правай небяспекі ў культурным будаўніцтве, як тэндэнцыі ставіць нацыянальныя інтарэсы вышэй класавых, што выявілася ў імкненні «вырошчваць нацыянальную форму культуры на шкоду яе зместу». Выказванні ў адпаведным духу, ха-

ця і ў прыглушаным тоне, мы знойдзем і ў выступленнях, прамовах Ігнатоўскага. Гэтак жа, як і А. Чарвякова, З. Жылуновіча, многіх іншых. Не бачылі, не адчувалі небяспекі, якая змрочным ценем паўставала за гэтай рэвалюцыйнай фразай? Ці спадзяваліся тактычна гнутка абысці небяспеку і надаць палітыцы беларусізацыі такое паскарэнне, хутчэй дасягнуць такіх вынікаў, якія б зрабілі немагчымым (ці хоць аслабілі) паварот назад? Прынялі новыя ўстаноўкі за выпадковы збой, за памылку, за хваробу росту, якія выправіць, вылечыць само жыццё, і таму палічылі больш правільным не марнаваць час і сілы ў рызыкоўнай спрэчцы, а падтакнуць? Самі паддаліся ілюзіі стварэння асобнай пралетарскай культуры, якая да таго, згодна прапанаванай формуле, не адмаўляла зусім нацыянальнае, а толькі патрабавала збалансаванага спалучэння?

Было і тое, і другое, і трэцяе. Збянтэжанасць пачуццяў і думак, вера і сумненні, спадзяванні і трывога, надзея і страх. Яны, якія самі свядома, зыходзячы з уласнага вопыту, параўнання ідэй і дзеянняў розных палітычных сіл, прынялі сацыялістычную ідэю, не маглі і думкі дапусціць, што сярод носьбітаў яе знойдуцца сілы, здольныя сказіць яе да непазнавальнасці і пад яе прыкрыццём павесці краіну да таталітарызму. Да таго ж трэба мець на ўвазе псіхалагічны настрой людзей, які заканамерна суправаджае ўсе рэвалюцыі і асабліва грамадзянскія войны: рэвалюцыйны рамантызм і разам з тым звычку да рэзкіх, крайніх ацэнак, успрыняцце амаль што за норму прымусу, насілля як дзейсных метадаў дасягнення мэты. Цалкам пазбегнуць такога ўплыву на сваё светаадчуванне ўдалося нямногім. За туманам правільных слоў і рашэнняў, у штучна распальваемай атмасферы ідэалагічнай барацьбы, нецярпімасці, падазронасці і варожасці яны не паспелі ўсвядоміць, што аўтарытарна-бюракратычная сістэма ў многіх сваіх вузлавых звеннях ужо сфарміравалася і зараз выйшла на рубяжы рашучага наступу па

ўсіх напрамках палітыкі, сярод якіх нацыянальны — адзін з галоўных. Не паспелі зразумець, што сіло ўжо расстаўлена і для іх, што ім ужо падрыхтавана доля прайсці праз усе кругі сталінскага пекла: дыскрэдытацыі і публічнага шальмавання, прымусовага пакаяння і крывадушнага даравання неіснуючай віны, новых абвінавачванняў, арышту і знішчэння.

Шмат аб чым не ведалі, аб многім не здагадваліся. Не паспелі разгледзець, адчуць, зразумець. І таму такім нечаканым, паралізуючым іх волю да барацьбы стаў наступны крок сталіністаў: нацыянал-дэмакратызм параўноўваўся з нацыянал-фашызмам, атаясамліваўся з правым ухілам, аб'яўляўся варожай Савецкай уладзе ідэалогіяй і практыкай, контррэвалюцыйнай плынню, якая мела на мэце рэстаўрацыю капіталізму ў БССР і адрыву яе ад СССР. І калі спачатку нацыянал-дэмакратызм разглядаўся як нацыяналістычная плынь, якая магла ўзнікнуць на дробнабуржуазнай аснове ў любой нацыі, то ў хуткім часе ён атрымаў адназначную трактоўку — толькі як беларускі нацыяналізм. З пераходам да суцэльнай калектывізацыі сацыяльнай асновай «нацдэмаўшчыны» было аб'яўлена кулацтва.

Такія вызначэнні ўжо не маглі быць бязадраснымі, з няўмольнай, загадзя разлічанай логікай, яны патрабавалі персаніфікацыі абвінавачванняў, выяўлення канкрэтных ворагаў, прычым не дробных, а буйных, усім бачных фігур дзеячаў.

Атака на У. Ігнатоўскага пачалася яшчэ да прыезду ў Беларусь К. Гея, але вялася вельмі асцярожна ў рэчышчы навуковай дыскусіі аб характары паўстання 1863 года і без падтрымкі зверху на нейкі час безвынікова заглухла. Пачатак дыскусіі насіў даволі спакойны характар. Але штучнае абвастрэнне ідэалагічнай барацьбы, нарастаючая кампанія па выкрыццю нацыянал-дэмакратызму хутка далі свой плён і тут. Гісторык С. Агурскі ў сваім выступленні на XII з'ездзе КП(б)Б усё зводзіць да палітыкі,

вульгарызуючы ацэнку паўстання, ён звязвае яе з неабходнасцю барацьбы супраць апартунізму ў гістарычнай і даследчай рабоце, барацьбе з нацыяналізмам. Агурскі, насуперак Ігнатоўскаму, ацэньвае паўстанне 1863 года як чыста дваранскае, буржуазнае з удзелам нязначнай колькасці заможнага сялянства за незалежнасць Польшчы. Ролю К. Каліноўскага як прадстаўніка беларускага народа, правадыра сялянства ў паўстанні і абаронцы яго інтарэсаў Агурскі наогул адмаўляў і заклікаў да барацьбы супраць ідэалізацыі Каліноўскага, за разбурэнне створанага аб ім міфа. Невыпадковае і спалучэнне Агурскім у адным лагічным ланцужку патрабавання да перагляду канцэпцыі паўстання 1863 года з патрабаваннем змагацца супраць усіх спроб ідэалізацыі дробнабуржуазных партый — Бунду, БСГ.

Ідэалізацыя, сапраўды, справа не для навукі. Але за гэтым заклікам ужо выразна праглядала ўстаноўка на поўнае адмаўленне за нацыянальна-вызваленчым рухам якога б там ні было прагрэсіўнага зместу. У хуткім часе гэта тэндэнцыя пераўтворыцца ў непахісную канцэпцыю. Уся карціна будзе перамалявана нанава: рабочы і сялянскі рух на чале з бальшавікамі стане адзіна рэвалюцыйным рухам, а нацыянальна-вызваленчы — рэакцыйным, контррэвалюцыйным. Нават дзейнасць Белнацкома і Беларускіх камуністычных секцый РКП(б) доўгія дзесяцігоддзі будзе ацэньвацца як адмыслова нацыяналістычная. Перапісчыкаў гісторыі не спыніць нават непасрэдная ацэнка У. І. Леніна, які адносіў Беларусь да раёнаў, дзе нацыянальны рух можа быць прагрэсіўным, дапамагаючым поўнаму развіццю капіталізму, уцягванню новых людзей у эканамічнае і палітычнае жыццё, дапамагаючым умацаванню саюза пралетарыяту з сялянствам. «Айчына,— пісаў Ленін,— тут яшчэ не спела ўсёй сваёй гістарычнай песні. «Абарона айчыны» яшчэ можа быць тут абаронай дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды супраць прыгнятаючых нацый, супраць сярэдневякоўя...»

Адказваючы Агурскаму тут жа, на з'ездзе, Ігнатоўскі падкрэсліў, што неправамоцна змешваць чыста навуковыя аспекты праблемы з палітычнымі, падмяняць навуковае абмеркаванне пытання аб характары паўстання 1863 года (што да месца, напрыклад, на канферэнцыі гісторыкаў-марксістаў) палемікай на партыйным з'ездзе. Што да выказанага Агурскім погляду на паўстанне, то Ігнатоўскі аспрэчвае яго, даказвае яго метадалагічную няслушнасць. Бо сцвярджаць пра шляхецка-дваранскі характар руху 1863 года — значыць, прызнаць яго рэтраградным, рэакцыйным рухам, і тады вынікае, што Мураўёў, задушыўшы яго, зрабіў добрую справу. «Так што,— адзначаў Ігнатоўскі,— не заўсёды... «левая» фраза вядзе да правільных вынікаў».

Погляды Ігнатоўскага на паўстанне 1863 года падзялялі большасць гісторыкаў. Аб гэтым сведчыць і меркаванне найбольш аўтарытэтнага з іх, акадэміка Пакроўскага, прыведзенае Усеваладам Макаравічам у выступленні. Адказваючы на пытанне: «Ваша меркаванне пра 63 год і аб поглядах на гэтае паўстанне Ігнатоўскага і процілеглых яму Агурскага і Варскага», Пакроўскі адзначыў: «З літаратуры я ведаю... гістарычна больш верная тая характарыстыка, якую дае т. Ігнатоўскі паўстанню 63 года. Хто тлумачыць гэтае паўстанне як шляхецкае, той непрыкметна для самога сябе прыйдзе выключна да пункту гледжання Пілсудскага і інш. Не ведаць гэтага — значыць, не ведаць гісторыі».

Залішняя палітызацыя падзей мінулага, тэндэнцыя да ярлыковай манеры дыскусіі яскрава праглядаюць і тут. Своеасаблівы знак часу. Але ж калі тыя, хто абараняўся, стаялі на грунце гістарычных фактаў, то нападаючыя націскалі выключна на палітычную падаплёку. Не выпадкова і Пакроўскі ў хуткім часе падвергнецца агульнаму шальмаванню з падачы самога Сталіна (хаця і не будзе рэпрэсіраваны). Гісторыю пачнуць «напраўляць».

Ацэнкі ў духу Агурскага на доўгія дзесяцігоддзі паўстанне 1863 года закрыюць для вывучэння.

Выступленне Ігнатоўскага на XII з'ездзе КП(б)Б цікавае і ў больш шырокім значэнні — як ацэнка тэарэтычнага ўзроўню задач культурнай рэвалюцыі, культурнага будаўніцтва ў краіне. І яшчэ як сведчанне яго разумення агульнапалітычнай сітуацыі, яго трывожнага прадчування пэўных падспудных змен у палітыцы.

Усё выступленне пабудавана на зваротах да ленінскіх меркаванняў. І гэта не выпадкова: яго прамовы, яго навуковыя працы раскрываюць к гэтаму часу Ігнатоўскага як аднаго з найбольш глыбокіх знаўцаў тэарэтычнай спадчыны У. І. Леніна. І не цытатнага, да зручнага моманту, а як метадалогіі. У спалучэнні з яго агульнай гуманітарнай адукацыяй, звычкай вучонага аналізаваць і параўноўваць, вопытам палітыка гэта не магло не падштурхнуць да супастаўлення ідэй з практыкай, што ў сваю чаргу адкрыла яму нейкія прыкметы разыходжання аднаго з другім. Заўважыў ён, і адкуль ідзе небяспека. Словы аб «левай» фразе таксама невыпадковыя. Распазнаў ён, і адкуль растуць карані магчымага зла. Небяспека левага рэвалюцыянарызму — рэфрэн, асноўная ідэя яго выступлення. Хаця ніводная палітычная ўстаноўка не была непасрэдна пастаўлена ім пад сумненне: ні наконт калектывізацыі, ні індустрыялізацыі, ні нацыянальна-культурнага будаўніцтва, ні «правага» і «левага» ўхілаў. У 1929 годзе яшчэ мала хто бачыў 1937 год. Тым больш паказальна, што Ігнатоўскі ля парога крутога злому адчуў трывожныя сімптомы яго.

Учытаемся ж уважліва ў стэнаграму выступлення Усевалада Макаравіча на XII з'ездзе КП(б)Б. Ён выразна бачыў складанасці і неаднароднасць працэсу нацыянальна-культурнага будаўніцтва, гэтак жа, як і вастрыню ідэалагічнай сітуацыі тых гадоў. Але ж і адчуў намаганні да штучнага абвастрэння яе. Абапіраючыся на ленінскія працы, падкрэсліваў ролю матэрыяльнай культуры як

базы духоўнай, іх непарыўную сувязь: «Вось чаму,— адзначаў ён,— няможна, напрыклад, гаварыць аб асвеце, не гаворачы пра індустрыялізацыю, не гаворачы пра калектывізацыю народнай гаспадаркі». Культурная рэвалюцыя «магчыма толькі ў сувязі і на базе індустрыялізацыі і калектывізацыі» — такі быў яго вывад. Шчыры? Бадай што, так. Добра ведаючы гаротнае мінулае сялянскай Беларусі, ён добра разумеў і неабходнасць развіцця прамысловасці як базы для адраджэння яе гаспадаркі, трывалага эканамічнага прагрэсу. Добра разумеў і магчымасці кааперацыі. Менавіта як кааперыраванне сялянства ў спалучэнні яе разнастайных формаў і ўспрымаў ён калектывізацыю. Тым больш, што XIV з'езд партыі менавіта так вызначыў асноўны кірунак, адводзячы калгаснай форме толькі 20 працэнтаў. Ён яшчэ не мог да канца ўсвядоміць, паверыць, што пад прыкрыццём ленінскіх слоў аб кааперыраванні сялянства ствараецца нешта яму супрацьлеглае.

Але трывожных сімптомаў было ўжо даволі. Як даволі было і прыкмет смяротнай небяспекі выказвання поглядаў, не супадаючых з афіцыйнымі ўстаноўкамі. Адсюль і бачная сёння супярэчлівасць ў яго выступленні на XII з'ездзе КП(б)Б: у рамках адабрэння агульнапалітычнага курсу настойліва перасцерагаў аб небяспецы, па сутнасці, левакамуністычнага рэвалюцыянарызму.

Цяжкасці і складанасці задач індустрыялізацыі і калектывізацыі, як і задач барацьбы з ухіламі ў партыі, абумовілі, на погляд Ігнатоўскага, і развіццё марксісцкай навукова-даследчай работы. У гэтай сувязі ён прыводзіць выказванне У. І. Леніна пра значэнне рэвалюцыйнай тэорыі для рэвалюцыйнага руху, для вырашэння складаных палітычных задач, сувязі тэорыі з практыкай. Раскрыўшы ленінскае палажэнне аб магчымых сумных выніках «няважнай» на першы погляд памылкі і падкрэсліўшы, што трацкізм, пачаўшыся з тэорыі, перарос у контррэвалюцыйную практыку, ён сказаў: «А ў нас у момант бараць-

бы з ухіламі — на «левых» і асабліва на «правых» усяго маленькая памылка ў тэорыі можа прывесці да вельмі кепскіх вынікаў».

Адсюль і задачы развіцця марксісцкай навукова-даследчай работы ў рэспубліцы, якая, на думку Ігнатоўскага, патрабавала сур'ёзнага паляпшэння. У сувязі з гэтым ён, у прыватнасці, гаворыць пра небяспеку правага ўхілу ў партыі, аб уласцівых яму нападках на тэмпы індустрыялізацыі, адмаўленні неабходнасці калектывізацыі, адзначае небяспеку праяў нацыяналізму ў любых яго формах і відах. Адзначае ён і небяспеку забыцця ленінскіх вывадаў аб наяўнасці дзвюх нацый у кожнай нацыі, дзвюх культур у кожнай культуры, небяспеку падмены панятку адзінага рэвалюцыйнага фронта агульным нацыянальным фронтам.

Характарызуючы так званы «правы» ўхіл, Ігнатоўскі як чалавек свайго часу не пазбег у ацэнках бачных сёння рэзкасцей, спрашчэння, перабольшвання (услед за вывадамі Сталіна) тэндэнцыі росту шавінізму малой нацыі, ператварэння яе абарончага нацыяналізму ў наступальны шавінізм да іншых нацыянальнасцей. Аднак відавочна і тое, што ён ужо тады з трывогай адчуў тэндэнцыю да вульгарызаванай трактоўкі складаных з'яў і рэальную небяспеку пры гэтым дапусціць памылкі з іх непрадугледжанымі, нядобрымі вынікамі.

Толькі памылкі тыя аказаліся немалымі. І не памылкамі ў многім, а свядомай палітыкай. І вынікі былі трагічнымі. І толькі цяпер аднаўляецца праўда, выкрываюцца фальсіфікацыі, вяртаюцца, ачышчаюцца імёны незаслужана абвінавачаных. Высветлілася і афіцыйна прызнана, што так званы «правы ўхіл» — цалкам сфальсіфікаваная з'ява ў савецкай гісторыі.

Выступленне Ігнатоўскага, а таксама сакратара ЦК КП(б)Б Яна Гамарніка, які сказаў добрае слова пра работу АН БССР як важным фактары правільнага вырашэння нацыянальнага пытання ў Беларусі, здавалася,

унеслі неабходную яснасць. На пэўны час Ігнатоўскага пакідаюць у спакоі. Адносным, вядома. Крытыка яго навуковых поглядаў, хаця і працягваецца, але сцішана, ёй зноў надаецца знешне прыстойны акадэмічны выгляд. Яго ж партыйная і дзяржаўная дзейнасць наогул не закранаецца.

Перадышка, аднак, была нядоўгай: на зыходзе вясны супраць Ігнатоўскага распачынаецца новы тур нападак. І на новым, скажам так, узроўні. Звязаны ён быў з дзейнасцю камісіі ЦК ВКП(б) па абследаванню практыкі вырашэння нацыянальнага пытання ў Беларусі на чале са старшынёй ЦКК КП(б) Украіны У. Затонскім. (У склад камісіі ўваходзілі таксама Тур — сакратар камісіі ЦК КП(б)У па ўкраінізацыі і Кобленц — памочнік У. Затонскага). І прыслана яна была, відаць, нездарма, з мэтай, далёка разлічанай. Памылковыя тэарэтычныя высновы і практычныя метады барацьбы з «правым» і «левым» ухіламі ў партыі, праявамі нацыяналізму надалі вывадам камісіі злавесны характар. Безапеляцыйнае сцвярджэнне наяўнасці шырокай і моцнай плыні беларускага нацыянал-дэмакратызму ў рэспубліцы, слабае вядзенне барацьбы з ім — такі быў іх галоўны сэнс.

Аднабаковасць падыходу бачна была так выразна, што члены Бюро ЦК КП(б)Б на пасяджэнні 27 чэрвеня пасля паведамлення Затонскага аб выніках работы камісіі адзначылі гэта як галоўны яе недахоп. Існаванне праяў беларускага нацыяналізму пры гэтым яны не адмаўлялі (і не маглі адмаўляць як па прычыне штучнага абвастрэння ідэалагічнай барацьбы ў краіне і ў рэспубліцы, так і па прычыне шчырай перакананасці большасці з партыйнага кіраўніцтва рэспублікі ў існаванні сапраўднай небяспекі нацыяналізму), але ставілі пад сумненне яго маштаб, яго моц, яго належнасць толькі беларусам. Члены Бюро ЦК КП(б)Б паставілі камісіі ў віну, што яна не вывучыла ўсяго кола пытанняў, звязанага са становішчам сярод іншых, акрамя рускай і беларускай, нацыянальнасцей, з прак-

тычнай нацыянальнай палітыкай у рэспубліцы, што не ўбачыла праяў яўрэйскага і польскага нацыяналізму. Гэта, на погляд А. Піляра, магло даць «вядомы палітычны водгук, палітычнае адлюстраванне ў нашым складаным беларускім перапляценні...»

Тая ж устаноўка на выкрыццё нацыянал-дэмакратызму абумовіла і крытыку поглядаў Ігнатоўскага, перш за ўсё на паўстанне 1863 года, ролі ў ім К. Каліноўскага. У інфармацыі Затонскага (а таксама ў дакладзе камісіі, напісаным пазней у Маскве і перасланым у ЦКК КП(б)Б) былі пацверджаны ўсе асноўныя палажэнні С. Агурскага са спасылкай на яго. Работа Акадэміі навук і яе прэзідэнта ні ў інфармацыі, ні ў дакладзе крытыцы не падвяргалася. Метады шальмавання яшчэ не былі дакладна адпрацаваны творцамі таталітарнага рэжыму. Для гэтага ім яшчэ патрабаваліся калі не аб'ектыўныя падставы, то хаця б праўдападобныя зачэпкі ці ў поглядах, ці ў біяграфіі, ці ў дзейнасці прызначаных на ахвяру людзей. Да таго ж, на першым часе прыкметы аб'ектыўнасці крытычных заўваг пашыралі іх магчымасці ўвесці ў зман шырокія колы людзей. Давала гэта і тактычны выйгрыш, дазваляючы ўцягнуць у выкрыццё памылак адных аўтарытэтных і сумленных людзей другіх, таксама аўтарытэтных і сумленных.

Вядома, што ў працах У. Ігнатоўскага, гэтак жа, як і ў працах любога іншага вучонага, тым больш гістарычных, было няцяжка пры жаданні адшукаць не толькі праўдападобныя зачэпкі, але і сапраўдныя памылкі. Ад іх не застрахаваны ні адзін даследчык, і ён мае на іх права. Без такога права на ўласны пункт гледжання, на самастойны навуковы пошук, з непазбежнымі пры гэтым спрэчнымі вывадамі, ацэнкамі да ісціны ніколі не дайсці. Падменай ёй стане міф, догма, што і адбудзецца ў хуткім часе з савецкай гістарычнай навукай. Такім чынам, акрамя іншага, крытыка навуковых поглядаў Ігнатоўскага цалкам упісвалася ў распачаты ўжо наступ на гістарыч-

ную навуку з мэтай поўнага яе падпарадкавання адміністрацыйна-каманднай сістэме, сталінскаму рэжыму.

У Маскве на пасяджэнні ЦКК ВКП(б) крытыка навуковых прац Ігнатоўскага, галоўным чынам тых, якія выйшлі ў першай палове 20-х гадоў, была Затонскім значна ўзмоцнена, кола «памылак» пашырана. Але галоўным аб'ектам нападак засталася канцэпцыя паўстання 1863 года, роля ў ім К. Каліноўскага. Чаму? Ці не прасцей было шукаць памылкі ў асвятленні ім падзей больш блізкіх? Адказ бачыцца ў тым уяўленні аб паўстанні і яго правадыру, якое ўжо трывала ўсталявалася ў грамадскай думцы: як паўстанні за вызваленне народа ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, як народным правадыру, рэвалюцыйным дэмакраце, народным героі. Такое ўяўленне паднімала нацыянальную самасвядомасць беларускага народа, адкрывала багацці і глыбіні яго гісторыі, сцвярджала права яго на дзяржаўнае самавызначэнне, на суверэннае існаванне яго ў федэратыўнай супольнасці народаў СССР. Але менавіта гэта і супярэчыла інтарэсам набіраючай моц сталінскай бюракратыі, якая імкнулася да стварэння жорстка цэнтралізаванай сістэмы ўлады. Сваёй улады. Аўтарытарызм жа (і з яго вырастаючы таталітарызм) — заўсёды антынародны, а значыць — антынацыянальны па сваёй сутнасці, які, аднак, старанна маскіруецца. Сталінская бюракратыя не была выключэннем. Касмапалітычная і наднацыянальная, яна для прыкрыцця сваіх сапраўдных мэтаў выкарыстала не толькі лозунгі пралетарскага інтэрнацыяналізму, але і імя, аўтарытэт рускага народа, чым прынесла велізарныя страты і яму. Праўдзівая гісторыя і тут перашкаджала. І таму са старонак яе трэба было выкрасліць адны падзеі, выпукліць другія, міфалагізаваць трэція, надаць патрэбны абрыс усяму гістарычнаму працэсу. Пад зададую схему стала падганяцца і няпростая супярэчлівая гісторыя адносін народаў былой Расійскай імперыі між сабой, беларускага з рускім, у прыватнасці.

Меркаванне С. Агурскага аб паўстанні 1863 года як паўстанні «шляхецкім» і выключна за незалежнасць Польшчы цалкам упісвалася ў агульную задуму і ёй служыла. Схема ж доказаў не патрабуе, больш таго, для яе яны разбуральныя. У той час як Ігнатоўскаму для выпрацоўкі сваёй канцэпцыі паўстання 1863 года спатрэбілася падняць і прааналізаваць цэлы пласт дакументальных крыніц, грунтоўна вывучыць гістарычную і палітычную літаратуру, напісаць манаграфію, Агурскаму для яго вывадаў і абвінавачванняў хапіла адной адвольна вырванай з агульнага кантэксту «Мужыцкай праўды» цытаты і некалькіх машынапісных старонак. На перакошаных палітычных вагах адміністрацыйнай сістэмы яны і пераважаць доказнае навуковае даследаванне. За кожным радком, за кожнай ацэнкай Агурскага выразна праглядала тэндэнцыя выставіць Каліноўскага не толькі галоўным завадатарам барацьбы за незалежнасць Польшчы, але і ці не першым беларускім нацыяналістам, заснавальнікам беларускага нацыянал-дэмакратызму. Супярэчнасць аднаго другому Агурскі не заўважае, як не бачыць палітычнай неаднароднасці паўстанцкага руху, яго скіраванасць на тэрыторыі Беларусі супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту з боку і расійскага, і польскага панства. Ігнаруе ён і ацэнкі паўстання Бакуніным, Герцэнам, маўчыць аб цесных сувязях Каліноўскага з рускімі рэвалюцыйнымі дэмакратамі, ідэі якіх аказалі вялікі ўплыў на яго светапогляд, што лёгка прачытваецца ў лістах «Яські-гаспадара з-пад Вільні». Было б толькі жаданне.

Цяжка сказаць, быў Агурскі шчыра перакананы ў сваіх ацэнках ці выконваў нечы сацыяльны заказ, але, як бы то ні было, яны ўвайшлі ў даклад камісіі Затонскага. І хаця ўвайшлі, адзначым гэта дзеля аб'ектыўнасці, не ў жорстка сцвярджальным, а хутчэй інфармацыйным плане — як асабістае меркаванне Агурскага (што давала Ігнатоўскаму права на адказ, на абвяржэнне), ужо сам

гэты факт пераводзіў навуковую спрэчку ў палітычную плоскасць. (У хуткім часе такі спосаб вырашэння навуковых пытанняў, праз не падлягаючы сумненню вердыкт таго ці іншага палітычнага органа, стане нормай. Адміністрацыйная сістэма стварала адзін з найбольш эфектыўных механізмаў свайго кантролю над думкамі вучоных, сцвярджэння аднамыснасці).

Для Ігнатоўскага гэта было тым больш небяспечна, што ў дакладзе яго ўпершыню абвінавацяць у намаганнях стварыць у першыя гады Савецкай улады асобную беларускую камуністычную партыю. Мелася на ўвазе Беларуская камуністычная арганізацыя. Так адну з найбольш выдатных спраў яго жыцця адным махам ператварылі ў адну з найбольш чорных. Гэта ўжо было сур'ёзна, хмары згушчаліся над яго галавой. Але гром пакуль што не грымнуў. Перш за ўсё дзякуючы крытычным адносінам да даклада камісіі [illegible] боку тагачаснага ЦК КП(б)Б, скрытнаму і непаслядоўнаму, але ўсё ж такі супраціўленню яго кіраўнікоў, беларускай інтэлігенцыі сталінскаму павароту ў палітыцы, іх спробе непрыкметна для цэнтра вывесці Ігнатоўскага з-пад удару. Па-другое, дзякуючы ўмелай абароне самога Усевалада Макаравіча.

Пры ўсёй палітычнай завостранасці ацэнак Ігнатоўскі паставіўся да крытыкі найперш як вучоны, адказаўшы на яе сур'ёзным аналізам, пераасэнсаваннем гістарычных падзей, сваіх прац і высноў, а не пакаяннем у грахах у імя найхутчэйшага апраўдання, захавання на пасадах і ў званнях. Як вучоны і палітык, ён добра разумеў, што, калі навуковая крытыка замяняецца ідэалагічнымі абвінавачваннямі, адмоўчвацца нельга, бо немата ў такой сітуацыі азначала ўступку палітыканам і ад палітыкі, і ад навукі, заахвочвала іх на новыя наскокі. А гэта ўжо шкодзіла не толькі яму асабіста, але і навуцы, і гістарычнай справе, пагражала страшэннымі дэфармацыямі справе нацыянальна-культурнага адраджэння роднага краю. Такія былі

яго адказы на запыт камісіі Затонскага ў лісце, накіраваным 8 кастрычніка 1929 года ў ЦКК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б. 27 кастрычніка ЦК Кампартыі Беларусі прыняў рашэнне «не пярэчыць публікацыі ліста тав. Ігнатоўскага ў адказ на запыт Затонскага».

Што прызнаў Усевалад Макаравіч з крытыкі, а што адхіліў? Прызнаў, у прыватнасці, памылковым тлумачэнне асобных гістарычных з'яў палітыка-дзяржаўнымі і палітыка-нацыянальнымі, не сацыяльна-эканамічнымі прычынамі, заблытанасць у трактоўцы Кастрычніцкай рэвалюцыі, што прывяло да невыразнага паказу ролі Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б), беларускіх секцый РКП(б) ва ўтварэнні БССР, пэўную ідэалізацыю БСГ, перабольшанне ролі Бунду ў скліканні першага з'езда РСДРП і інш. Сёння відавочна, што ў гэтых прызнаннях ёсць пераважны, а, можа, і тактычны разлік, што зразумела і апраўдана — абставіны вымушалі. Яго меркаванням па названых і некаторых іншых праблемах, калі чаго і не хапала, дык гэта паўнаты, усебаковасці фактalагічнай абгрунтаванасці. Але ж то была агульная ўласцівасць тагачаснай гістарычнай навукі, якая толькі распачынала даследаванні. І да ісціны ён быў значна бліжэй, чым тыя гісторыкі, якія свядома ці па недасведчанасці, няшчыра паверыўшы ці пад прымусам, узялі на сябе няўдзячную місію сцвярджэння сталінскіх догмаў у якасці гістарычнай праўды.

Відаць, па тых жа матывах адхіліў Ігнатоўскі абвінавачванне ў ідэалізацыі К. Каліноўскага як правадыра беларускага руху, непасрэднага папярэдніка рэвалюцый XX стагоддзя. Ідэалізацыі, сапраўды, не было. Але, як рэвалюцыйны дэмакрат, Каліноўскі па праву залічаны да папярэднікаў дэмакратычных і сацыялістычнай рэвалюцый XX стагоддзя. Ісціна сёння даказаная і агульнапрызнаная, і першым яе выказаў Ігнатоўскі. І вымушаны быў адмовіцца. Але разам з тым пераканана абараняў навуковую справядлівасць сваёй трактоўкі паўстання 1863 года. Пры

гэтым Усевалад Макаравіч палічыў прынцыпова важным спецыяльна адзначыць, што яго манаграфія аб паўстанні знаходзіцца ў рукапісе, які Агурскі не чытаў і таму заява яго — «больш чым рызыкоўная», «суцэльная фантазія, якая мае характар паклёпу». Важка прагучаў і аргумент аб папярэдняй апрабацыі яго тэзісаў у Камуністычнай Акадэміі і станоўчым заключэнні па іх зместу М. Пакроўскага. Інакш кажучы, як вучоны, ён з павагай ставіўся да меркаванняў сваіх калег, як належнае ўспрымаў існаванне і сутыкненне розных падыходаў і пунктаў гледжання, іх высвятленне ў ходзе спрэчкі, хай сабе і палітычна завостранай, але доказнай, аргументаванай.

Адхіліў У. Ігнатоўскі абвінавачванне ў спробе стварыць беларускую камуністычную партыю ў асобе БКА. «Я ўвайшоў,— чытаем у лісце,— у партыю сумленна, пасля таго як партыя праверыла мяне і многіх былых таварышаў па сапраўды існаваўшай Беларускай камуністычнай арганізацыі, якая працавала ў падполлі акупіраванай Беларусі з дазволу і па дырэктывах Кампартыі. Гэта арганізацыя гатова была кожную мінуту распусціць сябе, і члены яе дабіваліся ўступлення ў Кампартыю, аднак т-ш Ян, прадстаўнік ЦК КП Літвы і Беларусі, не дазволіў гэтага зрабіць па зразумелым прычынам. Мы яшчэ не былі дастаткова правераны і не заслужылі гонару быць партыйцамі. Мне і іншым маім былым таварышам было дазволена быць партыйцамі толькі ў ліпені 1920 года, пасля таго як Мінск быў заняты Чырвонай Арміяй». Дададзім, што Ігнатоўскі ў сваіх працах пры асвятленні падзей грамадзянскай вайны ў Беларусі заўсёды вельмі стрымана, літаральна ў некалькіх радках пісаў пра стварэнне і дзейнасць БКА і ніколі не падкрэсліваў сваёй ролі, нават не называў сваё імя сярод яе заснавальнікаў. Гэта сведчыць аб яго сціпласці як чалавека, высокай патрабавальнасці да сябе як вучонага.

# НАЦДЭМ

Безумоўна, несправядлівасць заўсёды балюча раніць, каштуе здароўя і нерваў. Асабліва такая, з амаль ужо не прыхаванай пагрозай усяму ладу жыцця (калі не самому жыццю), якой падвергся Ігнатоўскі. У падобнай сітуацыі на пытанне: «За што змагацца, што ратаваць (і якой цаной)?» — кожны дае свой адказ. Усевалад Макаравіч вырашыў, што яшчэ ёсць шанц, ахвяраваўшы пасадамі, не паступіцца сваёй годнасцю, зберагчы галоўнае — магчымасць займацца творчай работай. У тым жа пісьме ў ЦКК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б ён паведаміў, што пачаў разам з калегамі падрыхтоўку працы па гісторыі Беларусі, у якой яны паспрабуюць даць яе правільнае марксісцкае асвятленне. Але для гэтага яму патрэбна разгрузка ад іншых абавязкаў, аб чым і просіць Бюро ЦК.

11 кастрычніка 1929 года просьба Ігнатоўскага была задаволена. Бюро ЦК КП(б)Б прыняло рашэнне сканцэнтраваць усю яго работу ў Акадэміі навук, а таксама на падрыхтоўцы працы па гісторыі Беларусі.

Нападкі спыніліся. Аўтарытэт Ігнатоўскага ў вачах беларускай грамадскасці нікольні не пахіснуўся. Больш таго, здаецца, што тагачаснае партыйнае і савецкае кіраўніцтва рэспублікі непрыкметна для цэнтра старалася вывесці яго з-пад удару. На гэтую думку наводзіць не толькі змест, але і знешні ход падзей. Супаставім: 8-га кастрычніка Ігнатоўскі ў адказ на запыт камісіі Затонскага піша пісьмо ў ЦКК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, праз тры дні ЦК КП(б)Б, ні з кім не ўзгадняючы (што, дарэчы, сведчыць і аб пэўнай яго самастойнасці, яшчэ не да канца абмежаванай сталінскай камандай), задавальняе просьбу Усевалада Макаравіча, а 27-га дае згоду на публікацыю яго пісьма. А крыху раней, 15-га кастрычніка, у самы разгар разгляду справы, Прэзідыум АН БССР прызначае У. Ігнатоўскага дырэктарам (першым) толькі што створанага

Інстытута гісторыі. Пасада, на якую без згоды ЦК не вылучалі. Тады ж у ліку першых беларускіх вучоных яго абіраюць акадэмікам АН Украінскай ССР.

Як своеасаблівую палітычную рэабілітацыю Ігнатоўскага можна расцэньваць вынікі партыйнай чысткі ў канцы 1929 года, калі ЦКК ВКП(б) правярала кіруючыя кадры Беларусі. Усевалад Макаравіч прайшоў яе без якіх-небудзь прынцыповых заўваг. Аднак уздыхнуць з палёгкай, адчуць сябе ў поўнай небяспецы сітуацыя не дазваляла. Неба расчысцілася. Але толькі над ім, маланкі бліскацелі побач, білі па сябрах, па аднадумцах. У ходзе той жа чысткі на адкрытым сходзе партыйнай ячэйкі Наркамата асветы шальмуюць, абвінавачваюць у нацыянал-дэмакратызме З. Жылуновіча. Спроба члена партыі з 1918 года П. Ільючонка разам з М. Гарэцкім, І. Цвікевічам і Маруком падняць голас у абарону Зміцера Хведаравіча толькі падліла масла ў агонь. Яна была кваліфікавана сходам як «чарговая вылазка беларускага нацыянал-дэмакратызму», выкарыстана арганізатарамі кампаніі як яшчэ адзін «доказ» небяспекі апошняга для савецкага сацыялістычнага будаўніцтва. І ўжо сам Жылуновіч вымушаны быў адмяжоўвацца ад гэтай падтрымкі смелых людзей, якіх яна таксама дарам не міне. (Для П. Ільючонка адплата наступіла тут жа: праверачная камісія перагледзела станоўчыя для яго вынікі чысткі і выключыла яго з партыі).

Аб тым, як рэагаваў на гэтыя падзеі У. Ігнатоўскі, не захавалася ні дакументальных звестак, ні сведчанняў сучаснікаў. Хутчэй за ўсё, толькі што выбраўшыся з зоны агню, вымушаны быў змаўчаць. І не з-за страху, а з-за разумення, што яго пратэст, пратэст чалавека, які ледзь сам адхрысціўся ад таўра «нацыянал-дэмакрат», мог даць толькі адмоўны вынік, мог толькі пагоршыць і ўласнае, і Жылуновіча становішча. У чым — у чым, а ў каварстве тактычнага разліку арганізатарам цкавання адказаць было нельга. І ўсё ж такі меч, занесены над галавой Жы-

луновіча ў той момант, не апусціўся. Яго адвяла рука новага старшыні Савета Народных Камісараў рэспублікі М. Галадзеда, які ў прамове на ўрачыстым пасяджэнні 7 лістапада 1929 года, гаворачы аб неабходнасці «рашуча змагацца з нацыянал-дэмакратамі і шавіністамі ўсіх масцей», цвёрда ўзяў пад сваё заступніцтва Зміцера Хведаравіча.

Сам учынак і змест выступлення М. Галадзеда паказальныя для разумення адносін часткі кіраўніцтва рэспублікі да сталінскага павароту ў палітыцы: існаванне рознага роду «ўхілаў» і неабходнасць барацьбы з імі прызнаваліся, але імкненне раздуць справу, давесці яе да рэпрэсій сустракала супраціўленне. І не толькі з боку ветэранаў-бальшавікоў, не толькі камуністаў — выхадцаў з нацыянальна-вызваленчага руху, але і маладых членаў партыі, толькі што вылучаных на адказныя пасады. Такое становішча не магло не насцярожыць архітэктараў аўтарытарна-бюракратычнай сістэмы. Адпаведнай была і рэакцыя (і ў літаральным, і ў пераносным сэнсе гэтага слова): новыя замены і ператасоўка кадраў, іх татальнае застрашванне абвінавачаннем у самазаспакоенасці, палітычнай блізарукасці, ліберальнічанні з класава варожым элементам, патуранні нацдэмам. Менавіта такія папрокі ў адрас беларускіх партыйных дзеячаў прагучалі з вуснаў Д. Мануільскага і М. Трылісера падчас інспектавання імі ў канцы 1929 года дзейнасці рэспубліканскай партыйнай арганізацыі. Адначасова прагучала патрабаванне далейшай бязлітаснай чысткі пралетарскіх радоў.

Кампанія выкрыцця правага ўхілу і нацыянал-дэмакратызму ўзмацняецца. Пад знішчальны агонь прадузятай крытыкі трапляюць усё новыя і новыя людзі. Сярод іх апынуўся і старшыня ЦВК Чарвякоў, якому на пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б паставяць у віну «адсутнасць актыўнага ўдзелу... у барацьбе з правым ухілам і нацыянал-дэмакратызмам», больш таго, абарону на працягу доўгага перыяду ў шэрагу выступленняў вусных і ў дру-

ку праваўхілісцкіх установак. Ігнатоўскі — член Бюро. Можна ўявіць сабе яго самаадчуванне, калі ён слухаў словы пастановы: «Гэтыя праваўхілісцкія ўстаноўкі, узятыя ў агуле (у цэлым) аб'ектыўна прадстаўляюць сабою цэлую сістэму праваапартуністычных і нацыянал-апартуністычных поглядаў». Калі слухаў заяву самога Чарвякова аб прызнанні і асуджэнні сваіх памылак. Калі пачуў, што разам з Калніным, Галадзедам, Славінскім, Васілевічам, Вінаградавым і Ґрысевічам яму даручаецца выпрацаваць «падрабязную палітычную пастанову Бюро ЦК і прэзідыума ЦКК КП(б)Б».

Майстраваць крыж для свайго таварыша, палітычнага аднадумца,— горш не прыдумаеш. Адмовіцца, выступіць у абарону — значыць падпісаць прысуд абодвум, даць падставу для абвінавачання ў змове, у стварэнні арганізаванай нацдэмаўскай групы. Іншага варыянта сітуацыя, створаная ў партыі намаганнямі сталіністаў, ужо не дазваляла. Ужо нельга было, без рызыкі тут жа трапіць у які-небудзь «ухіл», выказаць сваё меркаванне, заняць сваю пазіцыю, не супадаючую і тым больш супрацьлеглую афіцыйнай «лініі», агульным устаноўкам. Але яшчэ можна было (пры наяўнасці пэўнай колькасці аднадумцаў) скрытна, пацвердзіўшы нешта другараднае і адхіліўшы самыя небяспечныя абвінавачванні, змякчыўшы фармулёўкі, аслабіць, адвесці ўдар.

Так менавіта і зрабілі і Чарвякоў, і камісія. Аляксандру Рыгоравічу на той момант удалося адстаяць сябе: пакаяннем у неіснуючых грахах, прызнаннем нацдэмаўшчыны, але ж і рашучым абвяржэннем сваёй нібыта прыхільнасці да яе, дэмаршам-патрабаваннем да ЦК ВКП(б) і асабіста Кагановіча адазваць яго з Беларусі. З другога боку, як ні сурова гучалі дванаццаць пунктаў пастановы Бюро ЦК і прэзідыума ЦКК КП(б)Б па справе Чарвякова, але самыя бязлітасныя абвінавачванні былі зняты. Несумненна, што была ў тым заслуга і Усевалада Макаравіча.

Бяда, здавалася, канчаткова адступіла ад яго. У. Ігнатоўскі — у ліку дэлегатаў XIII з'езда Кампартыі Беларусі (30 мая — 12 чэрвеня 1930 года) з рашаючым голасам. Двойчы выступае на яго пасяджэннях, выбіраецца ў склад ЦК. Праз два тыдні пасля з'езда выходзіць у свет найбольш грунтоўная з яго прац — манаграфія «1863 год на Беларусі».

Але спакой гэты — вонкавы. Стрэлы, скіраваныя ў нацдэмаў, кладуцца ўсё гусцей, стралкоў — усё больш, і не толькі з ліку тых, хто валодаў «правільнай лініяй». Самае страшнае: у самазнішчальную бойку паступова ўцягваліся патэнцыяльныя ахвяры аўтарытарна-бюракратычнай сістэмы — прадстаўнікі інтэлігенцыі, літаратары, навукоўцы, асабліва з маладых. Гарачыя, задзірыстыя, свята паверыўшыя ў пралетарскую культуру, апантаныя жаданнем збудаваць усё нанава, жыццёвым вопытам не абцяжараныя, па-юнацку ўпэўненыя ў сабе і крыўдлівыя, шчыравалі натхнёна, гучных эпітэтаў, жорсткіх ярлыкоў не шкадавалі. «Кулацкія пісьменнікі», «адкрытая вылазка класавага ворагу», «нацдэмаўшчына, замаскіраваная марксісцкай фразай» — гэтак вось паэт аб паэце, пісьменнік аб пісьменніку — звонка, на ўвесь голас, у друку. Самі аб тым не здагадваючыся, яны ў сваіх артыкулах рыхтавалі адзін аднаму абвінавачванні, якія ў хуткім часе амаль адзін да аднаго следчыя перанясуць у пратаколы допытаў.

Усё пераблыталася, змяшалася, і ўсё як найлепш адпавядала задуме аўтараў «вялікага пералому». Пад грукат славесных баталій спрытнымі майстрамі з АДПУ ўжо шылася «справа» контррэвалюцыйнай антысавецкай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі». І шытае белымі ніткамі стане неабвержным аргументам супраць многіх і многіх. Ужо ў канцы 1929 — пачатку 1930 гадоў была арыштавана першая група асоб, якія быццам бы належалі да СВБ. Такім чынам, надуманай ідэі аб існаванні ў рэспубліцы разгалінаванай, арганізацыйна аформленай

нацыянал-дэмакратычнай плыні надаваўся выгляд праўдападобнасці. А гэта ў сваю чаргу дазваляла ўзвінціць істэрыю пошуку «ворагаў народа», зламаць канчаткова супраціўленне новаму курсу ў партыі і сярод інтэлігенцыі, адкрыта распачаць рэпрэсіі, у тым ліку і да прадстаўнікоў кіраўніцтва.

Спякотны ліпень быў адзначаны новай хваляй арыштаў. На гэты раз удар быў скіраваны на Акадэмію навук. Разам з арыштаванымі раней за кратамі апынулася каля 30 яе супрацоўнікаў, сярод якіх сем акадэмікаў з ліку першых, абраных менш чым два гады назад пры пераўтварэнні Інстытута беларускай культуры ў Беларускую акадэмію навук: Г. Гарэцкі, А. Дубах, М. Дурнаво, В. Ластоўскі, І. Лёсік, С. Некрашэвіч, У. Пічэта *. Следчыя паставяць ім у віну аб'яднанне ў групу, якая вяла «варожую контррэвалюцыйную дзейнасць», скіраваную «супраць дыктатуры пралетарыяту і на зрыў паспяховага сацыялістычнага будаўніцтва». Ні больш, ні менш. Менавіта з такой фармулёўкай 6 снежня пастановай Саўнаркома яны будуць пазбаўлены званняў акадэмікаў **.

На душу ж Усевалада Макаравіча цяжкім каменем лёг яшчэ адзін грэх: як прэзідэнт Акадэміі навук, ён быў вымушаны падпісваць загады аб звальненні з працы сваіх калег. Міжволі задумаешся: «Што тварылася ў яго на душы, што адчуваў ён, трымаючы ў руцэ пяро, аб чым думаў у тую хвіліну, чым апраўдваўся потым?» Сапраўды паверыў у іх варожую дзейнасць? Выключана. Знаходзіўся ў разгубленасці, у душэўным разладзе, назіраючы, як скажаюцца, ператвараюцца ў нешта супрацьлеглае ідэі сацыялізму, да якіх ён так складана, нялёгка прыйшоў? Несумненна так. Баяўся? Безумоўна. Ведаў, што

---

* Згодна са звесткамі Камісіі АН БССР па творчай спадчыне вучоных акадэміі, якія бязвінна пакутавалі ў перыяд сталінскіх рэпрэсій («За передовую науку», 1990, 23 лютага).

** Амаль усе названыя асобы адноўлены ў званні правадзейных членаў АН БССР: Пічэта — у 1940, Гарэцкі — у 1965, Дурнаво, Дубах і Некрашэвіч — у 1978, Ластоўскі і Лёсік — у 1990 годзе.

подпіс яго (ці адсутнасць) нічога прынцыпова не зменіць? І гэта — безумоўна. Але ж не мог не разумець, што матор па яго прызначанага «варанка» ўжо заведзены. Па ўсяму відаць — разумеў. І ў гэтым — галоўная частка адказу на ўзнікшыя пытанні: выкажы ён, член Бюро ЦК КПБ(б), прэзідэнт АН БССР, да таго ж і «нацдэмаўскім» адценнем на рэпутацыі, адкрыты пратэст, выступі на ўсю моц голасу ў абарону — не дапамог бы арыштаваным, а толькі б пагоршыў іх лёс. І і непазбежнасцю кола ахвяр значна б пашырылася. Калі сам прэзідэнт гарой за нацдэмаў, то лагічна, што пад такім прыкрыццём іх арганізацыя ў акадэміі — шырокаразгалінаваная, якая глыбока пусціла карані. На карысць гэтай версіі служыць і той факт, што па першапачатковаму сцэнарыю АДПУ колькасць членаў Саюза вызвалення Беларусі вызначалася некалькімі сотнямі чалавек. Аднак будзем шчырымі: утрымацца на маральнай вышыні У. Ігнатоўскаму не заўсёды і не ва ўсім удалося.

Арышты супрацоўнікаў Акадэміі навук паслужылі своеасаблівым сігналам да ўзмацнення крытыкі ў адрас У. Ігнатоўскага. Хутка яна набывае завершаны выгляд палітычнага абвінавачвання — свядомае правядзенне ідэй нацыянал-дэмакратызму. А іменна: падмена класавай барацьбы нацыянальнай, прапаганда тэорыі адсутнасці ў Беларусі эксплуатататарскіх класаў, адмаўленне пралетарскага характару Кастрычніцкай рэвалюцыі і Савецкай улады, затушоўванне ролі партыі бальшавікоў і ідэалізацыя ролі дробнабуржуазных партый і г. д. Абвінавачванні былі збудаваны па шаблонах свайго часу з пэўным разлікам на шчырае людское абурэнне да носьбітаў падобных ідэй. Падстаў для іх ні творы, ні прамовы Ігнатоўскага не давалі. Але, як глыбокі гісторык, як шырокаадукаваны аналітык, ён імкнуўся да ўсебаковага разгляду падзей і працэсаў. І таму не мог падганяць іх пад нейкую адзіную ўстаноўку. І таму ў многім прадвызначаў сучасныя, пасляперабудовачныя падыходы і ацэн-

кі. Так, сёння гісторыкі, не адмаўляючы наяўнасць класавага размежавання на Беларусі (не адмаўляў, дарэчы, гэтага і Ігнатоўскі, як яму прыпісвалі), прыйшлі да высновы, што сялянства тут сапраўды складала большую частку насельніцтва, менавіта беларускага, што слой заможнага сялянства быў значна меншым, а сярэдняга — большым, чым выдавалася раней. Ды і ўзровень заможнасці ўступаў узроўню сялян, напрыклад, чарназёмнай зоны. Па-іншаму бачыцца і роля дробнай, сярэдняй буржуазіі, іх партый, якія былі носьбітам рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху. Асноўная асаблівасць рэвалюцыйнага працэсу ў Расійскай імперыі ў тым і была, што тут супалі, сышліся розн098часовыя (у краінах Заходняй Еўропы аддзеленыя адна ад адной стагоддзямі) рэвалюцыйныя рухі — дэмакратычны і рабочы. Падвяргаецца сумненню і стэрэатып аб Кастрычніцкай рэвалюцыі як цалкам сацыялістычнай, пралетарскай. І прыходзіцца толькі шкадаваць, назіраючы на прыкладзе Ігнатоўскага, колькі ж такіх прарываў да праўды гісторыі было спынена сталінскай сякерай, колькі магутных талентаў маральна ці фізічна знішчана.

Неўзабаве абвінавачванні супраць У. Ігнатоўскага былі пашыраны на яго грамадска-палітычную і дзяржаўную дзейнасць. Яго публічна папракаюць у падтрымцы дзеячаў былой БНР, якія па-двурушніцку прызналі Савецкую ўладу, а на справе вялі падпольную барацьбу супраць яе, стварылі ў сценах Наркамасветы і акадэміі законспіраваную контррэвалюцыйную арганізацыю. У падтэксце лёгка ўгадваецца пытанне: «А ці не ўваходзіў ён сам у яе? А можа нават быў кіраўніком?» Аднак з пэўнай выразнасцю такое абвінавачванне не прагучала. Больш таго, на Пленуме ЦК КП(б)Б, які адбыўся 20—25 кастрычніка 1930 года, старшыня АДПУ Беларусі Г. Рапапорт вымушаны быў прызнаць, што ў яго ведамства няма падстаў абвінавачваць Ігнатоўскага і Жылуновіча ў належнасці да СВБ.

Тым не менш шлях яго на эшафот ужо быў канчаткова прадвызначаны на гэтым жа пленуме з такой, здавалася, «мірнай» павесткай: «Аб чарговых задачах у нацыянальнай палітыцы». Але галоўны сэнс пленума, па сутнасці, звёўся як у дакладзе (яго рабіў К. Гей), так і выступленнях да выкрыцця беларускага нацыяналізму і варожай дзейнасці Саюза вызвалення Беларусі, крытыкі поглядаў і паводзін членаў Бюро ЦК У. Ігнатоўскага, І. Васілевіча, А. Сянкевіча, а таксама З. Жылуновіча. Кожнаму з іх была адмерана свая доля віны. Ігнатоўскаму і Жылуновічу — найбольшая. Пры гэтым слова Усеваладу Макаравічу (яшчэ члену Бюро ЦК!) не далі. Падсудны без права абароны. Адпаведны і прысуд. У пастанове пленума па яго справе адзначаецца: «Т. Ігнатоўскі прыйшоў у нашу партыю з сацыяльна-варожага асяроддзя, маючы ў сваім мінулым такія яскрава-контррэвалюцыйныя выступленні, як:

а) удзел у складанні зборніка, прысвечанага юбілею дома Раманавых (1913 г.);

б) работа ў радах беларускіх эсэраў супраць пралетарскай рэвалюцыі (1917—1920 гг.)».

Вось так агульнатэарэтычныя скажэнні канцэпцыі рэвалюцыйнага працэсу ў Расіі, згодна з якімі да контррэвалюцыйнага лагера былі аднесены былыя бліжэйшыя саюзнікі бальшавікоў — партыі сацыялістычнай арыентацыі, сталі зброяй для расправы з іх членамі.

Ігнатоўскі абвінавачваўся ў тым, што, знаходзячыся ў КП(б)Б, не толькі не пераадолеў перажыткаў антыпралетарскага светапогляду, не толькі не стаў цалкам на пазіцыі марксізму-ленінізму, але захаваў вернасць сваім ранейшым дробнабуржуазным поглядам, ідэям контррэвалюцыйных партый, фактычна скаціўся на пазіцыі нацыянал-апартунізму і буржуазна-кулацкага нацыянал-дэмакратызму (падмена класавай барацьбы нацыянальнай, тэорыя адраджэнства, тэорыя адсутнасці эксплуататарскіх класаў у Беларусі, адмаўленне пралетарскага характару

Кастрычніцкай рэвалюцыі і Савецкай улады, затушоўванне ролі партыі бальшавікоў і ідэалізацыя ролі дробнабуржуазных беларускіх партый). Прычым, не толькі ў сваіх навуковых творах, але і ў практычнай дзейнасці. Са спасылкай на вынікі следства па справе «Саюза вызвалення Беларусі» ў пастанове адзначалася, што Ігнатоўскі на пасадах наркома асветы і прэзідэнта Акадэміі навук фактычна выконваў ролю правадніка нацыянал-дэмакратычных установак, стаў рупарам нацыяналістычнай інтэлігенцыі ў партыі, падтрымліваў на працягу многіх год сувязі з замежнымі нацыянал-дэмакратычнымі, нацыянал-фашысцкімі дзеячамі, неаднаразова рабіў спробы арганізаваць фракцыйную барацьбу ў КП(б)Б і КПЗБ.

Жорсткасць і безапеляцыйнасць абвінавачванняў з няўмольнай логікай вымагала бадай што адзінага прысуду: з партыі выключыць. Між тым, якраз гэтых слоў у пастанове пленума мы не знойдзем. Канцоўка пакуль што была іншай: абавязаць ЦКК КП(б)Б правесці партыйнае расследаванне і вызначыць паводзіны У. Ігнатоўскага ў адносінах да ўдзельнікаў контррэвалюцыйнай арганізацыі СВБ з мэтай вырашэння пытання аб магчымасці яго знаходжання ў партыі. Не апраўданне, але адтэрміноўка, відавочна, непажаданая для завадатараў «справы СВБ», справы Ігнатоўскага. Што ж абумовіла такі прамежкавы зыход? Даклад і выступленні дазваляюць з дастатковай упэўненасцю выказаць меркаванне: перш за ўсё моц аўтарытэту Ігнатоўскага, які ў вачах яго таварышаў і калег не здолелі да канца вынішчыць ні папярэднія кампаніі шальмавання, ні намаганні Гея з Рапапортам у ходзе размовы на пленуме. Менавіта адсутнасць колькі-небудзь абгрунтаваных доказаў і выклікала сумненні ў належнасці Ігнатоўскага да СВБ. Праўда, у існаванні самой арганізацыі, здаецца, ніхто з удзельнікаў пленума не сумняваўся (ці вельмі глыбока хаваў свае сумненні). Як не сумняваліся і ў віне арыштаваных «членаў СВБ», на паказаннях якіх (што не хаваў нават

Г. Рапапорт) грунтаваліся ўсе абвінавачванні супраць Ігнатоўскага. Але сумняваліся, хаця і своеасабліва, у шчырасці гэтых паказанняў. Як адзначаў у сваім выступленні член ЦК КП(б)Б Будзінскі, арыштаваныя нацыяналісты В. Ластоўскі, І. Лёсік, С. Некрашэвіч і іншыя, магчыма «свядома ставяць пытанне так, каб замазаць як мага больш беларускіх камуністаў, каб пазбавіць нас у максімальнай колькасці кадраў беларусаў-камуністаў, асабліва з кіруючага складу, каб даказаць, што камуністы-беларусы ўсе да адзінага — як і яны — нацыянал-дэмакраты».

Жудасная іронія таго часу: патаемныя імкненні (і справы) сапраўдных злачынцаў — стваральнікаў таталітарнага рэжыму — пазбавіцца ад беларусаў-камуністаў цяжкай віной перакладаліся на іх ахвяры. Штучна ствараемы вобраз ворага закрываў далягляд ісціны нават для сумленных людзей. Скажонае адлюстраванне рэчаіснасці станавілася нормай, а норма ўспрымалася як скажэнне. І амаль ніхто яшчэ не ведаў, як выбіваліся паказанні ў падвалах АДПУ. Да метадаў 1937 года было яшчэ далёка, на прымяненне мер фізічнага ўздзеяння яшчэ патрабаваўся асабісты ў кожным выпадку дазвол. На многіх з тых, хто праходзіў па «справе СВБ», ён быў дадзены. Гэта тлумачыць многія супярэчнасці ў паказаннях арыштаваных і разам з тым высвечвае праявы мужнасці ў іх паводзінах. Шмат, напрыклад, маны ўзвёў на сваіх таварышаў Некрашэвіч, але ён жа ўпарта адмаўляў якое б там ні было дачыненне да СВБ Ігнатоўскага. Гэтак жа і Галавінскі.

Слабенькі водбліск надзеі на аб'ектыўнае расследаванне справы, дараванай У. Ігнатоўскаму пленумам, хутка знікае. Для яго пачынаецца цяжкая паласа прадузятых размоў у ЦКК КП(б)Б, падпарадкаваных адной мэце: выявіць яго злачынныя нацдэмаўскія погляды, сувязі з СВБ, выкрыць як аднаго з найактыўнейшых завадатараў фракцыйнай барацьбы ў КП(б)Б. Партыйнае расследа-

ванне ні на крок не адступала ад абвінавачванняў, сфармуляваных у выступленнях Гея, Рапапорта, іншых членаў ЦК, у рашэннях пленума, а таксама ў паказаннях Некрашэвіча, Лёсіка, Прышчэпава, Ільючонка і іншых. Адначасова вядзецца справа З. Жылуновіча. Пачынаюць выклікаць у АДПУ Янку Купалу. На скрыжаванні пытанняў зноўку і зноўку перасякаюцца іх жыцці, толькі ў скажоным да немагчымасці адлюстраванні. З'явы і падзеі, учынкі і словы набывалі зусім іншыя выраз і змест: сустрэча сяброў ператварылася ў змову, сямейныя вечарыны — у палітычныя, спрэчкі на пасяджэннях, міжасабістыя непаразуменні — у праявы групавой барацьбы. Хто і аб чым гаварыў, якія пытанні абмяркоўваліся — дома ў Купалы, на пасяджэннях у Наркамаце асветы, Тэрміналагічнай камісіі, у Акадэміі навук? І зусім неверагоднае: у віну паставілі нават... маўчанне. Чаму не адрэагаваў, не абурыўся вось на гэту антысавецкую (як падавалася ў даносе «добразычліўцы») рэпліку? А на гэту? Змаўчаў — значыць згодны. Тэатр абсурду. З цемры святлом залітага кабінета выразна паўставала здань Чынгісхана, які, здаралася, караў смерцю за нявыказаныя думкі.

Пытанні, пытанні, пытанні, асноўны сэнс якіх вызначаюць дзве лініі: выкрыццё нацыянал-дэмакратычнага падполля і звязаных з ім антыпартыйных груповак. Гучаць імёны, адвольна камбінуюцца ў групы, узброеныя спецыяльна падабранымі выпіскамі з паказанняў арыштаваных «членаў СВБ», члены ЦКК называюць імёны кіраўнікоў «груповак», патрабуюць ад Ігнатоўскага пацвярджэння, новых імёнаў, новых сведчанняў. Тое ж ад Жылуновіча. Апрабоўваюцца розныя варыянты: група былога старшыні СНК І. Адамовіча, група Чарвякова, група Жылуновіча, Ігнатоўскага — Чарвякова, Ігнатоўскага — Жылуновіча, урэшце — Ігнатоўскага. Абодва, прызнаючыся ва ўласных памылках, напачатку адмаўляюць існаванне якіх бы там ні было груповак і да самага кан-

ца — уласных і сумеснай. Так у пакаянным пісьме ў ЦКК КП(б)Б, датаваным 10 лістапада 1930 года, З. Жылуновіч двойчы падкрэсліў: «Была ці не групоўка беларусаў-камуністаў вакол Ігнатоўскага, не ведаю, клянусь». І на наступнай старонцы, пасля апісання сваіх непрыязных адносін з У. Ігнатоўскім, зноў: «Аб групоўках, што былі пры Крыніцкім, ніякіх не ведаў. Абсалютна не ведаю, была ці не групоўка пры Ігнатоўскім». На жаль, бясконцыя допыты, несупыннае публічнае шальмаванне, ідэалагічны тэрор надламалі волю Зміцера Хведаравіча; з вуснаў яго, з-пад пяра ў пакаянных пісьмах сарваліся імёны многіх як членаў груповак. Упарта адмаўляў існаванне якіх бы там ні было груповак, тым больш сваё да іх далучэнне, і Усевалад Макаравіч. І таксама не вытрымаў, толькі значна пазней, калі сітуацыя ў рэспубліцы і ўласнае становішча, здаецца, не пакідалі ні водбліску надзеі.

На зыходзе лістапада 1930 года да яго дайшла страшэнная вестка аб спробе самагубства Янкі Купалы. Цяжка сказаць, ці ведаў ён аб усіх акалічнасцях і прычынах гэтага ўчынку песняра, але што аб многіх — бясспрэчна. Яшчэ прэзідэнт акадэміі, яшчэ член Бюро ЦК КП(б)Б, хаця і пад следствам, ён яшчэ меў даволі шырокі доступ да інфармацыі. Ды і горкі вопыт уласнай «справы» дапамагаў зразумець захаваныя тайны той гульні, якая вялася вакол Купалы. Менавіта Купала разам з Коласам, як сёння стала вядома, па першапачатковаму сцэнарыю АДПУ былі ўнесены ў спіс членаў кіруючага цэнтра СВБ. Але пры гэтым не ўлічылі мужнасці паэта. Купала рашуча і цвёрда адверг усе абвінавачванні ў свой бок, больш таго, наадрэз адмовіўся, як аб гэтым дакладваў К. Гей у пісьме сакратару ЦК ВКП(б) П. Постышаву, «пайсці насустрач нам у сэнсе хаця б асуджэння контррэвалюцыйнай дзейнасці сваіх сяброў — удзельнікаў і кіраўнікоў «саюза»... Дарэчы, у гэтым жа пісьме Гей сцвярджаў: «Янка Купала ўваходзіў у кіруючы цэнтр «Саюз вызва-



4 Зак. 447

лення Беларусі», з'яўляўся ідэйным цэнтрам нац.-дэмаўскай контррэвалюцыі, што знайшло адлюстраванне ў яго творчасці. Побач з творамі цалкам савецкімі ў яго маюцца вершы і кулацкага і непасрэдна контррэвалюцыйнага зместу». Пясняр волі волю і абраў, хаця і самай найдаражэйшай цаной — уласнага жыцця. «Уміраючы, прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная...» — вывела рука паэта і грамадзяніна ў перадсмяротным лісце на імя старшыні ЦВК БССР А. Чарвякова. У адным не памыліўся Гей, калі вызначыў учынак Я. Купалы «як пратэст супраць нашай палітыкі барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам». Пратэст, які меў вынік: цяжка ўявіць, да якіх знішчальных памераў была б узнята хваля рэпрэсій, калі б Купала скарыўся, прызнаўся, ашальмаваў бы іншых. Уяўляў гэта і Ігнатоўскі, якому, трэба думаць, Чарвякоў расказаў аб лісце іх агульнага сябра, аб бядзе яго, якая распасцерла свае чорныя крылы і над іхнім лёсам. Ведаў і ад самога Купалы, да якога ён, па ўспамінах сведкаў тых падзей, прыехаў пасля выпіскі з бальніцы і якога ён угаворваў жыць, суцяшаў надзеяй на прыход лепшага часу.

Урачам удалося выратаваць жыццё паэта. АДПУ прыйшлося ўносіць карэктывы ў першапачатковую версію. Дакументы, якія сталі вядомы гісторыкам, хаця і адкрываюць шмат патаемнага з апошніх месяцаў жыцця У. Ігнатоўскага, усё ж не даюць падстаў для выказанага пісьменнікамі Э. Ялугіным і Б. Сачанкам меркавання, што менавіта яму, пасля няўдачы з Купалам, была «перададзена» роля кіраўніка СВБ. Таму многае не спрыяла. Ствараемая аўтарытарная сістэма не адчувала сябе яшчэ дастаткова моцнай, каб на чале так званых антысавецкіх арганізацый без боязі «ставіць» людзей з вышэйшага дзяржаўнага і партыйнага кіраўніцтва. Гэты, у далейшым «штатны», прыём толькі апрабоўваўся. Ды і асоба Ігнатоўскага, яго характар і воля, усё папярэдняе жыццё і паводзіны ў ходзе партыйнага следства не давалі ўпэў-

ненасці ў магчымасці прымусіць яго згадзіцца з прапанаванай роллю і даць адпаведныя паказанні.

Але што менавіта Ігнатоўскі пасля спробы самагубства Янкі Купалы стаў для натхніцеляў кампаніі па выкрыццю нацдэмаўшчыны фігурай нумар адзін — бясспрэчна. З патроенай энергіяй ад яго дамагаліся мінімальна магчымага, але вельмі неабходнага на той момант: пацвярджэння, новых сведчанняў існавання антыпартыйных груповак, звязаных з нацдэмаўскай інтэлігенцыяй. Абумоўлена гэта было негатыўнай рэакцыяй часткі грамадскасці на распачатую калектывізацыю, выкрыццё нацыянал-дэмакратызму, арышты па «справе» СВБ. І рэакцыя гэта была, відаць, даволі адчувальнай і небяспечнай для праваднікоў сталінскага курсу, калі праінфармаваць аб ёй Палітбюро ЦК ВКП(б), хаця і ў асцярожнай форме, вымушаны быў першы сакратар ЦК КП(б)Б К. Гей. У пісьме яго, датаваным 15 снежня 1930 года, чытаем: «Паведамленне аб арышце контррэвалюцыйнай інтэлігенцкай групы нацыянал-дэмакратаў, апублікаванае згодна пастанове Палітбюро, выклікала ў некаторых слаях інтэлігенцыі вядомае неўразуменне». І задача: «Неабходна выкрыць сапраўдную контррэвалюцыйную дзейнасць «Саюза вызвалення Беларусі», дзеля таго каб (вось яна, заўважым у дужках, выразна вызначаная мэта і разам з тым прызнанне наяўнасці супраціўлення сялянства і інтэлігенцыі калектывізацыі, кампаніі па выкрыццю нацдэмаў) палегчыць нашу работу галоўным чынам сярод сялянства».

Спроба самагубства Я. Купалы толькі ўзмацніла адмоўную рэакцыю. Справе ж СВБ яўна не хапала колькі-небудзь сур'ёзных і пераканаўчых доказаў. Замяніць іх хоць у нейкай ступені, пасеяць страх і сумненні ў людскія душы і тым прыглушыць незадавальненне павінны былі пакаянні, адпаведныя прызнанні такіх аўтарытэтных кіраўнікоў, як Ігнатоўскі. І перш за ўсё Ігнатоўскі.

Але звернем яшчэ раз увагу на дату ліста Гея — 15 снежня. Значыць, справа тармазілася, Усевалад Мака-

равіч трымаўся. Яго не пахіснуў нават «пакаянны» ліст Я. Купалы, надрукаваны 10 снежня. Хто-хто, а ён ужо па сабе ведаў, як гэтага дамагаюцца. А тут і стыль не купалаўскі. Прымусілі цяжка параненага, толькі што ад смерці ўратаванага чалавека падпісаць тэкст, складзены па рэцэптах пэўнага ведамства. Надламаць (не зламаць) Ігнатоўскага ўдалося толькі 9 студзеня 1931 года. Незадоўга да таго, 26 снежня, ён быў вызвалены з пасады Прэзідэнта Акадэміі навук. Галоўным чынам, па палітычных матывах. Аднак 8 студзеня 1931 года Бюро ЦК КП(б)Б яшчэ раз вяртаецца да гэтага пытання і пастанаўляе рашэнне «аб зьняцці Ігнатоўскага з паста Прэзідэнта АН БССР аформіць у савецкім парадку ў відзе аслабанення яго ад гэтай пасады згодна яго просьбе». Подпіс — Гей. Нечаканы паварот. Чым абумоўлены ён? Не хапала доказаў віны Ігнатоўскага? Сцерагліся непажаданай рэакцыі з боку камуністаў, інтэлігенцыі? Непакоіліся аб гонары мундзіра? Усяго патроху, але галоўны разлік, угадваецца, быў іншы: пасля бязлітаснага ціску, суровых абвінавачванняў, звальнення з пасады зноў абудзіць надзею на больш-менш паспяховы зыход справы і на гэтым псіхалагічным зломе падштурхнуць на пакаянне ў неіснуючых грахах, на самаагавор і агавор сяброў.

Не выпадкова, відаць, ужо на наступны дзень Ігнатоўскага зноў выклікаюць у Цэнтральную кантрольную камісію. Пытанні задаваў сакратар ЦК КП(б)Б Шаранговіч: «Каго вы лічыце правай групай?» Ігнатоўскі: «Я думаю, што гэта Наркамасветаўская група: Ільючонак, Стасевіч, Каранеўскі, Баліцкі, Жылуновіч». Шаранговіч: «А Чарвякоў?» Ігнатоўскі: «Блізкі, але сам у гэтай групе не быў. Ён той, на каго група ставіла стаўку...» Шаранговіч: «А группа Ігнатоўскага — Чарвякова?» Ігнатоўскі: «Такой не існавала». Шаранговіч: «Вы належалі да групы Жылуновіча, так?» Ігнатоўскі: «Ніколі»...

Апраўдаўся, на жаль, разлік. Разлік на векавечнае супярэчанне бязмежнай моцы духу чалавека і слабасці

яго плоці, яго псіхікі, на супярэчанне між абавязкам справе і доўгам перад блізкімі, роднымі, страх за іх жыццё і лёс. Ні вінаваціць, ні папракаць з нашага далёку тых, хто не вытрымаў, хто аступіўся пад уціскам нечалавечых абставін, жорсткай траўлі, не трэба. Нельга. Не маем маральнага права. Але знаць і памятаць — абавязаны. І вывучаць, разбірацца, рабіць вывады.

Аўтарытарна-бюракратычнай сістэме для ўмацавання і спакойнага доўгачасовага існавання патрэбен быў і чалавек іншага складу: чалавек пакорлівы, канфарміст, які б бачыў свет не такім, які ён ёсць на самай справе, а такім, як прадпісана, як унушаецца, чалавек здатны да мімікрыі, здольны казаць іншае, чым думае, і рабіць, дзейнічаць па загаду. І не мае значэння, ці шчыра перакана્ны такі чалавек у маральнасці сваіх учынкаў, ці скараецца перад сілай, свядома прыкідваецца. Шчыры — тым лепш, зламаўся — бясшкодны і нават зручны прыстасаванец — на самыя тонкія брудныя справы яго. Сцвярджаючы сябе, такая сістэма такога чалавека і стварыла: выпальваючы душу і сумленне адвечным страхам за жыццё сваё і сваіх блізкіх, знішчаючы ўзнёслыя імкненні, уцягваючы ў амаральныя справы, падыгрываючы слабасцям і амбіцыям, спекулюючы на высокіх ідэалах і мэтах. І дасягнула ў тым немалых поспехаў. Нават на пачатковым этапе свайго ўсталявання. І нават у адносінах да такіх неардынарных і незалежных асоб, як Ігнатоўскі, Чарвякоў, Жылуновіч.

Зрэшты, у самой накіраванасці першых udараў таксама быў свой дакладны разлік: пачаць з лепшых, найбольш разумных, аўтарытэтных менавіта ў структурах улады, у партыі, з інтэлігенцыі. Гэта значыць, знішчыць, калі не фізічна, дык маральна перш за ўсё тых, хто мог аналізаваць, зразумець патаемную сутнасць сталінскага «крутого перелома», быў здольны на супраціўленне і, такім чынам, уяўляў найвялікшую небяспеку. Але разам з тым і запалохаць, даць мадэль паводзін, узор для пе-

раймання. Калі ўжо з прызнанымі аўтарытэтамі, вядомымі дзеячамі, так абышліся, то што будзе з намі, людзьмі маленькімі. Калі ўжо яны не вытрымалі, каюцца, узводзяць нагавор на сябе і сяброў сваіх, то нам лепш сядзець цішком — маўчком, маліцца, каб пранесла. І данос ужо не данос, а грамадзянскі ўчынак.

З Ігнатоўскім, аднак, выйшла асечка. Не вытрымаўшы на нейкі момант арганізаванай супраць яго траўлі, ступіўшы крок-другі за мяжу сумлення, ён хутка зразумеў, што там, за гэтай мяжой, яго чакае непазбежная палітычная, маральная смерць. Магутны дух атрымаў перамогу над кволай плоццю. Ён быў адным з першых, хто здолеў пранікнуць у сутнасць палітычнага перавароту Сталіна на самым пачатку яго, як і ў сэнс гульні з сабой. І абарваў яе. Цаной уласнага жыцця.

# «ЛЕПЕЙ СМЕРЦЬ ФІЗІЧНАЯ...»

Да сярэдзіны студзеня 1931 года распачатае згодна з пастановай кастрычніцкага (1930 года) пленума ЦК КП(б)Б, партыйнае расследаванне справы У. Ігнатоўскага было закончана. 16 студзеня адбылося пасяджэнне Прэзідыума і Парткалегіі ЦКК КП(б)Б. Прынятая на ім пастанова не толькі пацвердзіла, але і ўзмацніла, пашырыла ўсе да адзінага абвінавачванні, што інкрымінаваў У. Ігнатоўскаму пленум:

«1. Паходзячы з сацыяльна-чуждага асяродку, будучы доўгі час членам мелкабуржуазных партый, якія праводзілі актыўную контррэвалюцыйную барацьбу супраць дыктатуры пралетарыяту, маючы за сабой такое яскравае контррэвалюцыйнае выступленне, як удзел у рэдагаваньні і складаньні зборніка, прысвечанага юбілею дома Раманавых (1913 г.), зрабіўшы заявярэньне аб поўным

разрыве з мінулым і жаданьні шчыра змагацца ў радах КП(б)Б,— Ігнатоўскі ўвайшоўшы ў партыю, ня толькі не праадалеў перажыткаў антыпралетарскага светапогляду, ня толькі не стаў цалкам і поўнасцю на пазіцыі марксісцка-ленінскай ідэолёгіі, а захаваў свае ранейшыя мелкабуржуазныя погляды і ідэі контррэвалюцыйных партый.

2. У сувязі з агульнай палітычнай сваёй лініяй, Ігнатоўскі, стоячы на мелкабуржуазных ідэолёгічных пазіцыях і адбіваючы ідэі буржуазна-кулацкага нацыянал-дэмакратызму ў сваіх літаратурных тэарэтычных і гістарычных работах адстойваў антыпартыйныя і антыпралетарскія палажэньні (падмену клясавай барацьбы нацыянальнай, тэорыю адраджэнчаства, тэорыю адсутнасці эксплуататарскіх клясаў у Беларусі, адмаўленьне пралетарскага характару Кастрычніцкай рэвалюцыі і Савецкай улады, затушоўваньне ролі партыі бальшавікоў і ідэалізацыі ролі мелкабуржуазных партый і г. д.).

Больш таго, з палітычнаю мэтаю, ва ўгоду беларускаму нацыяналізму і падвышэньня рэвалюцыйных заслуг сваёй групы (Беларускай камуністычнай арганізацыі) Ігнатоўскі ня грэбаваў фальсіфіцыраваць гістарычныя факты, затушоўваючы сапраўдны партызанскі рух пад кіраўніцтвам КП(б)Б у перыяд польскай акупацыі, тэндэнцыйна адабражаючы ролю мнімага партызанскага руху, быццам кіруемага ім і яго групай у тэй час, як у сапраўднасці гэтага не было.

3. У сваёй практычнай дзейнасці на адказных пастах (НКАсьветы; старшыня Інбелкульту і потым Прэзідэнт Акадэміі навук) — Ігнатоўскі замест партыйнага кіраўніцтва і забеспячэння правядзення лініі партыі ў рабоцэтых органаў, служыў шыльдай для прыкрыцця варожай справе пралетарыяту работы і сродкам антысавецкіх планаў нацдэмаўскіх контррэвалюцыйных элементаў і ператварэньня БАН у плацдарм для контррэвалюцыйных дзеянняў нацдэмаўскай арганізацыі і г. д.), выконваючы ў культурна-нацыянальным будаўніцтве ролю ку-

лацкага агента, аналагічную ролі Прышчэпава ў зямельных органах.

4. Прымаючы ўдзел у так называемых сямейных вечарах, наладжваемых контррэвалюцыйнай групай нацыянал-дэмакратаў, якія насілі на самай справе палітычны характар і служылі мэтам нацдэмаўскай контррэвалюцыйнай работы (здабывання ўсялякага роду звестак аб важнейшых рашэннях савецкіх і партыйных органаў, расстаноўка нацдэмаўскіх сіл у розных установах, распалажэння да сябе кіруючых партыйных і савецкіх кадраў і г. д.)— Ігнатоўскі не толькі губіў свой палітычны твар члена партыі і члена Бюро ЦК, не толькі не даваў адпору адбываўшымся антыпартыйным і антысавецкім гутаркам, але і сам прымаў удзел у гэтым і часта разглашаў ім сакрэтныя рашэнні партыі і савецкіх органаў...

6. Ігнатоўскі за ўвесь час прабываньня свайго ў партыі вёў групавую барацьбу ў партыі супраць правільнай нацыянальнай палітыкі партыі, супрацьпастаўляючы ёй сваю нацыяналістычную лінію, групуючы вакол сябе нацыяналістычна настроеных элементаў у КП(б)Б, выхадцаў з вялікабуржуазнага асяродку, абапіраючыся ў сваёй барацьбе з партыяй на нацдэмаўскую контррэвалюцыйную інтэлігенцыю...

У мэтах практычнага ажыццяўленьня уплыву нацыяналістычных элементаў у радох КП(б)Б — Ігнатоўскі падбіраў найбольш блізкіх свайму светапогляду людзей, з мэтаю прасоўваньня іх у розныя савецкія і нават партыйныя органы.

Акрамя таго, Ігнатоўскі пераносіў групавую барацьбу таксама і ў рады КП(б)Б, супроцьстаўляючы і там нацыянальна настроеныя элементы правільнай лініі партыі.

7. На працягу свайго прабываньня ў КП(б)Б Ігнатоўскі пад даўленьнем партыі неаднаразова прызнаваў свае памылкі і антыпартыйныя і антыпралетарскія ўстаноўкі, кожны раз абяцаючы выправіць іх і не паўтараць. Аднак, як гэта з відавочнасьцю ўстаноўлена ў сучасны момант, што

нягледзячы на свае завярэньні і прызнаньні перад партыяй,— працягваў фактычна нацыяналопортуністычную дзейнасць, уводзіў партыю ў заблуду і тым самым ашукваў і здраджваў партыі».

Адпаведны абвінавачванням быў і прысуд:

«У. М. Ігнатоўскага, як нязжыўшага антыпралетарскага светапогляду антысавецкіх партый, як свядома праваДзіўшага на працягу ўсяго перыяду прабывання ў партыі нацыянал-дэмакратычную ўстаноўку ў сваёй рабоце, з'яўляючагася фактычна кулацкім агентам у партыі, як ашукваўшага партыю пакаяннымі заявамі, прыкрываючы імі працяг сваёй групавой антыкамуністычнай дзейнасці ў радох КП(б)Б і як чуждага элемента, адыгрываўшага на руку нацдэмаўскай контррэвалюцыі,— з радоў КП(б)Б выключыць».

Пастанову падпісалі старшыня ЦКК КП(б)Б А. Калнін і сакратар Партыйнай калегіі ЦКК А. Рыськін.

Пастанова гэта адметная перш за ўсё канцэнтраваным пералікам «злачынстваў» канкрэтнай асобы — У. Ігнатоўскага, разам з тым характэрная і сваім выразным вызначэннем тых асноўных кірункаў і блокаў абвінавачванняў, якія хутка стануць тыповым узорам для ўсіх іншых аналагічных «спраў». Гэта і паходжанне з сацыяльна-варожага асяродку, і контррэвалюцыйная дзейнасць да 1917 года, якая аўтаматычна перарастала ў антысавецкую, антыпралетарскую пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, гэта і ўдзел у антыпартыйнай групавой барацьбе, і свядомы падман партыі лжывымі пакаяннямі, і нарэшце, выдаванне сакрэтаў, і сувязь з замежнымі нацыянал-фашыстамі (без малога ўжо — абвінавачванне ў шпіянажы, якое ў хуткім часе стане самым распаўсюджаным). Аўтарытарная сістэма набывала свой стыль і прыёмы хуткай расправы з іншадумцамі. Таму не здзіўляе амаль тэкстуальнае супадзенне яе з пастановай па справе З. Жылуновіча, выключанага з партыі на гэтым жа пасяджэнні. Сябры паднімаліся на сваю Галгофу разам. Менавіта сябры, а

не непрыяцелі, як сцвярджалі абодва ў ходзе следства. Яшчэ можна напісаць да юбілею непрыяцеля артыкул, зыходзячы з палітычных ці нейкіх іншых кан'юнктурных меркаванняў (чым, дарэчы, і апраўдваўся Жылуновіч перад ЦК), але нельга прысвяціць яму верш. Для гэтага трэба, найменш, паважаць чалавека, а хутчэй за ўсё — любіць яго. А такі верш з паказальнай назвай «Беларускі народ» у 1924 годзе Жылуновіч напісаў і нідзе ні разу ў ходзе следства словам аб ім не абмовіўся.

Вялі іх да згубы разам. Ды толькі адзін уласнаручна скараціў свой шлях. Мог бы яшчэ пажыць гадоў 6—7. Смерць яшчэ не стаяла за плячыма. Але як пажыць? Прыгнечанаму, зняслаўленаму, без права на ўласныя думкі, на сваё бачанне гісторыі, з цяжарам маральнага здрадніцтва сабе, таварышам, справе... Да таго ішло, іншага яму не пакідалі.

Разам з тым, як ні парадаксальна, за знішчальнымі фармулёўкамі пастановы бачыцца і перамога волі, розуму Ігнатоўскага. Як ні стараліся, але залічыць яго нават проста ў члены СВБ, тым больш зрабіць кіраўніком, не ўдалося, гэтак жа, як і арганізатарам антыпартыйнай групоўкі.

Можа, у тым і была адна з прычын, якая абумовіла працяг яго справы, пошук новых доказаў яго віны, новых кампраметуючых учынкаў.

22 студзеня 1931 года Бюро ЦК КП(б)Б зацвердзіла рашэнні Прэзідыума і Парткалегіі ЦКК КП(б)Б аб выключэнні У. Ігнатоўскага з партыі з двума дапаўненнямі: «Змясціць пастанову ў друку», «Лічыць неабходным далейшае высвятленне ЦК КП(б)Б пытання сецэсіі ў КПЗБ і ролі Ігнатоўскага ў гэтай справе». Так усплыла даўняя, 1924 года, справа. Многае з яе да канца незразумелае і сёння. Сецэсія ў КПЗБ — такую назву атрымала група ў Цэнтральным камітэце, якая выступіла за змену тактычнай лініі партыі і прапанавала ў супрацьлегласць ёй новую, скіраваную на падрыхтоўку ўзброенага паўстан-

ня з мэтай далучэння Заходняй Беларусі да БССР. Ідэя, аднак, выклікала вострую крытыку і была адхілена. Тым не менш група, перакананая ў сваёй праваце, не падпарадкавалася волі большасці і ў парушэнне партыйнай дысцыпліны выступіла супраць адзінай Кампартыі Польшчы, каардынацыі рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. Сецэсія была асуджана кіраўніцтвам КПЗБ, КПП і Камінтэрна. Частка яе прыхільнікаў прызнала памылкі і да вясны 1925 года вярнулася ў партыю. Па свежых слядах парттройка ЦКК КП(б)Б разгледзела пытанне аб адказнасці за сецэсію Ігнатоўскага, Чарвякова, Ілючонка і Камлюка, якія па абавязку членаў замежнага бюро падтрымлівалі сувязі з КПП і КПЗБ, аказвалі ім дапамогу. Абмежаваліся абмеркаваннем. Вяртанне да гэтай справы праз пяць год і новае, на гэты раз жорсткае абвінавачванне — у падтрымцы сецэсіі, выглядае штучна падтасаваным. Тым больш, што замежнае бюро пастаянна ўзначальваў сакратар ЦК КП(б)Б (у той час Багуцкі і Асаткін), а абвінавачванне выстаўлялася толькі Ігнатоўскаму.

Пасяджэнне Бюро ЦК КП(б)Б 16 студзеня несла ў сабе яшчэ адну драму, якая, аднак, ні ў чым не праявілася вонкава, а была перажыта моўчкі, у душы, двума яе ўдзельнікамі. Знак аб ёй — імя А. Чарвякова, зафіксаванае пратаколам у спісе прысутных. Можна толькі здагадвацца, што адчуваў, аб чым думаў Аляксандр Рыгоравіч, калі сакратар Парткалегіі ЦКК Арон Барысавіч Рыськін дакладваў змест пастановы камісіі. Сваё бяссілле што-небудзь змяніць, чым-небудзь дапамагчы? Спадзяванне, што гэта не апошні ўдар звана, што ёсць яшчэ магчымасць неяк палегчыць становішча свайго сябра, аднадумцы і паплечніка, выратаваць іх сумесную справу пасля, іншымі сродкамі? Ці не падмывала яго, забыўшыся на ўсё, кінуцца на злом галавы ў адкрытую абарону, стаць побач? Так бы і зрабіць. Яму, другому, трэцяму. Глядзіш, тады і галовы б ацалелі, і сталіншчыне была б

пастаўлена заслона. Не падняўся, прагаласаваў разам з усімі.

Гісторыя адбылася. Хаця і ў адным са сваіх магчымых варыянтаў, аднак канчаткова, пакідаючы ў спадчыну толькі ўрокі свае. Адзін з іх: нельга, ні ў якім разе нельга ставіць чалавека ў нечалавечыя ўмовы, перад нечалавечым выбарам. І другі: таталітарызм ва ўсіх яго формах, у любыя колеры прыбраны,— варожы чалавеку. Ён калечыць яго душу, пазбаўляе волі думаць, душыць талент, ламае лёсы асобных людзей і кідае ў крызіс людскія супольнасці, краіны. І яшчэ: калі ўжо выпала доля твая на такую эпоху, калі ўжо паставіў час цябе перад выбарам, калі змог да таго ж здагадацца, зразумець, у якую бездань хіліцца вектар палітыкі — не прыстасоўвайся да яго, не кайся ў неіснуючых грахах у спробе такім чынам выратаваць сябе і сваіх блізкіх. Не здраджвай ні сабе, ні ім. Не дапаможа: смерць — маральная ці фізічная — усё роўна спасцігне цябе. Супраціўляйся і трымайся, бі ў набат. І тады хутчэй зразумеюць іншыя і стануць побач. І толькі так магчыма выратаванне. Мараль, якая аплачана горкім вопытам Ігнатоўскага, Жылуновіча, Чарвякова, мільёнаў ахвяр сталіншчыны,— у слабасці і мужнасці іх.

Пасяджэнне Бюро ЦК КП(б)Б 22 студзеня 1931 года завяршыла сціслы па часе — няпоўныя тры гады — і бясконца доўгі, па жудаснаму зместу свайму, па нерваваму напружанню, этап у жыцці Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага. За гэтыя тры гады з яго — паважанага, вядомага ў рэспубліцы чалавека, партыйнага і дзяржаўнага дзеяча, аўтарытэтнага вучонага — зрабілі двурушніка і класавага ворага, контррэвалюцыянера і нацдэма, пазбавілі не толькі пасад, але і магчымасці творчай працы, падвялі да апошняй рысы. Жыць яму заставалася два тыдні.

24 студзеня 1931 года пастанова Бюро ЦК у пераказе была надрукавана ў перадавым артыкуле газеты

«Звязда», на наступны дзень — у газеце «Рабочий». У такіх публікацыях быў свой сэнс і дакладны разлік. У людскіх вачах падтрымліваўся штучны вобраз дэмакратызму ўлады, яе прынцыповасці і рашучасці ў барацьбе з ворагамі, нягледзячы ні на іх пасады, ні на іх былыя заслугі. Разам з тым вакол падвергнутага публічнаму астракізму імгненна стваралася зона адчужанасці, падазронасці і страху: знаёмыя пазбягалі сустрэч, змаўкаў тэлефон.

Своеасаблівая форма маральнага ціску, якая пазбаўляла чалавека апоры і арыенціраў, кідала ў стан псіхічнай няўстойлівасці, пакоры лёсу. Тым лягчэй ім было маніпуліраваць, прымусіць даць патрэбныя паказанні.

Таго ж дамагаліся і ад У. Ігнатоўскага. Яго пачынаюць выклікаць на допыты ў АДПУ. Пасля аднаго з такіх допытаў, які адбыўся 3 лютага 1930 года, на дзень наступны ён застрэліўся. Заява старэйшага сына У. Ігнатоўскага Міхаіла ў ЦКК ВКП(б) ад 11 ліпеня 1931 года і яго ж хадайніцтва ў канцы 50-х гадоў на імя Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР К. Варашылава аб рэабілітацыі бацькі даюць нам некаторыя дадатковыя звесткі аб апошніх гадзінах жыцця Усевалада Макаравіча. Сын сведчыць, што прыйшоў яго бацька з допыту маральна і фізічна падаўлены. Раніцай 4-га тэлефанаваў сакратару ЦК КП(б)Б (К. Гею?), прасіў тэрмінова прыняць яго, але атрымаў адказ. Паскардзіўся родным, што на допыце ў АДПУ вымушаны быў падпісаць паказанні, якія па многіх пунктах не адпавядалі сапраўднаму становішчу. Зрабіў ён гэта таму, што яго доўга дапытвалі, абыходзіліся з ім груба, ён стаміўся і, не маючы апраўдальных дакументаў, не змог абвергнуць шэраг абвінавачванняў. Потым падняўся на другі паверх у свой кабінет, адтуль у хуткім часе і пачуўся глухі стрэл.

У чым жа прымусілі прызнацца Усевалада Макаравіча, пасля чаго ён вырашыў для сябе маральна немагчымым жыць? «Пратакол допыту У. М. Ігнатоўскага ад 3/II-1931 г.», які захаваўся ў архіве, дае магчымасць ад-

казаць нарэшце і на гэта пытанне. Аднак з сур'ёзнымі агаворкамі, вынікаючымі з характару дакумента. Па-першае, гэта не пратакол у строгім сэнсе слова, а заключэнне следчага, у якім сцісла выкладзены асноўныя прызнанні У. Ігнатоўскага ў ходзе допыту. Яно так і пачынаецца: «Я, начальнік сакрэтнага аддзела Аргаў, дапытаў Ігнатоўскага У. М., які паказаў наступнае» (і далей пераказ па пунктах). Па-другое, пратакол не падпісаны ні Ігнатоўскім, ні Аргавым, пад ім ёсць толькі подпіс старшага ўпаўнаважанага аддзела Сікорскага. Магчыма дапусціць, што Ігнатоўскі сапраўды ў ходзе допыту пацвердзіў (не мог абвергнуць) пад уціскам патрэбныя следчым абвінавачванні, а потым апамятаўся і падпісаць іх адмовіўся. Не выклікае сумнення, што «прызнанні» Ігнатоўскага былі Аргавым інтэрпрэтаваны і дапоўнены ў адпаведнасці з агульнай палітычнай лініяй на разгром нацыянал-дэмакратызму і з версіяй «справы СВБ». Занадта ж вялікія супадзенні.

Цяпер канкрэтна. Згодна пратаколу, Усевалад Макаравіч прызнаў, што з моманту ўступлення ў партыю ён вёў свядомую двайную гульню ў інтарэсах ажыццяўлення ідэалаў беларускай контррэвалюцыйнай інтэлігенцыі. Зыходзячы з гэтага, перад самым уступленнем у бальшавіцкую партыю дамовіўся з лідэрамі нацыянал-дэмакратычнага руху, сваімі сябрамі па эсэраўскай партыі, у прыватнасці Пятром Крэчэўскім перад яго адыходам з Мінска за кардон аб сумеснай, хаця і на розных палітычных напрамках, працы на карысць агульнай беларускай справе. Пацвердзіў паказанні А. Цвікевіча, што разышоўся ён з Крэчэўскім па формуле: «Ты ідзі працаваць для Беларусі на Захад, а я пайду працаваць — на Усход». Гэтак жа, як словы І. Цвікевіча, які перадаў чутае ім за мяжой ад палітычных сяброў Ігнатоўскага па эсэраўскай партыі: «Калі мы пакідалі Мінск, то Ігнатоўскі казаў нам: нічога, хлопцы, мы будзем тут лаяць вас, а вы за граніцай лайце нас, ад гэтага агульная беларуская справа толькі

выйграе». Па гэтай прычыне, чытаем мы далей у пратаколе, ён быў незадаволены вяртаннем белаэмігрантаў у БССР, што вяло да аслаблення антысавецкай крытыкі беларусізацыі і тым самым пазбаўляла яго і яго аднадумцаў у партыі «ставіць пытанне аб беларусізацыі ў нацыянал-дэмакратычным разрэзе». Прызнаўся Ігнатоўскі і ў сваёй разам з Чарвяковым двайной ролі ў справе сецэсіі ў КПЗБ: быццам бы ў сваёй перапісцы са Стэхам Маразоўскім употай ад ЦК КП(б)Б, ад сакратара ЦК Асаткіна, яны спрыялі расколу партыі.

Вось, уласна кажучы, і ўсё, што ўдалося выцягнуць з Ігнатоўскага следчым АДПУ. Па сутнасці нічога новага і не так ужо і многа, асабліва ў параўнанні з паказаннямі іншых. Але для сумленнага чалавека з абвостраным пачуццём уласнай годнасці і моцнай воляй, для чалавека, які разумеў, што гэтым справа не абмяжуецца, што ад яго будуць патрабаваць усё новых і новых прызнанняў,— і гэтага было даволі. І ён націснуў курок браўнінга.

Яшчэ жыў некалькі гадзін, яшчэ паспелі адвезці яго ў 1-ю Савецкую бальніцу. У сям'і старэйшага сына Міхаіла захаваўся арыгінал даведкі з бальніцы з заключэннем судова-медыцынскай экспертызы: «Памёр 4 лютага 1931 года, дыягназ — скразная страляная рана галавы».

Хавалі У. Ігнатоўскага паспешліва. Абвясцілі ўлады пахаванне а 14-й гадзіне, цела ж па іх загаду амаль што ўпотай вынеслі а 10-й. Баяліся агалоскі абставін смерці, ператварэння жалобнай працэсіі ў дэманстрацыю пратэсту? Не выключана. На вызначаны час пахавання людзей сабралася многа. Ва ўсякім разе зону адчужанасці і падазронасці вакол яго стварыць не ўдалося.

Ніхто не чакаў гэткай хуткай і трагічнай развязкі: ні родныя (акрамя, можа, толькі жонкі, якая ж нездарма ўпотай ад мужа схавала два яго пісталеты, але не ведала, што ў шуфлядзе пісьмовага стала сярод папер ляжаў яшчэ і браўнінг), ні сябры, ні ворагі. Па вуснаму паданню, якое дайшло да нашых дзён, Чарвякоў, калі яму

паведамілі аб самагубстве Ігнатоўскага, страціў прытомнасць. Занерваваліся і арганізатары «справы Ігнатоўскага». Сакратар ЦК КП(б)Б К. Гей адбіў на імя Сталіна тэлеграму: «Ігнатоўскі памёр днём 4-га лютага праз некалькі гадзін пасля выстралу». Ёсць над чым задумацца: тэлеграма асабіста Сталіну аб самагубстве чалавека, ранг якога па афіцыйнай іерархіі падставу для такой «увагі» не даваў. Ці не высвечвае гэты факт імя таго, хто непасрэдна стаяў як за «справай Ігнатоўскага», так і за «справай СВБ», наогул за усёй кампаніяй выкрыцця нацыянал-дэмакратызму ў Беларусі?! Пэўна інакш і быць не магло: галоўны архітэктар і кіраўнік палітычнага перавароту павінен быў пільна сачыць за ходам падзей на ўсіх вызначаных ім кірунках, унікаючы нават у дэталі, асабліва на першапачатковым этапе, калі зыход усёй задумы быў яшчэ далёка не прадвызначаны.

Факт гэты — ад адваротнага — высвечвае і тую ролю, якая належала Ігнатоўскаму ў выпрацоўцы і ажыццяўленні нацыянальнай, культурнай палітыкі ў Беларусі. Змяніць яе, надаць ёй іншы змест і сэнс было немагчыма без папярэдняй нейтралізацыі аднаго з галоўных яе ідэолагаў і творцаў. Не выпадкова, што самагубства Ігнатоўскага прымусіла трохі прыцішыць кампанію выкрыцця нацдэмаў, хаця б у самой Кампартыі Беларусі, часткова зняць і часткова змякчыць абвінавачванні ў яго ўласны адрас. 21 лютага 1931 года ЦКК ВКП(б) запатрабавала ад ЦКК КП(б)Б матэрыялы аб У. Ігнатоўскім. Ужо назаўтра ў Маскву была накіравана дакладная запіска на 28 старонках «О связи отдельных членов КП(б)Б с нацдемовской контрреволюционной организацией и об антипартийных группировках в КП(б)Б» — у ЦКК ВКП(б) і асабіста Л. Кагановічу (апошняе гэтак жа паказальна, як і тэлеграма Сталіну). У запісцы гаворка галоўным чынам ідзе аб групавой барацьбе ў рэспубліканскай партыйнай арганізацыі, якая вялася А. Крыніцкім (сакратаром ЦК КП(б)Б з 1924 па 1927 гг.), А. Чарвяковым, І. Ада-

мовічам, І. Васілевічам. З усіх абвінавачванняў, што раней прагучалі ў адрас Ігнатоўскага, тут пакінута толькі адно: арганізацыя групаўшчыны. У яго групу, як гэта падавалася ў запісцы, уваходзілі І. Адамовіч, З. Жылуновіч, І. Каранеўскі, А. Бурбіс, Б. Стасевіч, і арыентавалася яна на А. Чарвякова.

Лічыць, што ў партыі, у кіруючых яе эшалонах існавала поўная аднадушнасць, не выпадае. Гэтак жа натуральна, што пры абмежаванні ўнутрыпартыйнай дэмакратыі, легальных магчымасцей выказваць і адстойваць свае погляды, сваё разуменне той ці іншай праблемы, шляхоў і сродкаў яе вырашэння, павінна была ўзнікнуць і скрытная барацьба паміж членамі партыі з адпаведнай іх групоўкай па інтарэсах. Але гэтак жа відавочна, і дакументы тое пацвярджаюць, што якога-небудзь выразна акрэсленага арганізацыйнага афармлення яны не мелі. Тым больш не былі яны антыпартыйнымі, палітычна скіраванымі супраць Савецкай улады. У сваім выступленні на кастрычніцкім пленуме А. Чарвякоў прызнаў наяўнасць пэўнай групавой барацьбы ў ЦК КП(б)Б, але лічыў, што ўзнікла яна на глебе міжасабістых непаразуменняў між першым сакратаром ЦК А. Крыніцкім і старшынёй СНК І. Адамовічам, вакол якіх і згуртаваліся іх прыхільнікі. Фактаў кваліфікаваць сітуацыю як-небудзь інакш не знайшоў і Сакратарыят ЦК ВКП(б). Абодва былі прызнаны аднолькава вінаватымі, абодва былі адазваны з Беларусі і накіраваны на высокія пасады ў РСФСР. Лёс іх абарвецца ў 1937 годзе. Прычым, Крыніцкага, рускага па нацыянальнасці, побач з належнасцю да праватрацкісцкай тэрарыстычнай групы ў Саратаве (дзе ён у той час працаваў сакратаром крайкома партыі) абвінавацяць яшчэ і ў беларускім нацыянал-дэмакратызме, у шпіянажы на карысць польскай дэфензівы, з якой яго нібыта звязаў Вацлаў Ластоўскі.

Не вытрымлівае праверкі дакументамі і сцвярджэнне, што Ігнатоўскі, Чарвякоў, Жылуновіч складалі адну

антыпартыйную групоўку, а Васілевіч са сваімі прыхільнікамі — другую. Ігнатоўскі наогул не мог узначаліць групоўку ў партыйным кіраўніцтве рэспублікі хаця б па той простай прычыне, што да лістапада 1924 года не ўваходзіў у склад Бюро ЦК.

Разам з тым, з улікам таго новага, што адкрылася нам у складанай савецкай гісторыі 20—30-х гадоў, адмаўляць цалкам наяўнасць пэўнага размежавання і групавой барацьбы ў кіруючых эшалонах КП(б)Б ці тлумачыць яго толькі міжасабістымі адносінамі таксама не выпадае. Толькі водападзелы праходзілі зусім не там, дзе праводзілі іх некалі творцы аўтарытарна-бюракратычнай сістэмы. Галоўны водападзел праходзіў якраз між гэтымі творцамі і тымі, хто ім супрацьстаяў. Паміж, адпаведна, прыхільнікамі курсу на пераўтварэнне СССР у цэнтралізаваную унітарную дзяржаву і прыхільнікамі добраахвотнага аб'яднання ў федэрацыю нацыянальных суверэнных рэспублік, прыхільнікамі палітыкі беларусізацыі. Першыя маскіравалі свой курс пад сцягам пралетарскага, сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, другія, на жаль, не змаглі да канца разабрацца ў сутнасці навязваемага перавароту ў нацыянальнай палітыцы і не паспелі пад ударамі карных органаў па-сапраўднаму згуртавацца, арганізаваць супраціўленне, разгарнуць барацьбу. І таму не выпадкова, што менавіта яны былі па знешніх, калі праўдападобных, а калі і цалкам сфальсіфікаваных прыкметах, штучна разбіты, злучаны і супрацьпастаўлены адзін аднаму ў розных групоўках. Калі ўчытацца ў персанальны склад так званых груповак, то можна заўважыць, што ўсе іх «члены» якраз і былі прыхільнікамі курсу нацыянальнага адраджэння. Хаця і з пэўнымі, нярэдка істотнымі разыходжаннямі ў разуменні яго мэтаў, зместу і сродкаў ажыццяўлення. Адбываліся на гэтай падставе і сутыкненні, спрэчкі, што таксама было ўмела выкарыстана сталінскай камандай.

Але паколькі гульня вялася на падставе падмены па-

няццяў, недазволенымі сродкамі, то пакуль аўтарытарная сістэма не ўмацавалася, сітуацыя для яе творцаў была няўстойлівай. І любы смелы ўчынак нёс у сабе пагрозу іх задуме. Прыходзілася часова адступаць, манеўраваць. Рэакцыя на спробу самагубства Купалы, на самагубства Ігнатоўскага, на праявы скрытага, даволі слабага, непаслядоўнага супраціўлення сталінскаму павароту ў палітыцы з боку часткі членаў ЦК КП(б)Б, беларускай інтэлігенцыі — таму пацвярджэнне.

Не рызыкнулі пайсці на інсцэніроўку адкрытага судовага працэсу над СВБ (па ўзору працэса над «Саюзам вызвалення Украіны», што праходзіў у Кіеве), адмовіліся ад першапачатковых планаў на арышт «некалькіх сотняў чалавек», разбілі разгляд справы на два этапы. Спачатку 18 сакавіка 1931 года на пасяджэнні калегіі АДПУ судзілі толькі чатырох чалавек (наркома земляробства З. Прышчэпава, наркома асветы А. Баліцкага, загадчыка аддзела выдавецтва «Беларусь» П. Ільючонка, Адамовіча А.), а затым ужо, 10 красавіка,— астатніх 86 чалавек, арыштаваных па справе СВБ. Сярод апошніх былі С. Некрашэвіч, В. Ластоўскі, І. Лёсік, І. Краскоўскі, А. Цвікевіч, А. Смоліч, А. Галавінскі і інш. Прычым, паказальны факт: першая чацвёрка — камуністы, адказныя партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі, былі асуджаны на 10 год лагераў, а большасць з 86 чалавек, у тым ліку і тыя, каго «ўзвялі» ў кіраўнікі СВБ,— да 5 гадоў высылкі. Па логіцы павінна было б быць наадварот. Лішні доказ, што менавіта сумленныя, здольныя на самастойную думку камуністы ўяўлялі для стваральнікаў рэжыму асабістай улады найбольшую небяспеку. На іх і быў скіраваны самы жорсткі ўдар.

25 сакавіка 1931 года Прэзідыум ЦКК ВКП(б) прыняў «Рэзалюцыю па справе беларускіх нацыянал-дэмакратаў». Ацэнка Ігнатоўскаму ў ёй у параўнанні з дакладной запіскай ЦК КП(б)Б (групавая барацьба) была заменена на іншую. Ён упамінаецца толькі ў ліку дзеячаў (А. Ба-

ліцкі, А. Адамовіч і інш.), якія служылі прыкрыццём «контррэвалюцыйнай буржуазна-нацыяналістычнай інтэлігенцыі» і сканцэнтравалі «ў сваіх руках частку работы па нацыянальна-культурнаму будаўніцтву (выдавецкая справа, Акадэмія навук, перападрыхтоўка настаўнікаў і некаторыя іншыя)». Характэрна, што ацэнкі змякчаліся ў дакументах сакрэтных, прызначаных толькі для абмежаванага кола вышэйшага партыйнага кіраўніцтва. Яшчэ не былі ўпэўнены ў сваёй моцы, у падтрымцы на месцах нават тых, на каго абапіраліся. Аднак і назад справу не адкруцілі.

На заяву сына Ігнатоўскага сакратар ЦКК ВКП(б) М. Шкіратаў у пісьме ў ЦКК КП(б)Б і М. Ігнатоўскаму ад 2 ліпеня 1931 года адказаў, што Прэзідыум Цэнтральнай кантрольнай камісіі, зыходзячы з матэрыялаў справы У. Ігнатоўскага, падстаў для перагляду справы не знайшоў *. Няўпэўненасць, аднак, цягнулася нядоўга. Рэжым асабістай улады набіраў моц, адпаведна таму нарошчвалі абароты створаныя ім прапагандыская і карная машыны. У 1931 годзе ў рэспубліцы прымаецца пастанова «Аб узмацненні барацьбы з ухіламі ў нацыянальным пытанні». У 1932 годзе — «Аб фактах прасочвання класава варожых нацыянал-дэмакратычных уплываў у мастацкую літаратуру». У той жа год «выкрываецца» контррэвалюцыйная шкодніцкая група ў Наркамаце земляробства і Трактарным цэнтры, на наступны — у Белдзяржзабеспячэнні. Але і аб нацдэмах не забываюць: «выкрыццё» контррэвалюцыйнай арганізацыі, так званага «Беларускага нацыянальнага цэнтру» (БНЦ) — сур'ёзны напамін. У красавіку 1933 года праводзіцца чыстка рэспубліканскай партыйнай арганізацыі: выключана 6 тысяч чле-

* Адзначым, што першая аб'ектыўная даведка аб дзейнасці і творчасці У. Ігнатоўскага, поўная неаргументаванасці ўсіх абвінавачванняў у яго адрас, была падрыхтавана супрацоўнікамі Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ У. Міхнюком і М. Сташкевічам у 1979 годзе. Аднак рашэння па ёй у той час прынята не было. І толькі перабудова, галоснасць далі гісторыкам магчымасць адкрыта выступіць у друку з пераглядам несправядлівых ацэнак.

наў (15 працэнтаў) і 3,7 тысячы кандыдатаў у члены партыі (25 працэнтаў).

З'яўляюцца і «навуковыя» працы, якія тэарэтычна і гістарычна абгрунтоўвалі разгром нацыянал-дэмакратызму. У прыватнасці, А. Гаруновіча — «Супраць нацыянал-дэмакратызму і шавінізму розных колераў» (1930 год), С. Вальфсона — «Ідэалогія і метадалогія нацдэмакратызму» (1931 год), А. Зюзькова — «Крывавы шлях беларускай нацдэмакратыі» (1931 год). Героі і ахвяры свайго часу! Зюзькоў у 1937 годзе таксама будзе рэпрэсіраваны.

І ўжо можна было не турбавацца нават аб вонкавай доказнасці абвінавачванняў як ранейшых, так і новых, што знайшло яскравы адбітак у ацэнках У. Ігнатоўскага. У пастанове аб'яднанага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б (снежань 1933 года) чытаем: «У 1929—1930 гадах КП(б)Б выкрыла і разграміла нацдэмаўскую контррэвалюцыйную арганізацыю. (Лёсік, Некрашэвіч, Краскоўскі і інш.), члены якой (Ігнатоўскі, Жылуновіч, Баліцкі, Адамовіч і інш.) пралезлі ў партыю і як правакатары, двурушнікі ажыццяўлялі на справе дырэктывы замежных капіталістаў, імкнучыся шляхам аддзялення Савецкай Беларусі ад Савецкага Саюза адрадзіць у Беларусі ўладу капіталістаў і памешчыкаў і ператварыць яе ў сваю калонію.

Так, нават фармальна не асуджаны, мёртвы У. Ігнатоўскі і яшчэ жывы, яшчэ нават не арыштаваны З. Жылуновіч ужо атрымалі сваё кляймо. На дзесяцігоддзі наперад. Імя Усевалада Макаравіча яшчэ не раз усплыве на публічных і патаемных працэсах, на розных пленумах і пасяджэннях другой паловы 30-х: у злачынных сувязях з ім абвінавацяць не адну новую ахвяру рэжыму.

Сувязь сапраўды была, толькі іншая. У трагічнай лініі «абвастрэння класавай барацьбы» відавочна непасрэдная пераемнасць «справы» СВБ са сфабрыкаванай у 1937 годзе «справай» аб існаванні быццам бы ў Беларусі аб'яднанага антысавецкага падполля, нацыянал-фашысцкай

арганізацыі на чале з кіраўнікамі рэспублікі М. Гікалам, М. Галадзедам, А. Чарвяковым. Усяго ў ходзе чыстак і рэпрэсій рэспубліканская партыйная арганізацыя страціла больш за 40 працэнтаў свайго складу. Распачатае ў канцы 20-х гадоў паляванне на беларускую інтэлігенцыю на зыходзе 30-х набыло масавы характар. Па няпоўных даных, у тыя гады было арыштавана больш за 90 членаў Саюза пісьменнікаў БССР, больш за палову якіх загінула ў лагерах і турмах. Максім Гарэцкі, Уладзіслаў Галубок, Міхась Чарот, Міхась Зарэцкі, Алесь Дудар, Андрэй Мрый, Платон Галавач — сузор'е слаўных імёнаў, што ўзышлі на небасхіле беларускай літаратуры якраз у 20-я гады, якраз на строме палітыкі беларусізацыі пад непасрэднай апекай Усевалада Макаравіча. Больш за 100 вучоных страціла ў гэтыя гады Акадэмія навук, стварэнню, развіццю якой столькі сіл аддаў зноў жа Ігнатоўскі. Масавыя рэпрэсіі вынішчылі значную частку работнікаў мастацтва, касой прайшліся па настаўніцкай інтэлігенцыі. Колькі талентаў загінула, не раскрылася, колькі кніг не напісана, колькі адкрыццяў не адбылося. Беларуская інтэлігенцыя, скарб нацыі, які назапашваўся дзесяцігоддзямі, была ўмомант амаль вынішчана.

Каб зразумець гэтую агульную трагедыю беларускай інтэлігенцыі і ў яе рэчышчы трагедыю У. Ігнатоўскага, трэба ўсвядоміць, што разгром нацыянал-дэмакратызму — з'ява не лакальная. Яна — лагічны вынік звышцэнтралізацыі, усталявання жорсткай бюракратычна-каманднай, казарменнай сістэмы наогул, заснаванай на рэжыме асабістай улады. Сталінская наменклатура з яе прынцыпам назначэння зверху не магла мірыцца з вылучэннем мясцовых кадраў. Вялікую небяспеку для яе ўяўляла і адукаваная, самастойна думаючая інтэлігенцыя, якая вырасла з нацыянальных каранёў, выйшла з сялянства. Таму лагічна было першы ўдар нанесці менавіта па інтэлігенцыі: рускай, беларускай, украінскай, грузінскай,.. па нацыянальных рэспубліках, чый суверэнітэт быў галоўнай

перашкодай на шляху стварэння таталітарнай сістэмы, дзяржавы унітарнага тыпу. І таму лёс такіх, як Ігнатоўскі, быў прадвызначаны.

Гэтак жа, як і пакутлівы лёс большасці членаў іх сем'яў. Яны былі небяспечныя рэжыму не толькі крыўдай сваёй за расправу над мужам, бацькам, але і як магчымыя носьбіты, аднаўленцы іх ідэй. Пытанне: «За што?» магло прывесці іх да разумення заганнасці, злачыннасці такога рэжыму.

Лёс сыноў і жонкі Усевалада Макаравіча не стаў выключэннем. У 1937 годзе арыштуюць Марыю Севасцьянаўну і як «члена сям'і здрадніка радзімы» асудзяць на восем гадоў лагераў. Сына Юрыя, які працаваў слесарам на заводзе імя Варашылава ў Мінску, і Валянціна, якому ўдалося ўладкавацца тэхнікам Белшклотрэста, абвінавацяць у стварэнні тэрарыстычнай арганізацыі з мэтай забойства кіраўнікоў рэспублікі Гікала, Галадзеда, Чарвякова. Прысуд — расстрэл. Карнікаў нават не спыніць тое, што названыя кіраўнікі рэспублікі на той момант ужо самі будуць рэпрэсіраваны як ворагі народа, стваральнікі антысавецкай контррэвалюцыйнай арганізацыі. Здавалася б, узнагароджваць трэба было хлопцаў. Такая вось горкая іронія. Марыі Севасцьянаўне ўдалося ацалець: у 1943 годзе яе выпусцяць і нават дазволяць выехаць на жыхарства да старэйшага сына. Памерла яна ў 1952 годзе.

Толькі старэйшага сына Міхаіла мінуў агульны лёс. У 1930 годзе пасля заканчэння сацыяльна-гістарычнага аддзялення педагагічнага факультэта БДУ быў накіраваны ў Оршу выкладчыкам у прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча, але пасля смерці бацькі яго звальняюць. Вяртаецца ў Мінск, працуе выкладчыкам гісторыі і грамадазнаўства ў розных сярэдніх навучальных установах. За тры гады — чатыры месцы працы. Аб прычыне здагадацца няцяжка — звальненні. Кляймо на бацьку паступова пераходзіла на сына. Над ім першым з сям'і пачалі

згушчацца хмары, што і прымусіла яго ў 1934 годзе тэрмінова з'ехаць з Мінска аж у Заходнюю Сібір, на «Кузнецкбуд», і такім чынам выслізнуць з поля зроку АДПУ. Там, у Сібіры, і пражыў Міхаіл Усеваладавіч звыш трыццаці гадоў. Будаваў Кузнецкі металургічны камбінат, затым працаваў на яго прадпрыемствах (Мундыбашская абагачальная фабрыка, Тэльбескі руднік, Горнае ўпраўленне, Мазульскі і Таштагальскі руднікі), прайшоў шлях ад электрыка да інжынера. Там сустрэўся з Антанінай Мадэстаўнай Рэмел, якая і стала яго жонкай. Там у іх нарадзіліся ў 1947 годзе — сын Георгій, у 1952 — дачка Таццяна. Толькі ў 60-х гадах М. Ігнатоўскаму з сям'ёй удалося вярнуцца ў родны Мінск. І толькі дзякуючы яго намаганням, яго настойлівым хадайніцтвам, у 1956 годзе былі рэабілітаваны маці і браты. А вось праўдзівага слова пра бацьку, якому застаўся адданы, не здрадзіў, не дачакаўся: памёр Міхаіл Усеваладавіч у 1986 годзе.

...У далёкім 1931 годзе згас да пары ліхтарык яго жыцця. Здавалася, на векі вечныя паглынула яго цемра сталіншчыны. Але вось прайшоў час. І прыйшоў час. І яркія промні яго думак, яго спраў пранізалі імглу паўвекавога нябыту, хлусні, паклёпаў. Вяртаюцца са спецсховаў да чытача яго працы, а некаторыя ўжо перавыдаюцца. Яны не састарэлі, яны патрэбныя нам і сёння. Рыхтуецца да друку зборнік дакументаў аб жыцці і дзейнасці У. Ігнатоўскага. Адкрываюць архівы свае таямніцы, і са старонак дакументаў паўстае веліч яго ўкладу ў найвыдатнейшую справу, якой адзначаны гады 20-я — справу беларусізацыі. Справу, вопыт якой так спатрэбіўся ў час новай хвалі адраджэння беларускай культуры. Вопыт, які ўжо працуе, ужо прынёс свой плён пры падрыхтоўцы «Закона Беларускай ССР аб мовах у Беларускай ССР», прынятага ў снежні 1989 года. І колькі яшчэ прынясе.

У 1990 годзе У. Ігнатоўскі рашэннем ЦК КПБ адноўлены (пасмяротна) у партыі, гэта значыць рэабілітаваны палітычна. Шырока была адзначана ў рэспубліцы 110-я

гадавіна з дня нараджэння Усевалада Макаравіча: прайшлі навуковыя чытанні ў Акадэміі навук, канферэнцыя ў Брэсцкім педагагічным інстытуце, змястоўныя артыкулы аб яго жыцці і дзейнасці надрукавалі бадай што ўсе рэспубліканскія газеты, на будынку былога Інстытута беларускай культуры ўстаноўлена мемарыяльная дошка, якая ўшаноўвае памяць аб У. Ігнатоўскім, прынята рашэнне аб прысваенні адной з вуліц Мінска яго імя.

Вяртаецца, вярнуўся да нас з палону паклёпаў і нябыту Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі.

ЗМЕСТ

